*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 4 красавіка 1986 г. № 14 (3320) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



Галінка-вярбінка.

Фотаэцюд А. БАЙДАК.

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

# МУЗЫКА І ЧАС

## НА VII УСЕСАЮЗНЫМ З'ЕЗДЗЕ КАМПАЗІТАРАЎ

З жывым адчуваннем часу, дачынення да здзяйсненняў і задум савецкага народа працуюць майстры многанацыянальнага музычнага мастацтва нашай краіны. Поўнасцю разумеючы ўсю меру адказнасці за маральнае здароўе грамадства, духоўны клімат, у якім жывуць людзі, яны імкнуцца сваёй творчасцю глыбей асэнсоўваць праўду жыцця ва ўсёй яго мнагаграннасці, ствараць творы, патрэбныя народу.

Вынікі работы, праведзенай за апошнія гады, задачы дзеячаў савецкай музыкі на сучасным этапе сацыялістычнага будаўніцтва абмяркоўваюць дэлегаты VII Усесаюзнага з'езда кампазітараў. 1 красавіка ён адкрыўся ў Маскве, у Вялікім Крамлёўскім палацы.

Працяглымі апладысментамі сустрэлі прысутныя таварышаў **Гарбачова М. С., Аліева Г. А., Варатнікова В. І., Грамыку А. А., Зайкова Л. М., Саломенцава М. С., Чэбрыкава В. М., Шэварднадзе Э. А., Дземічава П. Н., Далгіх У. І., Ельцына Б. М., Сакалова С. Л., Талызіна М. У., Бірукову А. П., Дабрыніна А. Ф., Зімяніна М. В., Мядзведзева В. А., Нікaнава В. П., Якаўлева А. М.**

У прэзідыуме таксама прадстаўнікі партыйных, савецкіх, грамадскіх арганізацый, вядомыя дзеячы савецкага музычнага мастацтва, кіраўнікі творчых саюзаў. Прысутнічаюць зарубежныя госці — кампазітары і музыказнаўцы з рада краін.

Уступным словам з'езд адкрыў адзін са старэйшых савецкіх кампазітараў **Д. Б. Кабалеўскі.** Увагу Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы да нашага з'езда, заявіў ён, мы ўспрымаем як нагляднае пацвярджэнне таго, што справа, якой мы, музыканты, прысвяцілі сваё жыццё, з'яўляецца важнай і неабходнай часткай усіх агульнанародных спраў, спраў дзяржаўнага значэння.

Глыбокім хваляваннем адклікнулася ў душы і свядомасці кожнага чалавека выступленне па савецкім тэлебачанні Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, які прама, адкрыта, нічога не змякчаючы, расказаў аб складанай і небяспечнай абстаноўцы, узнікшай сёння ў свеце, аб велізарнай адказнасці, якая кладзецца на ўсіх нас. Нам трэба зрабіць самыя сур'ёзныя вывады для сябе, паказаць, наколькі мы здольныя мабілізаваць усе сілы музыкі, каб у гэты важны момант чалавечай гісторыі яна не засталася ўбаку і ўнесла свой дзейсны ўклад у вялікую барацьбу за мір.

Са справаздачным дакладам праўлення Саюза кампазітараў СССР выступіў першы сакратар праўлення **Ц. М. Хрэннікаў.**

Наш з'езд праходзіць у знамянальны час, сказаў ён. Яшчэ і месяца не прайшло, як закончыў сваю работу XXVII з'езд КПСС. Гэта быў сапраўды з'езд абнаўлення, прасякнуты небывалым дынамізмам, канкрэтнасцю, дзелавітасцю. Гаворачы мовай музыкантаў, ён паставіў тую тактавую рысу, за якой пачынаецца новы тэмп і рытм нашага руху наперад.

У Палітычным дакладзе ЦК КПСС з'езду, у дакументах, прынятых на ім, падкрэслена ўзрастаючая роля мастацтва, яго ўздзеянне на грамадства, на кожнага чалавека. Мы маем права ганарыцца тым ганаровым месцам, якое займае музыка ў жыцці сучаснікаў. Грамадскае прызнанне — вось мера сапраўднай каштоўнасці творчасці. Савецкі мастак не толькі сведка і летапісец, але і ўдзельнік стварэння новага свету.

Добрая традыцыя савецкай музыкі — актыўнае ўмяшанне ў жыццё, імкненне паўней і ярчэй адлюстроўваць рэчаіснасць, уздзейнічаць на яе сродкамі мастацтва.

Мы зноў і зноў пераконваемся, што дэмакратычнасць, сувязь з жыццём жывяць мастацтва сацыялістычнага рэалізму, у аснове якога ляжаць ленінскія прынцыпы партыйнасці і народнасці. Непахіснасць гэтых асноватворных прынцыпаў пацверджана ў новай рэдакцыі Праграмы КПСС. І гэта заканамерна, бо іменна партыйнасць і народнасць нашага мастацтва дазволілі яму даказаць сваю правату і плённасць у бітве за чалавечыя душы ў ідэалагічных схватках сучаснасці.

Дзейнасць нашай творчай арганізацыі была накіравана на ўсямернае ўмацаванне сувязей музычнага мастацтва з задачамі камуністычнага будаўніцтва, умацаванне кантактаў майстроў мастацтваў з шырокай аўдыторыяй. Усюды праходзяць цяпер Дні савецкай музыкі, увайшлі ў практыку дагаворы аб творчай садружнасці паміж саюзамі кампазітараў і буйнейшымі прадпрыемствамі, аграпрамысловымі аб'яднаннямі.

Усё больш рашуча асвойваецца нядаўняя музычная цаліна—вялікія рэгіёны Сібіры і Далёкага Усходу. Неад'емнай часткай мастацкага жыцця сталі шматлікія фестывалі, абменныя дні савецкай музыкі паміж рэспублікамі, а іх кульмінацыяй — штогадовыя ўсесаюзныя фестывалі, многія з якіх сумяшчаюцца з пленумамі праўлення або выязнымі пасяджэннямі сакратарыята. Вынікі такіх фестываляў падводзяцца, як правіла, на спецыяльных канферэнцыях пад дэвізам «Музыка і слухач». Нароўні са спецыялістамі тут атрымліваюць права голасу самі слухачы — рабочыя, сельскія працаўнікі, навучэнцы, воіны. Такая публічнасць у самым прамым сэнсе слова — публічнасць музыкі! — дазваляе вызначыць арыенціры нашага руху, своечасова карэкціраваць свой курс.

Гэтыя ўсесаюзныя акцыі, якія праходзілі ў розных цэнтрах краіны і былі прысвечаны магістральным праблемам музычнага мастацтва, пераканаўча пацвердзілі, што сёння ўжо неправамерна гаварыць аб якой бы там ні было перыферыі на нашай музычнай карце.

Не толькі майстэрства, але і ўзровень мастацкага мыслення ва ўсіх без выключэння рэспубліках адпавядае найвышэйшым сусветным крытэрыям. Пры гэтым надзвычай важна, што не страчваецца нацыянальная своеасаблівасць, сувязь з народнымі вытокамі майстроў розных рэспублік, якія стаяць на адзінай ідэйна-эстэтычнай платформе. Узаемаабмен творчымі каштоўнасцямі становіцца магутным паскаральнікам развіцця нашай музыкі.

Думаючы аб сённяшнім дні савецкай музыкі, адзначыў дакладчык, мы ў той жа час абавязаны клапаціцца аб яе будучыні, аб тых, каму трэба будзе несці яе сцяг у XXI стагоддзе. Кіруючыся палажэннямі пастановы Цэнтральнага Камітэта КПСС «Аб рабоце з творчай моладдзю», мы імкнёмся павысіць яе ролю ў жыцці саюза. Прыкметна амаладзілася ў апошні час кіраўніцтва многіх нашых арганізацый. Рэгулярна праводзяцца агляды творчасці моладзі, лепшыя творы ўключаюцца ў праграмы розных фестываляў. Для маладых аўтараў характэрна імкненне звяртацца да тэм вялікага грамадзянскага гучання, знаходзіць новыя шляхі ў асваенні нацыянальных традыцый. Разам з тым трывожыць, што ў партытурах маладых часам праяўляецца і сляпое перайманне моды, і імкненне ўразіць слухачоў экстравагантнымі гукаспалучэннямі, і надуманая глыбакадумнасць, мнагаслоўнасць. Заахвочваючы маладых аўтараў пісаць аб сучаснасці і для сучаснікаў, саюз арганізуе іх паездкі па краіне, на новабудоўлі і буйныя прадпрыемствы, да працаўнікоў вёскі. І кансерваторыі маглі б зрабіць нямала, каб наблізіць навучальную практыку да патрабаванняў жыцця.

Ахарактарызаваўшы асноўныя тэндэнцыі і перспектывы развіцця музыкі, прамоўца падкрэсліў, што разнастайнасць яе велізарная, панарама — неаглядная. Савецкія кампазітары чэрпаюць натхненне ў нягасных старонках нашай рэвалюцыйнай гісторыі, у подзвігах абаронцаў Радзімы, працоўных здзяйсненнях сённяшняга дня.

Яны ўслаўляюць шчасце свабоднага жыцця ў сям'і брацкіх народаў, імкнуцца раскрыць духоўнае багацце савецкага чалавека, яго ўпэўненасць у праваце нашай вялікай справы, рашучасць абараніць і ўмацаваць мір на планеце.

Адзін з важнейшых раздзелаў музычнай творчасці — сімфанічная музыка. Яе традыцыі, у многім страчаныя ў мадэрнісцкіх блуканнях на Захадзе, захаваліся, набылі новую якасць і працягваюць узбагачацца ў многанацыянальным савецкім мастацтве. У лепшых сімфанічных творах б'ецца пульс часу, яны ўспрымаюцца як водгук на важнейшыя падзеі нашага жыцця, як роздумы мастакоў аб часе і аб сабе.

Важнае месца ў музычным жыцці займаюць канцэртныя жанры, звязаныя са словам, з літаратурным тэкстам, — араторыі, кантаты, хоры, буйныя вакальныя творы, здольныя ўздзейнічаць на шырокія масы як музыкай, так і словам.

Больш цеснымі і мнагаграннымі сталі сувязі харавой музыкі з фальклорнымі вытокамі.

Вялікую ўвагу дакладчык удзяліў развіццю музычнага тэатра, у якім асабліва выразна праяўляецца сінтэз розных жанраў мастацтва. Любое смелае і па-мастацку апраўданае рашэнне, на якое адклікнецца аўдыторыя, сказаў ён, можна толькі вітаць, няхай нават яно не адразу выкліча адабрэнне строгіх прыхільнікаў традыцый. Але сур'ёзная тэатральная задума не церпіць спрашчэнства, драбнатэмнасці, драматургічнай рыхласці, і многае тут залежыць ад якасці лібрэта. Аднак амплуа лібрэтыста стала неяк непрэстыжным сярод прафесіянальных драматургаў. Настала пара зноў адрадзіць творчы саюз з пісьменнікамі, які пойдзе на карысць савецкаму музычнаму мастацтву.

Асаблівае месца ў духоўным арсенале сацыялістычнага грамадства займае савецкая песня, якая стала законнай пераемніцай рэвалюцыйных мелодый народаў свету, прадоўжыла і развіла іх традыцыі ва ўмовах новага грамадства. Разуменнем важнасці ідэйна-выхаваўчай функцыі песні дыктавалася і мастацкая палітыка Саюза кампазітараў, і яго канкрэтныя акцыі. У прыватнасці, правядзенне кампазітарскіх і выканальніцкіх конкурсаў, вынікам якіх стала паяўленне рада таленавітых твораў, напісаных да знамянальных дат у жыцці краіны — 110-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, 60-годдзя ўтварэння СССР, 40-годдзя Перамогі, да XXVII з'езда КПСС. Рашучы крок за межы сваіх рэспублік зрабіла творчасць цэлай плеяды таленавітых кампазітараў, што сведчыць аб уздыме песеннай творчасці ў рэспубліках, аб сапраўдным інтэрнацыяналізме нашай музыкі.

Але, на жаль, сярод тысяч песень, якія гучаць па радыё, тэлебачанні, на вялікіх і малых эстрадах, вельмі многія не адпавядаюць высокім патрабаванням. Асабліва наглядна гэта праявілася ў апошні перыяд імклівага і бескантрольнага распаўсюджання вакальна-інструментальных ансамбляў. І рэпертуарам, і манерай выканання яны, як правіла, слепа капіруюць тыя ўзоры, якія настойліва ўкараняюцца ў свядомасць моладзі буржуазнай камерцыйнай машынай шоу-бізнесу. З яго дапамогай у краінах капіталу моладзь усяляк спрабуюць адвесці ад вострых сацыяльных праблем. Нездарма гэту музыку так ахвотна бяруць на ўзбраенне тыя, хто прафесіянальна займаецца ідэалагічнай дыверсіяй супраць краін сацыялізму.

Цяпер прымаюцца сур'ёзныя меры для ўпарадкавання дзейнасці вакальна-інструментальных ансамбляў, якія яўна адчуваюць недахват добротнага музычнага матэрыялу. Такі папрок у наш адрас прагучаў і з трыбуны XXVII з'езда КПСС. Даць моладзі па-сапраўднаму цікавы, сугучны часу песенны рэпертуар — такая задача пад сілу савецкім кампазітарам!

Дакладчык падрабязна спыніўся на праблемах так званай масавай музыкі, але якая за апошні час іменна гэту якасць — масавасць — у многім страціла. Гэта ў пэўнай ступені адносіцца да духавой музыкі, якая некалі адыгрывала велізарную ролю ў эстэтычным выхаванні, далучэнні людзей да мастацтва.

Увесь лад нашага жыцця, роля, якую адыгрывае ў ім мастацтва, прымушае нас пастаянна думаць аб эстэтычным выхаванні дзяцей і юнацтва — тых, каму належыць заўтрашні дзень сацыялістычнай дзяржавы. Шырокі прастор для прыкладання сіл музыкантаў адкрывае школьная рэформа. Мінула стадыю эксперыменту ўводзіцца ў практыку праграма абучэння музыцы, распрацаваная пад кіраўніцтвам нашага выдатнага кампазітара Д. Б. Кабалеўскага.

Вялікае месца ў дакладзе было адведзена музычнай навуцы і крытыцы, закліканым даследаваць заканамернасці развіцця савецкай музыкі — прынцыпова новай з'явы сусветнай культуры, праблемам музычнай прапаганды. Важную ролю ў распаўсюджанні музычнага мастацтва, далучэнні да яго мільёнаў працоўных заклікана адыграць Усесаюзнае

ПОСТУП ТЫДНЯ

# ЭКСПАЗІЦЫІ — XXVII З'ЕЗДУ КПСС

У фае кінатэатра «Кастрычнік» адкрыта фотавыстаўка «Партыя, якая змагаецца», падрыхтаваная па матэрыялах Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і прысвечаная XXVII з'езду КПСС. На 12 стэндах выстаўкі каля ста фотаздымкаў разам з тэматычнай інфармацыяй. Кожны са стэндаў мае ўласны загаловак: «Па закліку партыі», «З імем Леніна», «Ваенны камісар», «Палітработнік — у любых абставінах», «У партыю ішлі лепшыя», «Камуністы — наперад!», «Камсамол — баявы памочнік партыі», «Слова партыі», «Тыл — фронту», «Выконваючы інтэрнацыянальны абавязак», «Вораг разбіты!», «Перамога за намі!», «На баявых традыцыях».

XXVII з'езду КПСС прысвечана і дакументальная выстаўка «Беларускія кінематаграфісты ад з'езда да з'езда». 11 фотастэндаў расказваюць пра фільмы «Ідзі і глядзі», «Людзі на балоце», «Белыя Росы», «Усходні рубеж», іншыя мастацкія фільмы кінастудыі «Беларусьфільм». У інфармацыі паведамляецца, што гэта кінастудыя штогод выпускае шэсць мастацкіх агульнаэкранных фільмаў, 12 тэлевізійных серый, 120 частак дакументальных і навукова-папулярных, тры мультыплікацыйныя фільмы.

В. АСТРЫНСКІ.

# МАСТАЦТВА СЛУЖЫЦЬ МІРУ

Артысты з французскага горада Нансі падарылі мінскай публіцы тры вечары аднаактовых балетаў на музыку кампазітараў-класікаў і сучасных аўтараў. Асаблівы поспех мела «Сімфонія рэ мажор» І. Гайдна. Элен Траілін, мастацкі кіраўнік балетнай трупы, расказала, што ў Маскве і Ленінградзе трупа паказала 14 спектакляў:

— У Савецкім Саюзе мы ўпершыню, а пра тое, што ў вас дасведчаная і патрабавальная публіка, вядома танцоўшчыкам усяго свету. Лічу, што паездкі, падобныя на гэту, не толькі даюць багаты матэрыял для творчага роздуму, але і садзейнічаюць наладжванню ўзаемаразумення паміж народамі, служаць справе захавання міру на зямлі.

Вечарам, пасля спектакля, твар Э. Траілін свяціўся радасцю:

— Мяркуючы па рэакцыі залы, сустрэча з мінскім гледачом удалася. Мы рады, што наша мастацтва знайшло водгук у вашых сэрцах.

Кар. БЕЛТА.

# МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЧАЙ КНІГІ

Па традыцыі штогод 2 красавіка, у чарговую гадавіну з дня нараджэння найвялікшага казачніка планеты Х. К. Андэрсена, адзначаецца Міжнародны дзень дзіцячай кнігі, які ў нашай краіне становіцца адначасова і падвядзеннем вынікаў выдавецкай дзейнасці па выпуску кніг для дзяцей і юнацтва.

Радуюць і поспехі выдавецтва «Юнацтва». Штогод у ім выходзіць 150—160 назваў кніг агульным тыражом 10—13 мільёнаў экземпляраў. За адзінаццатую пяцігодку выдавецтва выпусціла 700 назваў кніг, тыраж якіх склаў 55 мільёнаў экземпляраў.

Вядома, у выдавецкіх планах значнае месца займаюць і казкі, у тым ліку і творы Х. К. Андэрсена. Толькі за апошнія гады тыраж іх у рэспубліцы наблізіўся да мільёна экземпляраў.

У Міжнародны дзень дзіцячай кнігі і па рэспубліканскім радыё выступіў вядомы паэт, які шмат піша і для дзяцей, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» А. Грачанікаў.

В. ЦЯРЭШКА.

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА




# СЦВЯРДЖЭННЕ НОВАГА

**З першым намеснікам старшыні Дзяржаграпрама БССР, міністрам Я. Ф. СУХАРУКАВЫМ гутарыць карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва»**

**Калі ў сярэдзіне сакавіка я прыйшоў у гэты фундаментальны шэры будынак з калонамі, на ягоным фасадзе яшчэ вісела старая шыльда: «Міністэрства сельскай гаспадаркі». Ды і ў вестыбюлі старыя указальнікі паказвалі, дзе знаходзяцца кабінеты міністра, яго намеснікаў, розных упраўленняў і аддзелаў. Я нават жартам звярнуў увагу памочніка Я. Ф. Сухарукава Валяр'яна Дамінікавіча Шабуневіча на гэтыя шыльды. Ён адказаў сур'ёзна, што гэта ўсё, што засталося ад былога міністэрства. А новыя шыльды і ўказальнікі, маўляў, яшчэ не паспелі зрабіць.**

**Шыльда шыльдай, але вось ужо некалькі месяцаў тут знаходзіцца штаб аграпрамысловага комплексу рэспублікі. Адсюль кіруюць не толькі тысячамі калгасаў і саўгасаў, а ўсёй перапрацоўчай прамысловасцю — мяса-малочнай, харчовай, пладова-агароднінай, усім сельскім будаўніцтвам, аб'яднаннямі «Сельгастэхнікі», матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем і вытворчым абслугоўваннем вёскі, нарэшце, навукова-даследчымі інстытутамі, якія раней належалі да розных міністэрстваў.**

**Думаеш пра ўсё гэта, і ў галаву прыходзіць крамольная думка — ці можна ахапіць неабдымнае? Хоць, з іншага боку, зразумела, што кіраваць сельскай гаспадаркай па-ранейшаму таксама нельга...**

**З гэтага, можна сказаць, і пачалася наша гутарка з першым намеснікам старшыні Дзяржаграпрама БССР, міністрам Ягорам Фёдаравічам Сухарукавым.**

— Наконт вашага выразу: ахапіць неабдымнае... Я не думаю, што гэтае вызначэнне падыходзіць да дадзенай сітуацыі. Дзяржаграпрам — гэта не групка людзей, якія, седзячы ў кабінетах, узялі на сябе ўсе функцыі былых міністэрстваў. Аграпрам — гэта цэлая сістэма, якая ахоплівае кожны раён рэспублікі. Што тычыцца былых міністэрстваў, дык, фактычна, выпрацаваная дзесяцігоддзямі сістэма кіравання галінамі засталася. Іншая справа, што міністэрствы, якія ўвайшлі ў аграпром, раней былі агароджаны адно ад аднаго ведамаснымі бар'ерамі, якія, было часам, не пераскочыць... Напрыклад, жывёлагадоўляй і перапрацоўкай яе прадукцыі займаліся два міністэрствы — сельскай гаспадаркі і мясамалочнай прамысловасці. Цяпер гэтыя пытанні сканцэнтраваны ў адным упраўленні. Уяўляеце, наколькі больш гнуткай, мэтанакіраванай, эканамічнай стане сістэма кіравання жывёлагадоўляй і перапрацоўкай мяса і малака? Не будзем, вядома, скідваць з рахунку і тое, што пры рэарганізацыі былі скарочаны не адзін дзесятак пасад, без якіх зараз можна і абысціся.

**— Сапраўды, мне неадночы даводзілася чуць ад кіраўнікоў гаспадарак, што пры здачы жывёлы на мясакамбінат часам узнікалі канфліктныя сітуацыі. Калгасу ідзе ў залік толькі чыстая вага таго ж адкормачніка, а праверыць «чыстую» вагу прадстаўніку гаспадаркі амаль немагчыма, бо яго на камбінат не пускаюць.**

— Я пра гэта ведаю. Ды і Міністэрства мяса-малочнай прамысловасці скаргі калгасаў і саўгасаў да сэрца, мякка кажучы, не прымала. У яго быў адзіны клопат—выконваць свой план.

**— Я чытаў у цэнтральным друку, што мінулай зімой у адной з абласцей, здаецца, на Валагодчыне, некалькі соцень буйной рагатай жывёлы, якую прыгналі на мясакамбінат, стаяла тут у «чарзе» на пляцоўцы пад чыстым небам някормленай некалькі тыдняў. У што ператварыліся тыя адкормачнікі, гаварыць не трэба. Уяўляеце, колькі тут не дабралі мяса...**

— У нас у рэспубліцы такіх абуральных фактаў не здаралася. Але праблем з усім гэтым было нямала. Цяпер усё ідзе, як кажуць, у адну кішэню, ці з адной кішэні. Пакрыўджаных не павінна быць. Вось я вам прывяду такі факт: за два месяцы гэтага года план па перапрацоўцы мяса перавыкананы.

**— Ягор Фёдаравіч, мінулым летам мне давялося быць у Дзяржынскім раёне, дзе я цікавіўся менавіта працай РАПА. Але пад новай шыльдай, і я пра гэта напісаў, фактычна «хавалася» традыцыйнае раённае ўпраўленне сельскай гаспадаркі. Усе арганізацыі, якія, зноў жа фармальна, уваходзілі ў РАПА, належалі да пяці ці шасці міністэрстваў і дзьмулі, фігуральна кажучы, кожны ў сваю дуду. Інтарэсы раёна былі ім фактычна да лямпачкі. Мне шчыра прызнаўся тады галоўны інжынер «Райсельгастэхнікі», што ў іх адзін начальнік — абласны, які патрабуе з іх выканання плана, плаціць ім зарплату, дае прэміі, прагрэсіўкі і г. д. «Нам трэба «зрабіць» за год свой мільён рублёў і мы яго «робім» усімі сродкамі — выгадна гэта раёну ці не,— казаў ён,— шукаем працаёмкія аб'екты, за якія добра плацяць».**

— Гэта застанецца ўсё ў мінулым. «Сельгастэхніка» будзе рабіць, як трэба, дзе трэба і калі трэба... І наогул, адказваючы на вашу рэпліку, хачу падкрэсліць, што раённае аграпрамысловае аб'яднанне сёння ўжо не шыльда, а дзейсны механізм. Раённыя ўпраўленні сельскай гаспадаркі, як вы ведаеце, скасаваны, і ўся ўлада па кіраўніцтве сельскагаспадарчай вытворчасцю сканцэнтравана зараз у РАПА, старшыня савета якога адначасова з'яўляецца першым намеснікам старшыні райвыканкома. Улада гэтая не ўяўная—аграпрамысловае аб'яднанне можа планаваць, пераразмяркоўваць капітальныя асігнаванні, накіроўваючы іх на ліквідацыю вузкіх месцаў. Цяпер кіраўнікі «Сельгастэхнікі» ці той жа «Сельгасхіміі» не змогуць ужо спасылацца на сваё абласное начальства, якому былі блізкія толькі свае ведамасныя інтарэсы. Цяпер у калгасаў і саўгасаў, іншых членаў РАПА адно агульнае «начальства», для якога ўсе партнёры роўныя.

Але я не хацеў бы, каб у чытача склалася ўяўленне, быццам усё у нас ідзе гладка, без цяжкасцей. Праблем хапае. Я б сказаў, галоўная з іх—пераадоленне старога мыслення, старых стыляў і метадаў кіравання нашымі кадрамі. Хапае і чыста арганізацыйных цяжкасцей. Пры аб'яднанні шасці міністэрстваў і ведамстваў у аграпрам было скарочана да трыццаці працэнтаў былога штату. Скажам, з шасці ранейшых планавых упраўленняў зроблены адзін аддзел, тое самае адбылося з такімі падраздзяленнямі, як матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, капітальнае будаўніцтва, навука і г. д. Тут мы сутыкнуліся з вельмі вялікім аб'ёмам работ і пакуль што ёсць пэўныя складанасці...

**— Ці не атрымаецца, што з цягам часу давядзецца зноў набіраць людзей? Такое ж здаралася...**

— Не. Праблемы, пра якія я казаў, вырашальныя. Вы ж улічыце, што справа новая, яшчэ няма належнага вопыту, не адпрацаваны як след увесь механізм, некаторыя «шасцерні» яшчэ там-сям рыпяць... Але, паўтараю, мы гэта пераадолеем.

**— Ягор Фёдаравіч, мы ўжо закранулі пытанні інтэграцыі сельскай гаспадаркі з перапрацоўчай прамысловасцю. Хацелася б, каб вы спыніліся на гэтай праблеме больш падрабязна. І ў час уборкі, транспарціроўкі, пры захаванні сельскагаспадарчай прадукцыі вельмі многа яе ідзе ў глум. Бульбы і гародніны, я чытаў, траціцца да дваццаці — трыццаці працэнтаў. Як пераадолець гэтую бяду?**

— Сапраўды, вы закранулі вельмі балючае пытанне. Сёння барацьба са стратамі збожжа, бульбы, пладова-агародніннай прадукцыі набывае першачарговае значэнне, гэта адзін з самых галоўных накірункаў дзейнасці аграпрама рэспублікі. У дванаццатай пяцігодцы запланавана пабудаваць шэраг буйных сховішчаў для бульбы і пладова-агародніннай прадукцыі, абсталяваных механізмамі штучнага клімату, вентыляцыяй і г. д. У рэспубліцы ёсць пэўны станоўчы вопыт арганізацыі гандлю бульбай і гароднінай па схеме: поле — магазін, што дазваляе пазбегнуць страт прадукцыі. Практыка гэта будзе пашырана.

**— Чаму ў нас, Ягор Фёдаравіч, амаль не выпрацоўваюць з бульбы паўфабрыкаты? Купляем мы іх за мяжой, ды, мабыць, мала, бо за імі ў магазіне заўсёды чарга. У адным са сваіх выступленняў першы намеснік старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Дзяржаграпрама СССР В. С. Мураховскі назваў такія лічбы: у нашай краіне ўжываюць у перапрацаваным выглядзе ўсяго 0,5 працэнта сабранай бульбы, у той час як у развітых капіталістычных краінах — ад 30 да 55 працэнтаў. У нашай рэспубліцы ёсць свой навукова-даследчы інстытут, які займаецца (ці павінен займацца) менавіта пытаннямі перапрацоўкі бульбы. А што мы маем на самай справе?**

— Пэўныя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены. На Мар'інагорскім перапрацоўчым заводзе, напрыклад, адпрацавана тэхналогія прыгатавання з бульбы паўфабрыкатаў. Тут устаноўлены лініі, дзе клубні будуць ачышчацца ад лупіння, рэзацца і пасля глыбокай замарозкі расфасоўвацца ў мяшэчкі. Такую бульбу дома застаецца толькі высыпаць на патэльню і падсмажыць...

Плануецца пабудаваць заводы для сушкі бульбы ў Слаўгарадзе і Светлагорску.

Але, разам з тым, відавочна, што нявырашаных праблем у інтэграцыі сельскай гаспадаркі з перапрацоўчай прамысловасцю яшчэ шмат. Вялікім тормазам з'яўляецца і тое, што многія прадпрыемствы былых міністэрстваў маюць састарэлае абсталяванне, наогул, тэхналогія тут не адпавядае сённяшняму дню.

Восенню мінулага года ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову аб паскарэнні развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы перапрацоўчых галін аграпрамысловага комплексу ў дванаццатай пяцігодцы. Гэта дасць нам магчымасць рэканструяваць шэраг такіх прадпрыемстваў, пабудаваць некалькі новых.

**— Ягор Фёдаравіч, неяк у газеце «Известия» быў надрукаваны артыкул старшыні калгаса «Рассвет» імя Арлоўскага двойчы Героя Сацыялістычнай Працы В. Старавойтава, які з гневам расказваў, як яму дыктуе раённае начальства, што сеяць, калі сеяць і ўбіраць і наогул правярае кожны яго крок. А розныя зводкі? Літаральна па сотні розных паказчыкаў трэба даваць справаздачы раёну. І так абыходзяцца з калгасам, вядомым на ўсю краіну! Між тым, у Палітычным дакладзе XXVII з'езду КПСС, які зрабіў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, падкрэсліваецца, што трэба пашырыць самастойнасць калгасаў і саўгасаў, пазбавіць іх дробязнай апекі.**

— Дробязная апека над гаспадаркамі ніколі не прыносіла карысці, некаторых кіраўнікоў яна наогул адвучыла думаць, прымаць уласныя рашэнні. Гэта недапушчальна тым больш цяпер, калі ў дакументах з'езда партыі неаднойчы падкрэслена, што трэба адкрыць прастору эканамічным метадам гаспадарання, узняць зацікаўленасць, адказнасць калгасаў і саўгасаў за канчатковыя вынікі. Але гэта, вядома, не значыць, што павінна знізіцца кіруючая роля райкомаў партыі і райвыканкомаў, якія па-ранейшаму адказваюць за ўсё, што робіцца ў раёне. Іншая справа, што ў многіх месцах трэба змяніць стыль і метады кіраўніцтва сельскагаспадарчай вытворчасцю, як гэта і патрабуюць рашэнні з'езда партыі.

**— У з'ездаўскіх дакументах гаворыцца, што калгасам і саўгасам намечана даваць цвёрдыя па гадах пяцігодкі планы закупак прадукцыі, якія не будуць мяняцца. Адначасова ім даецца магчымасць усё атрыманае звыш плана, а па бульбе, садавіне і гародніне — значную частку і планавай прадукцыі, выкарыстоўваць па сваім меркаванні. Гаспадаркі могуць яе прадаваць дадаткова дзяржаве, рэалізоўваць у свежым ці перапрацаваным выглядзе на калгасным рынку, праз кааператыўны гандаль і г.д. Як гэта, Ягор Фёдаравіч, будзе ажыццяўляцца? У раёне, скажам, ёсць гаспадаркі, у якіх, сапраўды, пасля разліку з дзяржавай застаюцца лішкі, але ёсць і такія, якім, кажучы па-руску: «не до жиру, быть бы живу» — прасцей кажучы, — нерэнтабельныя. Ім і расплаціцца з дзяржавай няма чым. Ці не атрымаецца, што заможны калгас стане яшчэ больш заможным, а бедны застанецца бедным? А мо будзе так, што гэтымі лішкамі будуць затыкацца дзіркі ў эканамічна адстаючых гаспадарках?**

— Ну, па-першае, будзе праведзена вялікая работа па выпрацоўцы цвёрдых планаў кожнай гаспадаркі ў залежнасці ад яе патэнцыяльных магчымасцей. Тут трэба дзейнічаць вельмі асцярожна, я б сказаў,—скрупулёзна. З другога боку, неабходна паставіць, як гаворыцца ў Палітычным дакладзе з'езду, надзейны бар'ер безгаспадарчасці і ўтрыманству, пакласці канец спасылкам на так званыя аб'ектыўныя абставіны.

Адносна таго, як калгасу ці саўгасу распараджацца лішкамі прадукцыі, дык, я думаю, лепш за ўсё іх прадаваць дзяржаве. Яна за гэта добра плаціць.

**— Зараз шмат гавораць і пішуць пра інтэнсіўныя тэхналогіі ў сельскай гаспадарцы, як адным з самых эфектыўных спосабаў рэзкага павелічэння вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі...**

— Адным з прыкладаў такой тэхналогіі з'яўляюцца свінагадоўчыя комплексы, якія знайшлі ў нашай рэспубліцы шырокае распаўсюджанне. Варта ўспомніць саўгас-камбінат імя 60-годдзя БССР у Барысаўскім раёне, дзе вырошчваецца і адкормліваецца да 108 тысяч галоў свіней у год.

Зараз будуецца яшчэ некалькі дзесяткаў свінагадоўчых комплексаў: тры — па 54 тысячы галоў у год, пятнаццаць — па 24 тысячы, дванаццаць — па 12 тысяч. Комплексы, якія ўжо дзейнічаюць, пашыраюцца на 169 тысяч галоў. Ёсць у нас гаспадаркі, напрыклад, саўгас «Мір» Баранавіцкага раёна, якія спецыялізуюцца на адкорме буйной рагатай жывёлы, птушкафабрыкі, якія даюць у год сотні мільёнаў яек, тысячы тон птушынага мяса. Магутнасць іх будзе павялічвацца.

**— Давайце пагаворым, Ягор Фёдаравіч, пра чалавечы фактар. Якія б новыя трактары, камбайны і іншую тэхніку мы б ні набывалі, якую б механізацыю на фермах ні ўкаранялі, у рэшце рэшт усё вырашае працаўнік, яго адносіны да справы. Не мне вам расказваць, што ў нас ёсць вёскі, дзе засталіся адны старыя, а ўся моладзь у горадзе. Як спыніць гэты працэс, як паўсюдна вярнуць страчаную многімі любоў да зямлі, да вясковага жыцця?**

— Так, усё вырашаюць людзі, кадры, якія зацікаўлены працаваць актыўна, прафесійна. Я не адкрыю нічога новага, калі скажу, што чалавечы фактар — паняцце ёмістае. Некаторыя пры гэтым маюць на ўвазе толькі адно — як чалавек ставіцца да сваёй працы, сваіх абавязкаў. Але ж нельга пры гэтым ні на мінутку забываць, што як жыве чалавек, так і працуе. Вось чаму набывае такое значэнне клопат аб умовах працы і быту сельскіх працаўнікоў. Я асабіста лічу, што вясковец перш за ўсё павінен мець добры дом з такімі, як і ў горадзе, выгодамі. Каб, скажам, трактарыст пасля змены мог стаць пад гарачы душ ці залезці ў ванну. Вы ведаеце, у нас нямала вясковых пасёлкаў, забудаваных менавіта такім жыллём. У такіх гаспадарках заўсёды хапае рабочай

(Заканчэнне на стар. 13).

ЛІТАРАТУРНЫЯ ЖАНРЫ: СТАН І ПРАБЛЕМЫ

Міхась МУШЫНСКІ

# АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД ЧАСАМ

У МАТЭРЫЯЛАХ, якія змяшчаюцца пад рубрыкай «Літаратурныя жанры: стан і праблемы», узнята шмат вострых пытанняў, звязаных з сітуацыяй у сучаснай беларускай крытыцы. Мне блізкі і зразумелы псіхалагічны настрой трывогі і грамадзянскай заклапочанасці ўдзельнікаў гаворкі. Вядома, было б неразумна, не па-гаспадарску закрэсліваць тое, што зроблена прадстаўнікамі крытычнай службы. Толькі за апошнія гады выйшла нямала асобных зборнікаў літаратурнай крытыкі, дзе змешчаны артыкулы, якія з поўным правам могуць прэтэндаваць на праблемны, канцэптуальны падыход да сучаснай літаратуры. Да іх ліку можна далучыць змястоўныя калектыўныя зборнікі «Вобраз-83», «Вобраз-85», якія ўсё больш упэўнена набываюць аблічча самастойнага, адметнага выдання. Зборнікі гэтыя заслужана атрымалі шырокі рэзананс у літаратурна-грамадскім асяроддзі.

Што датычыць перыядычнага друку, дык тут таксама з'явіўся шэраг цікавых матэрыялаў, звернутых перш за ўсё да надзённых праблем сучаснай літаратуры. Да ліку лепшых, калі абмежавацца толькі публікацыямі мінулага, 1985 года, на нашу думку, можна аднесці змястоўныя літаратурна-крытычныя артыкулы У. Юрэвіча, Р. Шкрабы, В. Каваленкі, П. Дзюбайлы, Э. Гурэвіч, Ю. Канэ — у часопісе «Полымя»; М. Тычыны, А. Сямёнавай, І. Чароты, Р. Станкевіч — у часопісе «Беларусь»; В. Зуёнка, Т. Бондар, А. Сямёнавай, М. Стральцова, А. Рагулі, Т. Грамадчанка, У. Навумовіча, І. Жука, А. Станюты, С. Дубаўца, С. Кавалёва, Т. Чабан, П. Васючэнкі — у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва»; Г. Шупенькі, Я. Гарадніцкага, Э. Скобелева — у часопісе «Маладосць»; В. Івашчанкі, В. Акудовіча, М. Арочкі, П. Васючэнкі — у часопісе «Неман»; А. Адамовіча, В. Бечыка, А. Яскевіча, Э. Гурэвіч, В. Рагойшы — ва ўсесаюзным друку.

Заслугоўвае ўхвалы і падтрымкі тое, што на старонках нашых літаратурных выданняў, перш за ўсё ў «Літаратуры і мастацтве», нарэшце, пачалі рэгулярна з'яўляцца такія змястоўныя і разам з тым чытэльныя жанравыя формы, як інтэрв'ю, адказы на анкету, дыялог крытыка з пісьменнікам.

Інакш кажучы, ёсць нямала сведчанняў таго, што творчы патэнцыял беларускай крытычнай думкі ў цэлым даволі высокі, але сёння, на жаль, ён не знаходзіць свайго паўнакроўнага, глыбокага выяўлення, крытыка не рэалізуе сваіх магчымасцей.

Дзейснасць крытычнага слова вызначаецца, як вядома, яго рэальным уплывам на жывую творчую практыку, на маральны клімат у літаратурна-творчым асяроддзі, на літаратурны працэс у цэлым. Назвай артыкула — «Каб слова стала справай» — Т. Чабан («ЛіМ», 28.02.1986), на нашу думку, даволі выразна акрэсліла становішча ў сучаснай крытыцы, вызначыла яе істотны недахоп: вельмі часта слова літаратурнага крытыка не дасягае жаданай мэты. Яму не хапае дзейснасці, унутранай энергіі, грамадзянскага пафасу.

Сапраўды, сёння крытычнае слова вельмі часта б'е міма цэлі. Гук, можа, часамі бывае даволі моцны, рэха чутно далёка, а вось рэальнае ўздзеянне крытыкі на літаратуру — нязначнае. Тлумачыцца такое становішча тым, што аўтарам многіх крытычных выступленняў не хапае смеласці даць аб'ектыўную, прынцыповую ацэнку слабым, у мастацкіх адносінах недасканалым творам і негатыўным з'явам у грамадскім і літаратурным жыцці. Работнікам крытычнай службы сёння не хапае па-грамадзянску абвостранага ўспрымання жыцця ў яго шматстайным змесце, у рэальных канфліктах і супярэчнасцях. І яшчэ — шмат каму з крытыкаў бракуе шырыні погляду на літаратуру, на тыя складаныя працэсы і супярэчлівыя тэндэнцыі, якія ў ёй маюць месца.

Ацэнка, якая была дадзена работнікам крытычнай службы на XXVII з'ездзе КПСС, вымагае ад усіх нас высокай самапатрабавальнасці і аддачы. «Натуральны прынцып жыццядзейнасці нашага грамадства — крытыка і самакрытыка. Без іх няма развіцця, — гаворыцца ў Палітычным дакладзе таварыша М. С. Гарбачова. — Літаратурна-мастацкай крытыцы пара скінуць з сябе заспакоенасць і чынашанаванне, якія раз'ядаюць здаровую мараль, памятаючы, што крытыка — справа грамадская, а не сфера абслугоўвання аўтарскіх самалюбстваў і амбіцый».

У святле задач, пастаўленых партыяй перад творчай інтэлігенцыяй краіны, перад майстрамі слова, шмат у чым па-новаму бачыцца і перспектыва дзейнасці работнікаў крытычнага цэха. **Перш за ўсё неабходна ўзмацніць рэальны ўплыў крытыкі на літаратурны працэс, узняць яе грамадскі аўтарытэт у вачах шырокага чытача і ў вачах творцаў мастацкіх каштоўнасцей.** А гэтага дасягнуць можна толькі пры ўмове, калі крытыка стане гаварыць праўду, калі крытыка пачне аб'ектыўна, прынцыпова ацэньваць твор, зыходзячы не з пабочных, па-за літаратурных мэт— групавых інтарэсаў, сяброўскіх пачуццяў, асабістых амбіцый і г. д., — а з меркаванняў грамадзянскіх, уласналітаратурных, агульнанародных.

Сур'ёзныя намаганні трэба прыкласці, каб узняць прафесійны ўзровень сучаснай крытыкі, перш за ўсё — бягучай, удыхнуць у яе новыя сілы. Крытыка сёння абавязкова мусіць шукаць выхаду да шырокай чытацкай аўдыторыі, да масавага чытача.

Сённяшняй крытыцы, асабліва газетнай, часопіснай, не хапае доказнасці, аргументаванасці, глыбіні ідэйна-мастацкага аналізу, смеласці і навізны падыходу. Аўтары многіх крытычных артыкулаў і рэцэнзій пры разглядзе пэўнага твора часта ўхіляюцца ад таго, каб даць самастойную інтэрпрэтацыю ідэйнага зместу, вобразнай сістэмы, каб суаднесці падзеі, пра якія расказвае аўтар, з рэальным жыццём. Яны не аналізуюць структуру гэтага твора, формы тыпізацыі пісьменнікам з'яў жыцця, а задавальняюцца агульнай ацэнкай, дэкларацыйнымі сцвярджэннямі, накшталт таго, што аўтару, маўляў, удалося глыбока раскрыць тэму, намаляваць яркія вобразы, стварыць запамінальныя карціны народнага жыцця, што твор гэты ўражвае, захапляе і г. д. Але доказы, якія б пацвярджалі высокую ацэнку, часта адсутнічаюць. Спрактыкаваны рэцэнзент можа без асаблівых намаганняў, як кажуць, наскубсці з сярэдняга рамана, з паэмы і г. д. некалькі прыстойных прыкладаў, удалых сцэн, каб пацвердзіць свой тэзіс наконт мастацкай удачы пісьменніка. А вось пры канкрэтным аналізе сюжэта, кампазіцыі, вобразнага ладу, стылявой адметнасці гэтага рамана, аповесці, паэмы куды цяжэй выдаць іх за дасягненне. Чытач нават на падставе прыведзеных урыўкаў, калі яны выразныя, можа скласці сваё ўяўленне аб ступені дасканаласці твора. І тут ужо слоўныя заклінанні не выратуюць.

Дэкларацыйнасць, бяздоказнасць, няўзгодненасць паміж канкрэтнымі назіраннямі і вывадамі атрымалі асабліва шырокае распаўсюджанне ў практыцы сучаснага рэцэнзавання. Вось, напрыклад, рэцэнзія В. Ліпневіча на кнігу прозы «Такая позняя вясна» Н. Маеўскай («Маладосць», № 11, 1985). Спачатку крытык дае надзвычай высокую ацэнку твору: «Толькі потым чытач са здзіўленнем заўважае, што прачытаў не таўшчэзны раман, а невялікую аповесць, недзе каля 150 старонак на машынцы». В. Ліпневіч знайшоў у творы «чытабельную кампактнасць (? — М. М.), якой так не хапае беларускай літаратуры», «дынаміку і паэтычную лаканічнасць мыслення» як «галоўную формаўтвараючую прыкмету стылю пісьменніка». На жаль, канкрэтным аналізам рэцэнзент не пацвердзіў сваіх ацэнак, яны так і засталіся дэкларацыйнымі. Болей таго, у заключнай частцы рэцэнзійнага водгуку аўтар пачаў пярэчыць сам сабе, стаў сцвярджаць, што фінал аповесці занадта гладкі («А так у жыцці не бывае»), што адна з гераінь — Харыта — лішняя, «яна нават перашкаджае аповесці». І ўвогуле, за выключэннем паасобных матываў, у аповесці «Пажар» няма прынцыповай навізны матэрыялу: усё ўжо даволі добра распрацавана ў літаратуры. А каб неяк прымірыць супярэчнасці, В. Ліпневіч паставіў у заслугу пісьменніцы тое, што яна быццам бы абагульняе знаёмыя тэмы, падсумоўвае набыткі папярэднікаў. «Яна мадэрнізуе, ускладняе, апрацоўвае гэтыя тэмы больш эмацыянальна і тым самым уздымаецца — хай сабе трошку — на новую, больш сучасную ступень мастацкасці».

Цяжка прасачыць за логікай разважанняў рэцэнзента. Калі пісьменніца ўзнялася на новую ступень мастацкасці, дык гэта ж трэба даказаць, давесці аналізам зместу твора, яго вобразнай сістэмы. Ды хіба толькі эмацыянальным пафасам можна вымяраць мастацкія вартасці твора? Па меншай меры, гэта несур'ёзна. Незразумела таксама, што ўкладваецца ў выраз «мадэрнізуе тэму». Як канкрэтна гэта адбываецца, і што ў творчым плане такая мадэрнізацыя дае? Скажам, як мадэрнізацыя ўзгадняецца з прынцыпам гістарызму? Відаць, варта было б крытыку зрабіць хоць самае беглае параўнанне з іншымі творамі, каб паказаць, у чым жа выявіўся рух наперад. Дарэчы, з рэцэнзіі мы так і не даведаліся, пра што ішла ў аповесці гаворка, у чым сутнасць канфлікту і г. д. Крытык тут вельмі лаканічны: паказана жыццё вёскі, якая ні пра што не забылася. Але ці не занадта сціпла гэта для твора, які В. Ліпневіч сам жа абвясціў вартым цэлага рамана?

Сярод газетных, часопісных рэцэнзій мінулага года якраз і багата такіх, дзе твор па сутнасці не аналізуецца як з'ява мастацтва, а толькі ацэньваецца ў агульным плане. Ацэнка, вядома, станоўчая, высокая. Але за слоўнымі ўпрыгожваннямі часта не відно аўтарскай пазіцыі, асабістага пункту гледжання крытыка.

Беспадстаўная завышанасць ідэйна-эстэтычных ацэнак, перабольшванне сапраўдных каштоўнасцей таго ці іншага твора негатыўна адбіваецца на аўтарытэце літаратурнай крытыкі, падрывае веру чытача ў яе аб'ектыўнасць. Разгледзім у гэтым плане дзве рэцэнзіі вядомага паэта Ю. Свіркі. Адна з іх прысвечана аналізу зборніка «Парог памяці» П. Прыходзькі («Полымя», № 6, 1985). Напісана яна, безумоўна, вопытнай, упэўненай рукой, дакладна вызначаны вядучы пафас творчасці паэта, галоўны герой. Аднак пра недахопы тут гаворыцца бегла, коратка, без імкнення высветліць вытокі ўласцівых аўтару слабасцей і пралікаў. «Не ўсё ўдалося П. Прыходзьку ў вершах пра паэтаў і паэзію. На жаль, у іх пераважаюць апісальнасць і шматслоўе». Цікава б было ўсё ж такі даведацца, а што «ўдалося» Прыходзьку? Але калі «апісальнасць і шматслоўе», паводле самога ж крытыка, «пераважаюць», дык, відаць, пра ўдачы і гаварыць не варта. Дык навошта такая дыпламатыя? А галоўнае, агульнай канстатацыі тут зусім недастаткова, бо ў вершах пра паэтаў і паэзію найчасцей раскрываецца творчае, эстэтычнае крэда пісьменніка. Вось і патрэбна б было высветліць, у якіх жа адносінах выяўленыя рэцэнзентам недахопы знаходзяцца з усёй творчасцю паэта? Можа, гэта прыватныя хібы, ці, наадварот, яны дапамагаюць найбольш выразна падкрэсліць пэўную асаблівасць творчай манеры аўтара зборніка?

Зусім іншы ўзровень другой рэцэнзіі Ю. Свіркі—на зборнік «Раса-расінка» М. Шаўчонак («ЛіМ» № 41). Тут мы бачым паспяховую спробу даць аб'ектыўную, непрадузятую ацэнку. Ю. Свірка пераканаўча гаворыць пра тое, што паэтэсу хвалююць вобразы роднага краю, што яна ў малым імкнецца ўбачыць вялікае, тонка перадаць свой душэўны стан. У лепшых вершах М. Шаўчонак ёсць шматзначнасць падтэксту, адчуваецца пульс часу, яна ўмее перадаць хараство жыцця, паўнату шчасця. У паэтэсы голас сцішаны, але голас свой. Ю. Свірка аналізуе, раскрывае ўласцівыя аўтару зборніка недахопы, называе слабыя вершы, якія не хвалююць, пакідаюць абыякавым, адзначае наяўнасць паўтораў і г. д.

Параўнанне двух водгукаў сведчыць аб тым, што іменна акрэсленасць зыходных установак вядзе да аб'ектыўнай ацэнкі. Знаёмства з многімі мінулагоднімі рэцэнзіямі наражае прыкрае пачуццё не толькі з прычыны браку ў рэцэнзентаў майстэрства, але і таму, што аўтарам часта не стае прынцыповасці, крытэрыі ацэнак у іх невыразныя. Да адных пісьменнікаў — найчасцей маладых — яны падыходзяць больш строга, патрабавальна, да другіх — па-сяброўску паблажліва.

Ёсць у сучаснай крытычнай гаспадарцы шэраг практычных аспектаў, якія даўно чакаюць свайго вырашэння. Так, сёння крытыцы, перш за ўсё маладой, патрэбна больш дзейсная ўвага з боку кіруючых органаў Саюза пісьменнікаў, грамадскіх арганізацый. Вядома, пэўныя захады ў гэтым кірунку рабіліся і робяцца (арганізацыя творчых семінараў і інш.), але іх усё ж недастаткова. Жыццё патрабуе новых форм дапамогі маладым, больш эфектыўных форм творчай вучобы. Трэба павысіць ролю матэрыяльнага і маральнага стымулявання працы крытыка. Так, хацелася б, каб лепшыя крытычныя матэрыялы маладых друкаваліся асобнымі, няхай нават невялічкімі, зборнікамі, у рэшце рэшт — калектыўнымі, куды б увайшлі два-тры аўтары. Ёсць жа серыя «Першая кніга паэта». Чаму б не быць «Першай кнізе крытыка»?

Даўно наспела пара арганізаваць самастойны часопіс — «Беларуская літаратурная крытыка». Гэта можна было б зрабіць, напрыклад, на аснове зборніка «Вобраз».

Па нашаму глыбокаму перакананню, беларуская крытыка даўно засведчыла свае правы на тое, каб плённая дзейнасць найлепшых яе прадстаўнікоў адзначалася самастойнай літаратурнай прэміяй, скажам, імя Максіма Багдановіча або Максіма Гарэцкага ці Адама Бабарэкі.

Зразумела, ніякія практычныя захады, арганізацыйныя мерапрыемствы не прывядуць да жаданых змен, калі самі крытыкі не адчуюць вострай унутранай, душэўнай патрэбы ў актывізацыі сваёй дзейнасці. І тут я зноў хацеў бы падтрымаць думку Т. Чабан пра асабістую адказнасць крытыка: «Але падчас мы ў выкрывальным пафасе займаем пазіцыю суддзі, свядома ці несвядома адмяжоўваемся ад таго, што крытыкуем, не адчуваем у тым асабістай віны». Так, ніякімі заклікамі становішча ў лепшы бок не зменіш, пакуль кожны крытык глыбока не ўсвядоміць меру сваёй асабістай адказнасці за справу, якой ён займаецца. Гэта датычыць у першую чаргу старэйшых, больш дасведчаных, хто на ўласным вопыце мог ужо не раз пераканацца, да чаго прыводзіць грамадзянская пасіўнасць, абыякавасць у крытыцы, імкненне схавацца за ўтульную абывацельскую формулу «мая хата з краю».

Старэйшыя маглі б таксама расказаць і пра тое, якое вялікае маральнае задавальненне і сапраўдную творчую радасць прыносіць крытыку асабістая далучанасць да вялікай справы грамадзянскага служэння літаратуры. Калектыўныя, сумесныя намаганні ў барацьбе за мастацтва высокіх гуманістычных ідэй надаюць крытыку творчую ўпэўненасць, сты-

**(Заканчэнне на стар. 6—7).**

## *Напярэдадні IX пісьменніцкага...*

**У гэтым нумары штотыднёвіка працягваем друкаваць адказы на пытанні анкеты, з якой мы звярнуліся да многіх нашых пісьменнікаў у сувязі з чарговым пісьменніцкім з'ездам. Нагадваем пытанні анкеты:**

**1. Мастакоўскае спасціжэнне свету... Які Вы ўкладаеце сэнс у гэтае паняцце?**

**2. Сапраўднае мастацтва — адзін з магутных сродкаў выхавання людзей. Ці заўсёды дастаткова наша літаратура выконвае гэтую функцыю?**

**3. Што з прачытанага ў апошні час запомнілася Вам, уразіла?**

**4. Якая, на Ваш погляд, найбольш важная задача стаіць сёння перад літаратурнай крытыкай?**

**Змяшчаем адказы Аляксея Пяткевіча, Анатоля Сульянава, Віктара Яраца.**

# ПРАЎДЗІВА паказваць жыццё

### Аляксей ПЯТКЕВІЧ:

1. Усякія мастацкія з'явы нараджаюцца дзеля таго, каб пераацаніць тыя, што ўсталяваліся і такім чынам змяніць, палепшыць іх, прывесці іх у адпаведнасць з патрэбамі часу, грамадзянска-эстэтычным ідэалам аўтара, яго разуменнем і адчуваннем свету. З'яўленне новага твора не мае сэнсу, калі ён ілюструе ці толькі ўхваляе прынятае грамадствам. Таму місія пісьменніка не проста актыўная, пераўтваральная (ён і суддзя, і адвакат грамадства), а і выключна адказная. Бо ён, пісьменнік, бярэ на сябе права прымаць рашэнні за ўсіх, прад'яўляць рахункі сучаснікам, нашчадкам.

2. Выхаваўчая роля літаратуры вынікае з яе эстэтычнай ролі. Значыць, задача заключаецца ва ўзмацненні эстэтычнай энергіі нашых твораў. Чым больш вялікае мастацтва, тым больш дзейна яно выхоўвае. Гэта пытанне вельмі актуальнае для цяперашняй беларускай літаратуры, дзе паяўляецца многа павярхоўных, дзяжурных твораў, якія сцвярджаюць ісціны, даўно ўсім вядомыя. Да таго ж многія дзялянкі нашага жыцця застаюцца ў літаратуры неасвоенымі, што вельмі абмяжоўвае яе выхаваўчыя магчымасці. У прыватнасці, занядбана наша вялікая нацыянальная гісторыя, духоўная дзейнасць выдатных сыноў нашага народа. Пра іх напісана да крыўднага мала. Колькі добрага, высакароднага маглі б абудзіць у душах сучаснікаў творы на гэтую тэму!

3. Найбольш уразіла мноства сырых, недапрацаваных, залітаратураных твораў, што друкаваліся апошнім часам. І тут трэба сказаць, што яўна заніжаюцца ў нас крытэрыі ацэнкі твораў, якія атрымліваюць рэспубліканскія літаратурныя прэміі і прэміі «Полымя» і «Маладосці». Калі кандыдатура на такую прэмію слабая, не трэба ўвогуле прысуджаць гадавой прэміі. Гэта будзе толькі на карысць літаратуры ды і таму аўтару, які прэміі не атрымаў.

З твораў, што прыемна ўразілі, вылучу «Зброю» і «Маці ўрагану» У. Караткевіча, «Знак бяды» В. Быкава, «І скажа той, хто народзіцца» В. Адамчыка, з твораў маладзейшых аўтараў — «Радавых» А. Дударава, падборку вершаў Н. Мацяш у «ЛіМе» (11.X.1985), аповесць У. Арлова «І вярталіся мы...»

4. Асноўная задача, якая стаіць сёння перад беларускай літаратурнай крытыкай — пісаць праўду пра літаратурны працэс, пра асобныя творы. Адна з бед нашай літаратурнай крытыкі (пэўна, і літаратуры ў цэлым) гэта прыхільнасць да маральна-эстэтычных груповак, нават грызня, якая дала знаць пра сябе і ў апошнія гады настойліва дэманструецца на людзях (выносіцца на людзі). Пераадоленне гэтай прыкрай хваробы, звязанай з празмернай амбітнасцю некаторых пісьменнікаў, зарука паспяховага развіцця нашай крытыкі, яе актыўнага ўздзеяння на літаратуру.

### Анатоль СУЛЬЯНАЎ:

1. Чалавек усё жыццё спазнае свет і, натуральна, праяўляе цікавасць да ўсяго таго, што бачыць, пра што чуе. Гэтае спазнанне ідзе з самых ранніх год. Яшчэ хлапчуком я задумаўся: чаму птушка лятае, а я не магу? Гэтых «чаму» было тысячы, і на іх я атрымаў адказы ад бацькоў, настаўнікаў, сяброў, з кніг, кінафільмаў. Мастакоўскае спазнанне свету— гэта, на мой погляд, расшыфроўка, калі так можна сказаць, тайнаў прыроды, чалавечай сувязі, людзей, усяго, што ёсць на зямным шары, сродкамі тэатра, музыкі, літаратуры, жывапісу і г. д. Засваенне чалавекам ведання ўсяго таго, што вякамі было створана людзьмі з мэтай пашырыць свет уласных уяўленняў, «увабраць» у сябе, узбагаціць памяць усім тым, што было выпрацавана чалавецтвам за шматвяковую гісторыю. Спазнанне свету з дапамогай вобразаў, створаных мастаком, пісьменнікам, скульптарам, найбольш эфектыўнае, глыбокае, бо яно мае эмацыянальную афарбоўку.

2. Не, не заўсёды, на жаль. Далёка не ўсе літаратурныя творы «замешаны» на праўдзе; не ўсе раманы, паэмы, аповесці, апавяданні праўдзіва паказваюць жыццё з усімі яго складанасцямі і супярэчнасцямі. Цяпер партыя крута «паварочвае» эканоміку, вытворчасць, навуку ў напрамку карэннай перабудовы, павышэння эфектыўнасці навукова-тэхнічнага прагрэсу. Гэта праблема ўзнікла не сёння, але ці актыўна падступалі да яе пісьменнікі? Думаю, што не. У адных не хапіла смеласці, у другіх майстэрства. У гісторыі нашага народа было нямала прыкладаў, калі літаратурны твор быў настолькі надзённы і неабходны, што партыя прымала адпаведнае рашэнне. Я маю на ўвазе «Раённыя будні» Валянціна Авечкіна. Гэта быў прыклад вялікай пісьменніцкай мужнасці. В. Авечкін не пабаяўся пра набалелае сказаць уголас, усенародна, з веданнем справы. Такія творы ёсць і ў нашы дні, але іх мала. Напрыклад, «Зямля» А. Івашчанкі («Новый мир» № 1, 1986 г.). Лягчэй і лепш паказваць супермена-разведчыка, які «водзіць за нос» галавароў гітлераўскага рэйха. І чытач задаволены, і кінематограф рады такой дэтэктыўнай тэме. Сапраўднае мастацтва — гэта, перш за ўсё, адлюстраванне найбольш яркіх, цяжкіх, драматычных падзей сённяшняга дня або нядаўняга мінулага, якое захоўваецца ў памяці народнай, якое характэрна народу, а не супермену.

3. Новая аповесць Васіля Быкава «Кар'ер». Тут і сучаснасць, і вайна, а галоўнае — праблемы маральныя, падзеі — часам трагедыйныя, філасофскае асэнсаванне таго, што адбываецца.

І «Зямля» А. Івашчанкі. Чытаў на адным дыханні, хацелася крычаць ад душэўнага болю: «Людзі! Што ж вы робіце з карміцелькай-зямлёй?»

4. Памагаць аўтарам глыбей пранікаць у даследуемую праблему, быць прапагандыстам добрых, праўдзівых, патрэбных кніг, памагаць чытачам у выбары кніг, змагацца з «прыгла-

# АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД ЧАСАМ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар 5).**

мулююць яго працу, пашыраюць гарызонты бачання свету, дапамагаюць фарміраванню яго як асобы. Усведамленне сваёй прыналежнасці да крытычнага цэха, які знаходзіцца на перадавых рубяжах жыцця і літаратуры, умацоўвае маральнае здароўе крытыка, яго здольнасць да творчасці.

З горыччу вымушаны сказаць і пра тое, што сярод маладых крытыкаў мала па-сапраўднаму апантаных, бязмежна захопленых сваёй справай. У крытычных выступленнях маладых багата дарослай асцярожнасці. Што ж, і тут старэйшыя павінны ўзяць на сябе долю віны: яны аказаліся здольнымі «настаўнікамі»!

Адным з найбольш яскравых праяўленняў пасіўнасці сучаснай беларускай крытыкі апошніх гадоў было тое, што яна амаль не цікавілася пытаннямі ўласнай спецыфікі. А між тым без усведамлення крытыкай самой сябе яе літаратурна-грамадскае функцыяніраванне не можа адбывацца паспяхова. Вось чаму трэба толькі вітаць тое, што ў змястоўнай гутарцы В. Даўніса і С. Дубаўца закранута, побач з іншымі, і пытанне аб эсэістыцы як форме крытычна-мастацкага мыслення. А гэта ўжо — тэарэтыка-метадалагічны аспект, які так нясмела закранаецца ў крытычных артыкулах.

Амаль дзесяць гадоў назад В. Каваленка слушна пісаў: «Дамагацца яснасці, што сабой уяўляе сапраўдная крытыка, неабходна, але не дзеля крытэрыяў жанравай чысціні. Высвятленне хоць бы некаторых сутнасных рыс і асаблівасцей крытыкі як галіны духоўнай дзейнасці дапаможа ўстанавіць, у чым сапраўдная творчая сіла крытыкі і якімі асаблівасцямі яна больш за ўсё ўплывае на літаратурны працэс».

Ёсць розныя трактоўкі сутнасці крытыкі, яе прыроды і спецыфікі. Адны лічаць крытыку навукай, часткай (хоць і самастойнай) літаратуразнаўства, відам навукова-публіцыстычнай дзейнасці, другія адносяць яе да мастацтва («крытыка як літаратура» паводле вызначэння Б. Бурсава), трэція задавальняюцца кампрамісным падыходам: у крытыцы, маўляў, ёсць рысы і якасці, якія збліжаюць яе і з навукай, і з мастацтвам, чацвёртыя бачаць у крытыцы форму практычнага (камунікатыўна-прагматычнага) мыслення (В. Брухавецкі).

Найбольш прадуктыўным, на нашу думку, з'яўляецца погляд, паводле якога крытыка— гэта спецыфічны тып мыслення, адметная, своеасаблівая форма творчасці (В. Каваленка, В. Кубілюс і інш.). Крытык у дакладным значэнні слова павінен валодаць прыроднай здольнасцю, талентам успрымаць мастацкі твор у яго ідэйна-эстэтычнай цэласнасці, у нерасчлененасці, успрымаць твор як непаўторную мастацкую з'яву і, што асабліва важна, умець данесці да чытача, умоўна кажучы, вобраз твора, які разглядаецца. І ў гэтым сэнсе мы маем пэўныя падставы назваць крытыка мастаком, бо яму ўласціва схільнасць да канкрэтна-пачуццёвага, вобразнага мыслення, да цэласнага, гарманічнага ўспрымання з'яў рэчаіснасці. Крытыку ўласціва высокая ступень эмацыянальнай настроенасці, здольнасць да суперажывання аўтару, героям твора.

Сказаным не закрэсліваецца і не абясцэньваецца роля аналітычнага пачатку ў акце крытычнай ацэнкі твора. Ён, гэты пачатак, абавязкова прысутнічае ў крытычным мысленні таго, хто ацэньвае твор, але прысутнічае, калі можна так сказаць, у згорнутым выглядзе, як прынцып. Яно і зразумела: успрымаць і ацэньваць твор як з'яву мастацкую немагчыма без яго суаднясення з рэчаіснасцю, якая дадзены твор спарадзіла, а гэта значыць, што крытык не можа абысціся без аналітыкі.

Рызыкуючы зачапіць прафесійнае самалюбства прадстаўнікоў крытычнага цэха, трэба ўсё ж прызнаць, што талент крытыка — яшчэ больш рэдкі, чым талент уласна пісьменніка. На жаль, пра гэта мы часта баімся гаварыць уголас. А дарэмна! Гісторыя літаратуры, у тым ліку і беларускай, дае нямала красамоўных прыкладаў таго, што таленавітая асоба, выявіўшая ў сябе здольнасці да крытычнай дзейнасці — і перш за ўсё схільнасць да цэласнага ўспрымання з'яў жыцця, суб'ектыўную непрыязь да абстракцыі, дыдактыкі, рэзанёрства, адцягненага лагізавання, — як правіла, формай уласнага самасцвярджэння абірала жанры паэзіі, прозы, драматургіі, г. зн. станавілася пісьменнікам.

Прычын, паводле якіх перавага аддавалася ўласна літаратуры, а не крытыцы, — нямала. Па-першае, гэта традыцыйна высокі статус прыгожага пісьменства ў параўнанні з іншымі формамі дзейнасці. Пісьменнік, майстар слова заўсёды карыстаўся вялікім аўтарытэтам у народным асяроддзі, любоўю і павагай шырокіх чытацкіх мас. Па-другое, важную ролю адыгрывала і суб'ектыўная вера асобы ў тое, што пры дапамозе вобразнага слова ёй удаецца як найпаўней выявіць сябе, свае гуманістычныя, грамадзянскія памкненні.

А вось тых, хто б свядома ахвяраваў сваім, скажам так, мастакоўскім талентам у карысць крытыкі, — небагата. Бялінскі, Чарнышэўскі, Дабралюбаў, у савецкай літаратуры — А. Воронскі, у беларускай— А. Бабарэка — усе яны мелі бясспрэчны талент мастака. І гэта пацверджана фактамі іх творчай біяграфіі. Інакш кажучы, і Бялінскі, і Дабралюбаў, і Чарнышэўскі сталі вялікімі крытыкамі, бо нарадзіліся пісьменнікамі. Большасць жа тых, хто мог бы сфарміравацца ў літаратурнага крытыка-прафесіянала, але аддаў перавагу прыгожаму пісьменству,— у прафесійную крытыку звычайна ўжо не вярталіся. Выключэнні і тут ёсць, але іх няшмат, ды і звязаны яны з канкрэтнымі абставінамі часу. Напрыклад, М. Багдановіч, М. Гарэцкі выразна ўсведамлялі вялікую грамадскую, культурную ролю літаратурнай навукі і крытыкі і, пры беднасці нацыянальных кадраў, актыўна працавалі ў гэтай сферы творчай дзейнасці. Сістэматычныя ж звароты да крытычных жанраў уласцівы фактычна кожнаму пісьменніку. Гэта і Пушкін, і Талстой, і Дастаеўскі, і Ганчароў, і Чэхаў, і Блок, і ўсе беларускія пісьменнікі, апрача прыгаданых, таксама Колас, Чорны, Лынькоў, Мележ, многія бліжэйшыя да нашага часу майстры слова.

Іх крытычныя выступленні, артыкулы нельга, аднак, лічыць класічным узорам або тыповым выяўленнем літаратурнай крытыкі, хоць логіка, здавалася б, якраз і штурхае да такіх высноў. Пісьменніцкая крытыка — спецыфічная галіна літаратурнай крытыкі, яна не тоесная прафесійнай, хоць часта і бярэ на сябе функцыі апошняй. Але гэта — тэма самастойнай гаворкі.

Зараз жа нам важна ў пісьменніцкай крытыцы падкрэсліць іншае, а іменна яе, умоўна кажучы, пэўную «апазіцыйнасць» да прафесійнай. Агульнавядома, што многія выдатныя майстры слова адмоўна ставіліся да навуковай крытыкі, хоць самі і не цураліся крытычнага пяра. Найбольш тыповы прыклад — адносіны А. Блока да навуковага аналізу мастацкай творчасці. «Апазіцыйнасць» ідзе ад таго, што т. зв. прафесійная крытыка, перад усім бягучая, якая ў вачах мастакоў слова заўсёды мае асаблівую каштоўнасць, часта не выконвае сваіх функцый або зусім не адпавядае свайму прызначэнню. У якасці прыкладу прыгадаем дзейнасць крытыкі ў гады разгулу вульгарнай сацыялогіі або ў часы панавання тэорыі бесканфліктнасці.

Пісьменніцкая рэакцыя на прафесійную крытыку часта суб'ектыўная, але шмат у ёй і справядлівага. Справядлівага таму, што велізарная колькасць літаратурна-крытычнага матэрыялу напісана людзьмі, якія не маюць унутранага прызвання да літаратурна-крытычнай дзейнасці. Адсюль і негатыўная рэакцыя на вынікі іх працы з боку пісьменніка. Гэта і зразумела: крытык не заўсёды ўмее паглядзець на мастацкі твор як на момант эвалюцыі, як на канкрэтнае праяўленне творчага пошуку. У яго разважаннях шмат адцягненасці, голага рэзанёрства. Часта не ўлічваецца спецыфіка пісьменніцкай працы, асаблівасць таленту, творчыя схільнасці мастака, яго арыентаванасць на пэўныя тэмы, на пэўныя з'явы жыцця. Вельмі рэдка крытыка закранае праблемы псіхалогіі творчасці.

Вядома, няма патрэбы супрацьпастаўляць, сутыкаць ілбамі «пісьменніцкую» і прафе-

дЖваннем» вострых праблем, не зазіраць «у рот» мэтрам, начальніку, смялей адстойваць сваю думку. І яшчэ. Часцей «знаходзіць» маладых, таленавітых людзей, якія шукаюць, востра пішуць.

## Віктар ЯРАЦ:

1. Мастацтва, як вядома, вызначаецца сваёй спецыфікай. Не выпадкова паняцце «мастацкае» мае сінонім «вобразнае». Механічна-пратакольнае адлюстраванне, пры ўсёй рэгістрацыі ім безлічы бытавых, сітуацыйных драбніц і момантаў, пры ўсёй дакладнасці фактаграфічнага прыёму, дзе натура (жыццё) і фотаздымак (адбітак рэчаіснасці) знешне не разыходзіцца, не нараджае твораў шэкспіраўскай страснасці, неардынарнага грамадзянскага тэмпераменту і эстэтычнай значнасці.

Сучасным творам бракуе *шмат у чым адсутнасць лаканізму*. Гэта датычыць як прозы, так і паэзіі. Неапраўданая расцягнутасць аб'ёму робіцца ледзь не *нацыянальнай рысай* нашай літаратуры. Адбілася гэта і на раманах Паўла Місько «Градабой», Барыса Сачанкі «Вялікі Лес», Алеся Савіцкага «Зямля не раскажа», Генрыха Далідовіча «Гаспадар-камень», Івана Пташнікава «Алімпіяда», Васіля Гігевіча «Доказ ад процілеглага», пра што ў большасці сціпла-асцярожна зазначалі крытыкі, і ў пэўнай ступені на паэмах Анатоля Вярцінскага «Колькі лет, колькі зім», Ніла Гілевіча «Родныя дзеці», «Уладзіміра Някляева «Маланка», якім часам не хапае глыбокага ўнутранага драматызму, а вось элементаў неабавязковага апісальніцтва — занадта. А гэта ўсё творы — далёка не горшыя.

2. Паўтара стагоддзя назад вялікі Пушкін выказаў думкі, якія і сёння не гучаць архаічна: «Век можа ісці сабе наперад, навукі, філасофія і грамадзянскасць могуць удасканальвацца і змяняцца, але паэзія застаецца на адным месцы. Мэта яе адна, сродкі тыя ж. І між тым, як паняцці працы, адкрыцці вялікіх прадстаўнікоў старажытнай астраноміі, фізікі, медыцыны і філасофіі пастарэлі і кожны раз замяняюцца іншымі — творы сапраўдных паэтаў застаюцца свежымі і вечна юнымі».

Роля і функцыі літаратуры нiколькі не зменшыліся ў сённяшнім свеце. Сацыяльныя, ідэйныя, эстэтычныя, філасофскія, выхаваўчыя аспекты кнігі, твора, незалежна ад яго жанравай прыроды, у той ці іншай ступені даследуюцца і сучаснай грамадазнаўчай навукай, і закранаюцца акадэмічным літаратуразнаўствам, і асвятляюцца бягучай крытыкай. Пры гэтым па-ранейшаму карысную службу як для шырокага чытача, так і для майстроў слова, і тых, хто выцярэбліваецца на пісьменніцкі шлях, нясе класіка — і айчынная, і замежная.

Па ўсёй верагоднасці добры твор робіць уплыў на розум і эмоцыі сучасніка, прынамсі, ён павінен гэта рабіць. Робіць свой уплыў і дрэнны твор. З'яўляючыся шмат у чым універсальным сродкам выхавання чалавека, літаратурны твор павінен адпавядаць у аднолькавай ступені як сацыяльна-ідэйным, так і эстэтычным запатрабаванням. Дасканаласць майстэрства — не толькі паказчык таленту, але і грамадзянскай адказнасці, самапатрабавальнасці. Мяркую, што лепшыя творы апошняга часу свае функцыі выконваюць не без поспеху. Ведаю, у прыватнасці з паездак на Украіну, якой папулярнасцю карыстаецца творчасць Васіля Быкава, які яе грамадскі рэзананс, пра што не раз даводзілася чуць не толькі ў літаратурным асяроддзі, але і ад настаўнікаў, рабочай моладзі, гарадскіх і вясковых інтэлігентаў.

3. Люблю чытаць Быкава, Брыля, Адамовіча, Казько, Стральцова, Адамчыка, Кудраўца. З гадамі ўсё больш высвечваюцца грані яркага таленту, мастакоўскай індывідуальнасці Івана Мележа і Уладзіміра Караткевіча, па-ранейшаму кранае свежасцю, усхваляванай спавядальнасцю лірыка апошніх год Петруся Броўкі, *паэтычная спадчына* Аркадзя Куляшова, Аляксея Пысіна, Анатоля Сербантовіча.

Нязменную цікавасць выклікае філасофскі роздум, нечаканасць павароту думкі, эканомнасць сродкаў і экспрэсіўнасць радка Максіма Танка, *публіцыстычна-бескампрамісная* напорыстасць выказвання, тэматычны дыяпазон і аператыўная актыўнасць Пімена Панчанкі, па-маладому трапяткое пачуццё Кастуся Кірэенкі, элегічнасць Аляксея Русецкага.

Плённа працавалі ў міжз'ездаўскае пяцігоддзе Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Анатоль Грачанікаў, Ніл Гілевіч, Юрась Свірка, Сцяпан Гаўрусёў, Данута Бічэль-Загнетава, Уладзімір Паўлаў, вершы якіх даюць багаты матэрыял і для чытача і для даследчыка паэтычных жанраў. Як і раней, моцныя гістарычныя балады піcаў Янка Сіпакоў, поруч з якім у сучасным ліра-эпасе цяжка паставіць каго-небудзь іншага.

Прыкметны творчы рывок зрабілі і прадстаўнікі маладзейшага пакалення. Мяне парадавалі арганічныя, у лепшым сэнсе з традыцыйнай арыентацыяй, вершы Алега Салтука, Міколы Пракаповіча, Міколы Мятліцкага. Хочацца бачыць і ў далейшым плённыя здабыткі Аляксея Дударава, які так хараша заявіў пра сябе і дома, і далёка ад яго.

4. Быць патрабавальнай і добразычлівай, шчырай і доказнай; мець не толькі калчан са стрэламі, крапіву і бярозавы венік, але і зёлкі такту і паважлівай стрыманасці.

---

сійную крытыку. Яны даволі паспяхова суіснуюць, дапаўняюць; узбагачаюць адна другую. *Кожная з гэтых «форм»* неабходная, патрэбная, вядома, калі яна напоўнена глыбокім зместам. Іншая справа, што *«пісьменніцкая»* крытыка, як справядліва заўважыў С. Дубавец, сёння «выглядае ў нас жывейшай і цікавейшай» за прафесійную. Зрэшты, і не толькі сёння! Вядома, справа тут не толькі ў паслабленні асабістага пачатку ў «прафесійнай», як здаецца Дубаўцу, а тым больш не ў «аднабаковай арыентацыі» ці «малой дасведчанасці» яе прадстаўнікоў. Хутчэй наадварот, навуковая дасведчанасць часта перашкаджае выяўленню непасрэднага, жывога пачуцця, уласнага погляду на мастацкі твор, заакадэмічвае, абцяжарвае літаратурна-крытычныя жанры, робіць іх груваcткімі, нечытэльнымі, сумнымі.

І навуковая, і «мастацкая» крытыка маюць свае спецыфічныя асаблівасці, якія існуюць аб'ектыўна. З гэтым трэба лічыцца. Зварот да той ці іншай «крытыкі» залежыць ад шматлікіх фактараў, у тым ліку і ад мэты, якую паставіў перад сабой крытык. Так, эсэісцкая мае большыя магчымасці ў працэсе аналізу пэўнага твора даць аб ім цэласнае ўяўленне як аб адметнай мастацкай з'яве. У тэарэтычным жа, праблемным артыкуле крытык вымушаны «разбіраць» твор на кампаненты. Тут роля аналітычнага пачатку, навуковых прынцыпаў аналізу ўзрастае, пагроза разбурэння твора як гарманічнай, цэласнай з'явы павялічваецца.

З другога боку, эсэісцкая крытыка часта нагадвае «езду со спущенными вожжами». Калі навуковая крытыка не схоплівае сутнасці мастацтва, раствараe яго ў літаратуразнаўчых тэрмінах, дык эсэістыка, бывае, выліваецца ў суб'ектывісцкае свавольства. За эмоцыямі знікае змест твора, аўтарская ідэйна-мастацкая канцэпцыя. У тых выпадках, калі паглыбленая аналітыка і ўспрыманне *мастацкага твора* ў яго цэласнасці не проста суіснуюць, а зліваюцца ў арганічнае адзінства, крытыка і выяўляе сябе *як адметны тып мыслення*. У пацвярджэнне сказанага можна назваць шэраг мінулагодніх «лімаўскіх» артыкулаў і рэцэнзій. Паказальна, што большасць іх належыць пісьменнікам, а не прафесійным крытыкам. Гэта нататкі В. Зуёнка пра падборку новых вершаў П. Панчанкі (№ 1), рэцэнзіі А. Васілевіч на кнігу прозы М. Філіповіч «Мадонна з Выселкаў» (№ 32), С. Гаўрусёва на паэтычную кнігу К. Камейшы «Галоўная вярста» (№ 35), П. Макаля на паэтычны зборнік У. Скарынкіна «Пасадачныя агні» (№ 36) і інш.

Як нам здалося, С. Дубавец крыху перабольшвае патэнцыяльныя магчымасці эсэістыкі, у тым сэнсе, што манапалізуе за ёй права рабіць «арыгінальныя філасофскія высновы», дасягаць «арганічнага сінтэзу ведаў з усёй супольнасцю навук». Па-першае, можна высунуць любую канцэпцыю, галоўнае — абгрунтаваць яе. А вось тут эсэістыка часта аказваецца не ў ладах з аргументацыяй. Яна нярэдка грэбуе навуковай доказнасцю і патрабуе верыць ёй на слова. Па-другое, рабіць «арыгінальныя высновы» — гэта не толькі права, але і абавязак прафесійнай крытыкі. А без супастаўлення твора і рэчаіснасці, якая там адлюстравана паводле законаў мастацкай тыпізацыі, навуковая крытыка ўвогуле не можа абысціся.

Але не будзем чапляцца да «перабольшванняў», якія дапускае крытык, бо ніжэй ён уносіць істотныя папраўкі ў свае разважанні: С. Дубавец пераканаўча гаворыць аб вызначальнай ролі ў творчасці і пісьменніка, і крытыка сталага светапогляду. Калі мастак, крытык не ўзняліся да грамадзянскай, сацыяльнай сталасці, калі ў іх няма свайго адметнага погляду на жыццё, адсутнічаюць уласныя, вынашаныя думкі («проста няма пра што казаць»), — ім не дапамогуць ніякія фармальныя навацыі. Не дапаможа і эсэісцкая форма крытыкі. Слушныя меркаванні!

У заключэнне нашай размовы пра стан і некаторыя асаблівасці развіцця сучаснай беларускай крытыкі хацелася б сказаць аб тым, што ў нас усё больш замацоўваецца звужаны, аднабаковы погляд на крытычную дзейнасць. Канкрэтны мастацкі твор, узяты паасобку або ў сукупнасці з іншымі, яго функцыяніраванне ў грамадстве і г. д., — адна з галоўных, але не адзіная сфера прафесійных інтарэсаў крытычнага цэха. Не менш важнымі для крытыкі аказваюцца і іншыя разнастайныя праявы літаратурна-творчага, літаратурна-грамадскага жыцця. Гэта маральны клімат у творчым асяроддзі, грамадская актыўнасць пісьменніка, яго ўдзел у палітычным, культурным жыцці краіны, творчая вучоба моладзі, пераемнасць традыцый і вопыту папярэднікаў, узаемаадносіны паэтычных пакаленняў, кірунак ідэйна-мастацкіх, жанрава-стылявых пошукаў, дзейнасць творчых секцый і г. д.

Пералічаныя тут сферы творчай, грамадскай дзейнасці пісьменнікаў, на жаль, часта выпадаюць з поля зроку прафесійнай крытыкі. Вузкасць у разуменні яе функцый нічым не апраўдана. Крытык — і гэта асабліва бачна ў святле задач, пастаўленых перад творчай інтэлігенцыяй краіны на XXVII з'ездзе КПСС, — не мае права засяроджвацца толькі на спецыфічна літаратурных, мастацкіх праблемах. Ён абавязаны актыўна садзейнічаць збліжэнню літаратуры з жыццём, быць страсным публіцыстам, дзейсна змагацца за творчую рэалізацыю велічных планаў, намечаных Камуністычнай партыяй.

---

**КАРОТКІЯ РЭЦЭНЗІІ**

# «БЯССТРАШНАЯ ШЧЫРАСЦЬ»

Кіно любяць усе. Ды толькі спецыялісты часам пазбаўлены *той чароўнай непасрэднасці*, якая прыносіць гледачам асалоду судакранання з мастацтвам. Той захопленасці, якая неабходна і крытыку: узброенасць ведамі, методыкай аналізу не павінна адмаўляць жывое пачуццё...

Кніжка Леаніда Паўлючыка «Ад споведзі да эпасу. Лёс і фільмы Віктара Турава» яскрава сцвярджае: крытыку не перашкаджаюць «эмоцыі», больш таго — яны насычаюць аналіз водарам свежага ўражання, непасрэднасцю першаадкрывальніка. Аўтар не навязвае нам свой густ, але запрашае ўгледзецца, успомніць, *перагарнуць старонкі былога* і зусім блізкага. Каб мы, урэшце, паверылі яму, калі ён прызнаецца, што тураўскі фільм «Я родам з дзяцінства», крыўдна недаацэнены ў свой час,




сёння хвалюе яго ці не з найбольшай сілай. Крытык даводзіць: гэты сапраўды стракаты, сапраўды супярэчлівы, такі, здаецца, рознастылявы фільм глядзіш на адзіным дыханні; ён знітаваны з асобаю аўтара.

«Я родам з дзяцінства»... «Я»—гэта і аўтар, галоўны герой фільма, які вядзе свой расказ ад першай асобы. Гэта споведзь маладога рэжысёра, які ўклаў у фільм усё, што на той час умеў, і яшчэ—сваё горкае веданне вайны. Споведзь хлапчука, юнака, чыё дзяцінства літаральна знішчыла вайна. Споведзь — і ад мастакоўскага «не магу маўчаць!», і ад непатольнай прагі выплеснуць свой боль, і, можа, яшчэ ад неўсвядомленага жадання папярэдзіць нас пра непапраўныя страты, якія нясе вайна юнаму сэрцу.

Гэта адчуў крытык, якому па маладосці давялося глядзець першыя тураўскія фільмы пазней, чым яны выходзілі, і які мае магчымасць глядзець і бачыць свежым, сённяшнім вокам, параўноўваць і раздумваць. І калі ён, зусім яшчэ малады чалавек, здолеў адчуць боль, адчай і надзею таго хлапчука, — значыць, каштоўнасць гэтай работы рэжысёра сапраўдная.

Пераконвае параўнальны аналіз аўтара, які пазнаёміўся з *аператыўнымі крытычнымі* водгукамі на фільмы В. Турава і з даследаваннямі паважаных спецыялістаў, але свае высновы робіць сам. І, настойліва паўтараючы азначэнне лірызму як «бясстрашнай шчырасці», сам адважваецца на яе. Выклікае майстра на размову пра тое, што лічыцца няёмкім успамінаць: пра жорсткі душэўны разлад і сумненні ва ўласных здольнасцях. Здаецца, пакутуе разам з рэжысёрам у яго цяжкія дні. І строга, бескампрамісна судзіць яго за «крокі ўбок» (аднак, імкнучыся ўсё ж разабрацца ў прычынах і выніках). Напрыклад, сапраўдная павага да майстра не перашкаджае Л. Паўлючыку вызначыць тэлеказку «Гора баяцца—шчасця не бачыць» як «дзіцячую хваробу» рэжысёрскага эксперыменту, мабыць, не самага пленнага.

Аўтар кнігі заўважае такую заканамернасць: калі тэма хвалюе рэжысёра, ён як бы не ўмяшчаецца ў рамкі адной карціны—і здымае фільмы цыкламі. Так было са стужкамі пра вайну і, пазней, з экранізацыяй «Палескай хронікі» І. Мележа. У пэўным сэнсе так, лічыць Л. Паўлючык, адбываецца і з фільмамі пра сучаснасць: «Час яе сыноў», «Нядзельная ноч», «Пункт адліку». Заўважу, што менш прыхільна, чым ён, стаўлюся да названых фільмаў. І не магу згадзіцца з тым, што «Час яе сыноў»—«найбольш тураўская ў гэтай серыі работ». Хоць таксама лічу: яна дала магчымасць яшчэ раз падзівіцца красе роднае зямлі і ўбачыць, як адбіліся на яе абліччы прайшоўшыя вякі і гады. І, безумоўна, грамадзянскі напал і смелая вастрыня думкі «Нядзельнай ночы» прымушаюць, нягледзячы на стылістычную няроўнасць фільма, адчуць боль за чалавечае ў чалавеку і палкае жаданне змагацца са злом...

«Адкуль мы родам?» — зноў задае пытанне рэжысёр і здымае «Палескую хроніку». Крытык здолеў убачыць: сцвярджэнне сваёй прыналежнасці да беларускай зямлі, да яе гісторыі, традыцый, народнай маральнасці — гэта было галоўным для В. Турава ў раманах Івана Мележа. Мы адчуваем, што Л. Паўлючык бываў, ды не наскокам, на здымках, сапраўды захоплены атмасферай творчасці на здымачнай пляцоўцы, якою стаў куток беларускага Палесся, не з чужых слоў ведае цяжкасці і радасці працы над фільмам.

На фатаграфіях, якіх нямала ў гэтай кнізе, мы бачым, як змяняецца твар В. Турава: зморшчыны акрэсліваюць рот, сівеюць валасы, цяжэе позірк. Намаганні волі, праца, упартасць, нервовае напружанне, бязлітаснасць да сябе—усё адбілася на гэтым абліччы. І яшчэ — той «сямейны канцлагер» пад Аахенам (якое кашчуннае словазлучэнне: сямейны канцлагер!), і тое дзяцінства, з якога ён родам і якое з болем і любоўю аднавіў у сваіх фільмах, што сапраўды рухаюцца ад споведзі да эпасу. І якое чуйна прыняў і аднавіў крытык у сваёй кнізе.

**Л. БРАНДАБОЎСКАЯ.**

Л. Паўлючык. Ад споведзі да эпасу. Лёс і фільмы Віктара Турава. Саюз кінематаграфістаў СССР. Усесаюзнае бюро прапаганды кінамастацтва. М., 1985.

Пагосты ўздоўж гасцінцаў і магілы.
А колькі ненароджаных дзяцей,

Ніхто не палічыў і не палічыць,
А колькі геніяў не прычакалі мы?!
Шукаюць іх, чакаюць іх і клічуць,
Нібыта салаўёў сярод зімы.

Наш век бязлітасны, трывожны і пярэсты.
Ніхто не ведае, які наступны ход.
Сівыя сіраты і вечныя нявесты
Клянуць дагэтуль сорак першы год.

## Пачакай

Пачакай, маё сэрца, спыняцца.
Я ў дарогу яшчэ не гатоў:
Толькі часам трывожаць і сняцца
Мне завеі наступных гадоў.

Пачакай, маё сэрца, не трэба
Караціць укарочаны шлях.
Прыйдзе час, — перавернецца неба,
Згасне сонца ў асенніх палях,

Змрок на ўсё недасяжнае ляжа,
Змоўкнуць гром, галашэнне і спеў,
І ніхто за мяне не раскажа
Чаго я расказаць не паспеў.

Пачакай, каб знянацку не ўпасці,
Пачакай, каб душу наталіць,
Каб убачыць сапраўднае шчасце
І з другімі яго падзяліць.

## Страчаны друг

Памяці Анатоля ПАДГАЙСКАГА

Ён так абачліва ідзе
І не спаткнецца аб парожак...
А друга кінуў у бядзе
І заваліўся ў цёплы ложак.

Спакойна да світання спаў,
Паснедаўшы, заняўся працаю,
А друг знявечаны сканаў
Апоўначы ў рэанімацыі.

А ён развацжліва ідзе,
Здаволены сабой, дахаты,
І не заплямлены нідзе,
І быццам бы не вінаваты.

## Без чаргі

Паўзе з любой нагоды
Крывая, як дуга,
І вытрымку заўсёды
Выхоўвае чарга.

Маўчы, чытай газету,
Хоць і баліць нага,
Затое маеш мэту,
А да яе — чарга.

Маўчы і стой да зморы,
Але ж тавар які! —
У снежні — памідоры,
У лютым — агуркі.

Чарга і на кватэру,
Чарга ў дзіцячы сад,
І за двайныя дзверы
Выстойвай, — рад, не рад.

Мы ў чэргах, як у штаце,
Штодня стаім усе.
А колькі год патраціў
З нас кожны у чарзе?

Чарга не стала раем,
Бо хвост яшчэ даўгі.
І толькі паміраем
Без блату і чаргі.

## Зубраня

Зуброў сягоння лічаць на адзінкі:
Зубры сышлі мільёнамі ў нябыт.
Сапе важак, і чутна, як ільдзінкі
У лужыне раструшчвае капыт.

Сівы важак сапе гарачай парай,—
Ён уладар і таямніц, і чар:
Раўне здалёку, і паспешна парай
Знікае за зубрыхаю ў гушчар.

Ён доўга аблюбоўвае сяброўку,
Ахоўнік, закаханы і баец...
Пасля у верас лягуць ці ў зуброўку
Ад шчасця і спакою захмялець,

Каб дачакацца гулкага світання
Таго, даўно загаданага дня,
Калі на ножкі першы раз устане
І новы век убачыць зубраня.

## Зорна. Ветрана. Зіма

За сняжынкаю сняжынкі
Паляцелі на палі,
За сцяжынкаю сцяжынкі
У юнацтва павялі.

Па гасцінцах Беларусі,
Каля снежных цэрамоў,
У валёнках і ў кажусе
Я спяшаюся дамоў.

«Еду, еду. Поле, хаты,
Выязджаю на бальшак...»[1]
У бясклопатным трыццатым
Ехаў мой таварыш так,

Ехаў, марачы аб славе,
І ў бязвоблачныя дні
Ў старажытным Амсціславе
Запаліў свае «Агні».[2]

Спадзяваўся: «Ўдача будзе.
Што ж,бывай, мой гарадок...»
І натхнёна у «Таўрыдзе»[3]
За радком снаваў радок.

Заклапочаны і рады,
Усміхаўся ён вясне,
Вершы, часам пераклады
На хаду чытаў і мне.

Праляцела шчасце міма,
Слава бокам абышла,
Нечакана восень дымам
Той бальшак завалакла.

Я дамоў гасцінцам еду.
Зорна. Ветрана. Зіма.
Не відно юнацтва следу,
І сяброў даўно няма.

1) радкі з верша, 2) першая кніга. 3) паэма Юлія Таўбіна.

## Прызнанне аўтара аўтару

Ну, а колькі на душу
Прыпадае ў нас паэтаў?
Хоць прызнацца сам грашу
Я пляцёнкамі санетаў.

Складным вершам апішу
Усё, што ўбачу, ўсё, што здасца,
Толькі разгадаць душу
І сваю наўрад ці ўдасца.

Кніжкамі забілі мы
І прылаўкі і паліцы:
Вершаў плесняюць тамы,
І раман даўно пыліцца.

Лічым знаўцамі жыцця
Мы сябе на ўсіх старонках,
Але многае
дзіця
Ведала яшчэ ў пялёнках.

Але ёсць яшчэ чытач,
Што прыкінуцца умее,
Быццам мовы, хоць ты плач,
Ён сваёй не разумее.

Ганіць класікаў сваіх,
Не чытаючы, аблыжна,
І купляе замест іх
З-пад прылаўка, што прэстыжна.

Каля вокан і вітрын
Мы праходзім шпаркім крокам,
Бо здалёку магазін
Сустракае нас папрокам.

## Перад дальняй дарогай

Відаць, на развітанне снег
Маю завейвае хацінку,
І вецер зносіць з белых стрэх
За чарацінкай чарацінку.

Я доўга лямпу не палю,
Каб дарам не сляпіла вочы.
Вазоны на акне палью
І буду пазіраць да ночы,

Як будзе маладзік свяціць
Над бальшаком у снежным пыле,
За зоркай зорка праляціць
І дагарыць на небасхіле.

Да болю любячы зямлю,
Ў дарогу дальнюю збяруся,
У поўнач лямпу запалю
І ў хату болей не вярнуся.

---

вершы «Ялта», «Усё застаецца». Набралася чалавечай важкасці, адказнасці тэма кахання. Многія інтымныя вершы — гэта па сутнасці лірычныя элегіі, напоўненыя роздумам пра этыку кахання, філасофію дружбы, як дзвюх сіл чалавечага сужыцця і пазнання:

**Адвечных зор і вечных рыфм пастух,**
**з бяздумнаю і тлумнай галавою,**
**я ўкленчыў старамодна прад табою,**
**ды позна ўжо было. Агонь патух.**
**І ты пайшла. Пайшла. А я стаяў,**
**трымаючы ў руках зямлю, бы глобус,**
**пакуль маленькі спознены аўтобус**
**цябе на бальшаку не падабраў...**

М. Рудкоўскі шукаў натуральнай выразнасці, імкнуўся дабівацца адзінства задумы і вобраза, унікаў зухаўства і позы. Пашыраўся ў яго вершах удзел жывой гутарковай мовы і мовы народнай, яснай, акрэсленай і моцнай па інтанацыях, свабодна сыходзячай з паэтычнага п'едэстала на зямлю і не губляючай адухоўленасці, паэтычнай сілы.

І ўсё ж у «Позвах», услухаўшыся, можна сям-там улавіць перанапружанасць у акцэнтах, нейкі трывожны сігнал зморанасці, а мо і небяспекі. Яшчэ мацней ён у вершах «Векавечнай Бацькаўшчыны», зборніку, дзе прыкра паменшала арыгінальных і паказальных для М. Рудкоўскага твораў, радкоў, а пабольшала прыстойна напісаных па інерцыі вершаваных сачыненняў.

Выразна пазначаны творчым спадам тры першыя раздзелы «Трыгор'я»: неспадзявана выступілі тут матывы самаапраўдання ці нават заўчаснай самападрыхтоўкі да завяршэння творчай дарогі. Прыкра чытаць словы бяссілля і пакоры ў чалавека, які так хораша, я б сказаў, мудра набліжаўся да сябе: «Паэт — агонь, таму згарэў так рана» — пачынаецца адзін з варыянтаў самаапраўдальнага псалма. Чаму такое адбываецца ў час, калі народ, адолеўшы вайну, прагна хапаў і скарыстоўваў такі жаданы і крывава аплочаны час міру, час пазнання, час кахання, час здзяйснення? Неўразумела і маладушна гучаць матывы дэпрэсіі: «І я малады быў учора і свой спазнаў Рубікон»... Які Рубікон? У якіх грамадскіх сутычках змогся герой? Чаму стаў ужываць такія заношаныя прыёмы самаадарацыі: мой Рубікон, мая арбіта, у кагосьці быў нават «мой абеліск»... Чаму забыўся на ранейшую харошую сціпласць? Чаму наогул пісаў, чаму не змоўк, як змаўкалі ў першую сусветную вайну А. Блок і Я. Купала, як змаўкаў на крутым зломе 60-х А. Куляшоў? У іх былі глыбокія духоўныя прычыны, а тут, відавочна, няма іх, паколькі лірычны герой то пагражае нам, што зломіць пяро, а тым часам піша і друкуе. Тут перашкоды асабістыя, прычыны прыватныя, хоць на свой лад моцныя, калі здолелі разладзіць творчае самавыяўленне.

Вяртанне на свой бераг, а не адыход ад сябе, не фарсіраванне ўяўных Рубіконаў стала сутнасцю творчага жыцця Рудкоўскага апошняга дзесяцігоддзя.

На шэраг цікавых самастойных твораў мы натыкаемся ажно ў прадапошнім раздзеле «Трыгор'я» — «Метамарфозы». Гэта вершы — «Вітаю вас», «Эксперымент», «У хвіліны роздуму і смутку», «Начная навальніца», «Той марак быў і цяжкі і пусты». Тут прабуджаецца дух адолення, ажывае ўваскрашальная вера. На жаль, яна не была цвёрдай. Збавеннем для душы станавіліся ўспаміны пра нядаўняе рамантычнае гарэнне і прагу дынамічнай гармоніі. Гэтыя спробы вяртання на свае кругі занялі апошні раздзел кнігі і асвяжылі яе каларыт удалымі радкамі вершаў «Фігурыстка», «Над Бацькаўшчынай цёплыя снягі», «Люблю».

Час одуму настаў у 80-я гады, калі пачала адраджацца кроўная сувязь з жыццём, з краем родным, якая ў свядомасці паэтаў звычайна прымае форму прызвання, прызначэння, лёсу. М. Рудкоўскі выйшаў да чытача з вершамі, у якіх на новым для яго ўзроўні адазваліся агульначалавечыя і глабальныя пытанні веку. Сэнс быцця тут азваўся патрэбаю шчырай медытацыі, самаразліку, патрэбай больш пэўна адказаць на пытанні: хто я і навошта жыву на свеце, што магу зрабіць для людзей?

Зборнік «Засцярога» нават загалоўкам выдае глабальную мэту — шукаць прычын і спосабаў на зло, што паношыцца ў свеце і пагражае жыццю. Ідэя ачышчэння перад спазнанай марнасцю і адчутаю вечнасцю — вось галоўная тэма кнігі. У «Баладзе купальскіх світанняў» паэт спрабуе паказаць шлях свайго адраджэння, як адно з цудаў чарадзейнай купальскае ночы. Праўда, яго фантазія месцамі забівае хрэстаматыйнае ўяўленне аб эвалюцыі жывых істот па Дарвіну, але ёсць мясціны арыгінальныя, што ўспрымаюцца менавіта як працяг рамантычнага пантэізму, які хораша жыў у «Сініх Брадах» і «Позвах»:

**Я — у Купаллі**
**Я ў ранні спрадвечным прачнуўся,**
**І — о дзіва!**
**мяне не баяцца**
**ні птушка, ні рыба, ні звер.**
**Я ўспомніў сябе...**

Паэта даймае прыпамінанне чалавечай здольнасці тварыць, адчуваць, адкрываць. І ўсё гэта ён хоча пачаць нанова, і весці на аснове больш важкага вопыту душы, чым гэта было ў перыяд сталення і ўзыходжання. Ажыла і пасвяжэла здольнасць эмацыянальна-ацэначнага бачання свету, яго пахаў, колераў («Фарбы Беларусі», «Роднаму краю»), сама ацэнка стала больш праніклівай, мацней выявіліся ў ёй філасофскія асновы быцця, адрадзіўся прыглушаны раней сэнсавы дыяпазон маналогаў (ад рамантычнай пявучасці да іроніі), вярталася цнатлівая сцішанасць голасу і пачуццё гумару.

Лірычны герой зборніка «Засцярога» разумее вернасць па-сучаснаму, па-інтэлігенцку шырока, як вернасць сваёй існасці, сваім пачуццям, як шанаванне шчырасці ў дружбе і каханні, а калі яно адышло — памяці таго добрага, што збліжала, узбагачала.

У М. Рудкоўскага, падобна як у вядомым хрэстаматыйным вершы П. Броўкі, памяць сэрца, любоў «нябесная» трыумфуе над зямною, даказвае сваю жывучасць, працягненую над нябытам да несмяротнасці. Але, відаць, найбліжэйшым літаратурным папярэднікам Рудкоўскага ў гэтай матэрыі трэба назваць Караткевіча з яго «рутай у халоднай расе». Вось нават доказ, радкі з верша «У сонечных вятрах»:

**Усё жывое прагла і любіла**
**У абнаўлёных, радасных лясах.**
**Мяне, як бліскавіца, апаліла,**
**Твая халаднаватая краса.**
**Харал птушыны ліўся, узвіваўся**
**І рассыпаўся залатой расой.**
**І я, нібы дзікун той, любаваўся,**
**Тваёй халаднаватаю красой.**

Гімн рэху кахання, якое было, але не можа прамінуць, возьмецца складаць насамперш рамантык. Ён адчувае, што гэтае рэха пачуццяў непадуладна ні гуку, ні колеру, ні нават слову, але яно шчыміць, значыць, ёсць. У вершах «Зямля мая, была тваёй зямлёй», «А снег ідзе» паэт ловіць сябе на тым, што яго ўжо супакоенае сэрца бачыць часам больш, чым калісьці, заўважае німб незгасальнага хараства над чалом жанчыны.

«Засцярога» не ўпэўніла б мяне ў тым, што шлях паэта выйшаў на плато, а не на чарговы ўзгорак, калі б у кніжцы былі спрэс аптымістычныя вершы. Зборнік падкупляе глыбінёю ўсведамлення рэальных цяжкасцей і небяспек на жыццёвых і творчых шляхах, пакарае балючым разуменнем таго, што барацьба за творчы лёс у мастацтве не канчаецца, а небяспекі могуць нарастаць. Ды і ім насустрач выходзіць вопыт і адчуванне цаны таго, што зроблена, вядзе да абавязку. Патрэба тварыць ураўноўваецца з патрэбай жыць:

**Як айсберг я. Плыву. Перагарэў.**
**Пашчу. Ды не прыходзіць пакаянне.**
**Разблытваю вузлы. Мяча няма.**
**Затое прага сонца ёсць і ёсць цярпенне**
**Нязбытных шкадаванне мар, памкненняў,**
**Пачуццяў, дзён, патрачаных дарма.**

Не да лёсу ці неба, а да роднага краю звяртае паэт просьбу адпусціць яму яшчэ творчых дзён на меру яго не ўласнай, а грамадскай патрэбы:

**А яшчэ зраблю круг ціхім ценем**
**Над ляском, дзе журацца крыжы...**
**Родны край мой! Краю мой асенні,**
**Не спяшай цяпельца патушыць!**

Кожнаму паэту, нават прызнанаму, ніколі не зашкодзіць яшчэ больш самакантролю, а рамантыку і ўдвая, бо рамантычная паэзія наогул звыкла ахоплівацца віхурамі настрояў, пошукамі высокіх нот і вострых акцэнтаў, яна міжвольна збіваецца на паўтарэнне выпрабаваных раней прыёмаў звышэкспрэсіі. Так і ў М. Рудкоўскага пры пільным чытанні заўважаеш, што лірычны герой сапраўды пачынае быць смешнаватым з-за паўтораў старамоднага прыёму кленчыць перад каханай. Не апраўдваюць гэтай тэатральнай позы выкліканыя з пушчы знаўцы рыцарскага этыкету алені. Занадта абмежаваным выглядае стылізаваны пейзажны фон у некаторых любоўных вершах: рэчка, лодка і лось на ўзбор'і; купалле, начны агонь і цудоўная раса — усё гэта зацверджаны народнаю песняй ружанец, але задача паэта не ўжываць гатовае, як панелі на блочных будоўлях, а заўсёды абнаўляць, рабіць вобразнасць сучаснага кахання надзённай, але і свецкай. Вопыт сённяшняй лірыкі паказвае, што сам тып фальклорна-песеннага верша не можа падняць усяго жыццёвага багацця інтымнага свету сучаснікаў.

Прасочваючы рух версіфікацыйных сродкаў М. Рудкоўскага на працягу трох дзесяткаў гадоў яго творчай працы, заўважаеш імкненне да большай акрэсленасці жанравых рыс твора. У ранніх кнігах паэт стараўся паслабіць традыцыйныя для беларускага верша сілабатанічныя нарматывы, скрозь пісаў радкі толькі з малой літары, як бы падказваючы чытачам, што яго верш трэба вымаўляць, а не дэкламаваць. М. Рудкоўскі заўжды чуе свой радок моўленым, а не спяваным, і хоча, каб сінтаксічныя міжрадковыя сувязі на ўзроўні страфы і ўсяго твора выяўлялі змест, а не толькі настрой.

У зборніках «Трыгор'е» і «Засцярога» націск перанесены на рытма-меладычныя міжрадковыя парогі, кожны радок пішацца там з вялікай літары, не зважа-

(Заканчэнне на стар. 10).

## ВІНШУЕМ

Імя народнага артыста СССР Аркадзя Саўчанкі шырока вядома аматарам музычнага тэатра. Вялікая галерэя створаных ім вобразаў у класічным оперным рэпертуары, у спектаклях на музыку савецкіх кампазітараў. Яго Яўгеній Анегін у аднайменнай оперы П. Чайкоўскага і Ялецкі ў «Пікавай даме», Валянцін у «Фаўсце» Ш. Гуно, Фігара ў «Севільскім цырульніку» Д. Расіні, Радрыга ў оперы «Дон Карлас» на Шыкунова, работа з якой таксама прынесла мне вялікую творчую радасць), у дыялогу з сімвалічным вобразам «ранка», які выконваўся хлопчыкам і дзіцячым хорам.

Гэту нашу даўнюю творчую сустрэчу ўспамінаю з самым цёплым, сяброўскім пачуццём. Я зразумеў тады, што Аркадзь Саўчанка — не толькі выдатны вакаліст, але і мае добрыя акцёрскія дадзеныя.

Сустрэча другая.

...лі яшчэ адну грань таленту Аркадзя Саўчанкі. Вобраз Леўчука, створаны ім, псіхалагічна дакладны, пераконвае, хвалюе. У фінальным маналогу героя-партызана пра лёс шматпакутнай акупіраванай фашыстамі Беларусі «Мой край...» А. Саўчанка дасягае вялікага драматычнага напалу, у яго выкананні з'яўляюцца новыя вакальныя фарбы.

Часопіс «Советская музыка» (№ 3 за 1985 г.) пісаў: «Пос...

# ЗГАДКІ РАДАСНЫХ СУСТРЭЧ



**Народнаму артысту СССР Аркадзю САУЧАНКУ—50**

Д. Вердзі і Рыгалета не раз захаплялі слухачоў, сярод якіх бываў і аўтар гэтых радкоў. Але я сёння — пра іншае: пра нашу творчую садружнасць.

Першая сустрэча з Аркадзем Маркавічам адбылася ў 1968 годзе, пад час работы над маёй операй «Ранак» паводле паэмы Аркадзя Куляшова «Песня аб слаўным паходзе».

Опера гэта — тэлевізійная, жанр—малады, і ўзнікала мноства складанасцей для кампазітара, рэжысёра (Віктар Карпілаў) і для выканаўцаў.

Трэба было не толькі спяваць, але і, вядома, іграць. (Ад ідэі запрасіць драматычных акцёраў, як гэта часта робіцца, каб яны ігралі пад фанаграму оперных спевакоў, мы адмовіліся). Выканаўцы павінны былі не толькі думаць пра вакалізацыю, але і ў пэўным сэнсе «наблізіцца» да прафесіі артыстаў кіно.

Выбар Аркадзя Саўчанкі на галоўную ролю Адама быў не выпадковы. Ужо ў тыя гады ён, малады саліст з прыгожым голасам і адметнай сцэнічнай знешнасцю, займаў вядучае становішча ў трупе тэатра оперы і балета БССР. Работа Саўчанкі ў тэлеоперы атрымала станоўчую ацэнку спецыялістаў.

Мяне як аўтара Аркадзь Маркавіч асабліва ўразіў у лірычных сцэнах, у дуэтах з Арынай (народная артыстка БССР Ірына Шыкунова...

На сцэне нашага тэатра ў 1980 годзе была пастаўлена мая опера «Сцяжынаю жыцця» (па матывах аповесці Васіля Быкава «Воўчая зграя»; рэжысёр Сямён Штэйн, дырыжор Уладзімір Машэнскі). Я разумеў: выканаўца галоўнай партыі партызана Леўчука мае шмат магчымасцей для творчага пошуку, але і сутыкаецца з немалымі цяжкасцямі. Бо музычная драматургія оперы вымагае ад яго пераканальнай псіхалагічнай праўдзівасці, кантрастнасці акцёрскага малюнка, якая ў той жа час не парушала б цэласнасць вобраза. Складаная вакальная мова Леўчука ў Аркадзя Саўчанкі з кожным спектаклем рабілася больш яркай, інтанацыйна выразнай. Работа Аркадзя Маркавіча была вельмі цёпла прынята слухачамі і прэсай у час гастроляў Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР у Маскве на сцэне Вялікага тэатра.

Мушу прызнацца, на пачатку работы над операй «Сцяжынаю жыцця» мне здавалася, што лірычная натура гэтага саліста не зусім прыдатная для таго, каб выявіць у вострапканфліктным сюжэце і музыцы драматычную, нават трагічную лінію спектакля.

Як я цяпер разумею, творчая садружнасць з пастаноўшчыкамі спектакля, пачуццё грамадзянскай адказнасці за тэму, высокі прафесіяналізм адкрылі яшчэ адну грань таленту...

...пех опернага спектакля на сучасную тэму ў многім, як вядома, вызначае майстэрства акцёраў, праўдзівасць іх сцэнічных паводзін, без якіх цяжка прывіць гледачу цікавасць да опернай музыкі, якая нараджаецца сёння. Псіхалагічна ёмісты вобраз Леўчука стварае А. Саўчанка. Не толькі сцэнічны малюнак ролі і спосаб інтаніравання, змены тэмбравай афарбоўкі голасу памагае спеваку паказаць вобраз у развіцці...»

Мне хочацца асобна сказаць пра ўдзел Аркадзя Маркавіча ў оперных спектаклях на музыку беларускіх кампазітараў, дзе праявіўся яго яркі талент спевака і акцёра. Гэта Міхал у оперы Юрыя Семяняки «Новая зямля» паводле паэмы Якуба Коласа, вобраз паэта Максіма Багдановіча ў яго ж оперы «Зорка Венера», гэта Кізгайла ў оперы Дзмітрыя Смольскага «Сівая легенда» па матывах аповесці Уладзіміра Караткевіча.

Чакаю прэм'ер з яго ўдзелам. Не сумняваюся, што Аркадзь Саўчанка не раз парадуе аматараў опернага мастацтва новымі дасягненнямі свайго высокага вакальна-сцэнічнага майстэрства.

**Генрых ВАГНЕР,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў БССР,**
**кампазітар.**

## МУЗЫКА

**Галоўнаму хормайстру Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, народнаму артысту рэспублікі Аляксею Кагадзееву спаўняецца 60 гадоў. Наш нештатны карэспандэнт гутарыць з юбілярам.**

# «ПРАЦУЕМ ВА ЎМОВАХ СПЕКТАКЛЯ...»

**— Аляксей Пятровіч, у тэатр вы прыйшлі ў 1959 годзе, з 1960 сталі яго нязменным галоўным хормайстрам. Доўгія гады працы... Чым жыве ваш хор, якія праблемы вас хвалююць сёння?**

— Праблем у нас, вядома, багата. Бо хор—гэта такі інструмент, які трэба ўвесь час настройваць, пастаянна сачыць за тым, каб усё гучала суладна, у ансамблі. Каб рэпертуар увесь час быў «у добрай форме»: афіша ж у нас вялікая, часам па 24 спектаклі ідзе ў месяц. Такі аб'ём спалучыць з добрай якасцю—гэта праблема. Што мы робім для яе вырашэння? Запісваем на магнітафон спектаклі, даём праслухаць артыстам хору, каб усе чулі, якія былі пагрэшнасці; вядзём кнігу ўліку спектакляў, у якой пасля кожнага спектакля запісваюць свае заўвагі дырыжор, рэжысёр. Кнігу гэту можа паглядзець кожны артыст хору. Даводзіцца праводзіць і дадатковыя рэпетыцыі. Пераважна—для моладзі, каб памагчы ёй хутчэй увайсці ў работу, у спектакль. Апроч таго, мы часта выступаем з шэфскімі канцэртамі ў падшэфным калгасе «Праца» Капыльскага раёна, паказваем вялікую праграму: урыўкі з опер, асобныя харавыя творы, апрацоўкі беларускіх народных песень; рыхтуюць артысты хору і сольныя нумары.

**— Такім чынам, выступаеце як звычайны канцэртны хор... Ды адметнасць у тым, што ваш хор — тэатральны. І ёсць, вядома, асаблівыя патрабаванні да вашых артыстаў: валодаць мастацтвам сцэнічных паводзін, умець насіць касцюмы, карыстацца грымам. Усяму гэтаму будучага артыста хору ў музвучылішчы не вучаць.**

— Гэта вы правільна заўважылі. Спявак у нашым хоры павінен быць універсальным. Мець сцэнічную знешнасць, моцны голас — мала: ён павінен умець паказваць свае спевы ў працэсе сцэнічнага дзеяння. У звычайным канцэртным хоры тое, што артысты вучаць у харавым класе,—тое яны і выносяць на сцэну. А ў нас гэта—толькі першы этап работы. Пасля таго, як усё вывучым у класе, пачынаецца работа на мізансцэнічных рэпетыцыях, з рэжысёрам. У працэсе рэжысёрскай расстаноўкі дзейных асоб галасы «раскідваюцца» не ў харавым парадку: альты могуць апынуцца «ўперамешку» з тэнарамі, часам артысты могуць апынуцца на вялікай адлегласці ад дырыжора, бо рэжысёр глядзіць на оперу са свайго пункту гледжання. І для нас узнікаюць значныя цяжкасці, галоўным чынам ансамблевыя. Вельмі цяжка спяваць бывае ў нязручных паставах, спяваць і танцаваць адначасова, насіць складаныя касцюмы, бараду, парык, што ўскладняе пеўчае дыханне і да т. п. Таму новаму чалавеку ў нас вельмі нялёгка.

Як у іншых тэатрах? Там існуюць стажорскія курсы, дзе харысты перад тым, як выйсці ў спектакль, месяцы два вывучаюць мізансцэны, сцэнічнае майстэрства, паводзіны, вучацца трымаць веер, насіць фрак, хадзіць, сядзець на сцэне, каб гэта было па-тэатральнаму выразна. У нас жа вялікая бягучая нагрузка, для такой работы проста бракуе часу. Вось тут вельмі памагае нам савет настаўнікаў. Ён персанальна «замацоўвае» кожнага маладога артыста за старшым, вопытным таварышам, з якім і спасцігаюцца ўсе прамудрасці нашай работы.

Працуюць у нас, пераважна, энтузіясты, захопленыя тэатрам. Цяжкасці іх не бянтэжаць. Але кадравая праблема існуе. Асабліва не хапае мужчынскіх галасоў. І самае крыўднае, што калі мы вывучым маладога спевака (а каб чалавек засвоіў новы рэпертуар, неабходна мінімум тры-чатыры гады), ужо навучаны, такі неабходны нам артыст падае заяву аб звальненні. І нічога дзіўнага тут няма. З-за нейкай прыкрай памылкі зарплата артыста хору тэатра значна ніжэйшая, чым у іншых харавых калектывах. І гэта фінансавая дыспрапорцыя вельмі падрывае нашу работу.

**— А вы сам не шкадуеце, што пайшлі працаваць тэатральным хормайстрам? І, дарэчы, як гэта адбылося, што вызначыла ваш выбар?**

— Я ніколькі не шкадую, я люблю сваю работу і сёння не страціў да яе цікавасць. А бы...

# Шляхі адроджанай надзеі

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).

...ючы на тое, што межы радкоў не заўжды супадаюць з межамі фразем, а міжрадковыя паўзы фармалізуюцца, мова верша хоча наблізіцца да дэкламацыі. Адным словам, паводле арганізацыі зместу, верш застаецца моўленай разважаючай ці роздумнай рэляцыяй, а па тыпу версіфікацыі робіцца больш смела рытмізаваны сілабатонікай. Ідзе жанравая палярызацыя: на адным полюсе аказваюцца класічныя жанры — тэрцыны, санет, а на другім — сучасныя — верлібр і нават вольны верш (пераважна ў гратэскавых тэмах).

Наогул жа М. Рудкоўскі ўсё смялей і настойлівей ідзе на выпрацоўку уласнай манеры выказвання. Імкненне гэтае настолькі важнае, што, бывае, ён, узяўшыся перакладаць чужы тэкст, як бы «прысвойвае» яго і піша ўласны твор «па матывах». І часам атрымліваюцца рэчы самавітыя, як гэта здарылася з вершам украінскай паэтэсы Наталлі Кашчук «Вясновыя ночы». Праўда, у вершах «Апошняя малітва Максіма Багдановіча» і «Тарас Шаўчэнка» менш арыгінальнасці, чым было задумана аўтарам. У іншых вершах міжвольна чуюцца то ясенінскія ноткі тугі, то гарэзлівы сум П. Панчанкі: «І слых к табе вернецца, і раны загояцца, і вочы святлом і блакітам напоўняцца». Затое М. Танк успрымаецца больш творча, хіба толькі яго абагульняюча-асацыятыўны тып мыслення ўгадваецца вось у гэтых, напрыклад, радках верлібра М. Рудкоўскага:

**І Месяц, наблукаўшыся ў Сусвеце,**
**Спусціўся да мяне**
**І паклаў сваю голаў**
**Побач з маёй на падушку,**
**Напханую водарам траў**
**І цішынёю.**

Глабальныя і агульначалавечыя тэмы ў М. Рудкоўскага пранізвае адзін стрыжнёвы матыў: тая міжвольная праўда, якая наіўна выступае ў фальклорна-фантастычных адносінах да прыроды, як поўнае ўраўнанне чалавека з раслінамі і жывёламі. Па сучасных паняццях, гэта можа азначаць, што ўсё ў свеце ўзаемазвязана, таму і чалавек, маючы розум, павінен гэтыя сувязі свядома пазнаваць і ўмацоўваць, а не рваць і ламаць. Чалавецтва ўжо так развіло свае веды аб прыродзе, што ўрэшце зноў прыйшло фактычна да анімістычнага пастулату тоеснасці ўсяго жывога.

Тэрмаядзерная супрацьстаянне спарадзіла дылему сумеснага выжывання або ўзаемнага знішчэння. Такім чынам, тэмы вайны, міру, кахання, жыцця, экалагічнай актыўнасці планеты звязаліся ў адзін вузел, вузел жыцця і смерці, адказнасці ўсіх за ўсё. Тэрмаядзерныя арсеналы без дапамогі паэтаў персаніфікуюцца, пачынаюць жыць сваім у многім незалежным «свабодным» жыццём, залежачы таксама ад «захворвання» нейкіх сваіх вузлоў, як і ад волі тых людзей, якім яны падпарадкаваны і якія па ідэі павінны несці чалавечую адказнасць за лёс цывілізацыі і прыроды на планеце. Узнікла супрацьстаянне тэхнікі і чалавека, выпадку і розуму, сумлення. Глабальныя праблемы веку адначасна сталі на першым месцы праблем агульначалавечых. Але як бы ні напружвалася працаванне жыццёвага працэсу, усё роўна недзе ў самым нізе ён носіць і будзе насіць канкрэтны характар, свае чалавечыя формы і намеры, у кожным пункце планеты, рэгіёна, на кожным духоўным ці душэўным узроўні. Тут поле сяўбы для вялікіх, сярэдніх і нават малых паэтаў. Не варта аднак хавацца за чужыя словы пра адказнасць, яна роўная творчым магчымасцям у кожным канкрэтным выпадку. Абавязак — таксама.

**Уладзімір КАЛЕСНІК.**



Народны артыст БССР А. Кагадзееў з артысткамі хору. Фота А. КАЛЯДЫ.

ло ўсё даволі нечакана. У Мінскім музычным вучылішчы я вучыўся адразу на двух аддзяленнях — тэарэтыка - кампазітарскім і народных інструментаў. Служыў у арміі, дзе іграў у духавым аркестры, потым мяне перавялі ў часць, дзе трэба было арганізаваць салдацкі хор. Паколькі я музыкант—мне гэта і даручылі. Працуючы з хорам, зацікавіўся гэтай работай і ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю паступаў ужо на дырыжорска - харавое аддзяленне, маючы вопыт работы ў салдацкім хоры. На ўсё жыццё ўдзячны майму педагогу Ганне Паўлаўне Зелянковай, якая падтрымала маю захопленасць новай прафесіяй. Яна брала мяне з сабой на рэпетыцыі хору Беларускага радыё, сам я пачаў працаваць з жаночым хорам клуба імя Ільіча. Пасля заканчэння кансерваторыі мяне накіравалі ў аспірантуру ў Ленінград. Там у час практыкі сустрэўся з галоўным хормайстрам Кіраўскага тэатра Авенірам Васільевічам Міхайлавым. Гэта быў надзвычай таленавіты чалавек, проста, я лічу, унікальны ў харавой справе. Яго рэпетыцыі былі для мяне адкрыццём. Ён мог рэпеціраваць дзве гадзіны запар, і гэтыя дзве гадзіны пралятаді, як адна секунда,—столькі было ў яго рабоце фантазіі, выдумкі, эмацыянальных узлётаў! У яго я спасцігаў мастацтва тэатральнага хормайстра, асвойваў оперны рэпертуар. І калі вярнуўся пасля аспірантуры ў Мінск, з радасцю пайшоў працаваць у тэатр.

**— За гады работы ў тэатры «праз вашы рукі» прайшла велізарная колькасць спектакляў. Якія пастаноўкі для вас найбольш памятныя?**

— Адна з першых маіх работ — «Арэстэя» С. Танеева, спектакль асабліва памятны. Па-першае, опера гэта вельмі рэдка ставіцца і было проста цікава працаваць з незнаёмым матэрыялам. Па-другое, С. Танееў—цудоўны майстар харавога пісьма, вельмі ўдумлівы, мудры кампазітар. А па-трэцяе, «Арэстэю» мы паказвалі на гастролях у Маскве і крытыка тады адзначыла добрую работу хору. Гэта нас усіх акрыліла, у тым ліку і мяне, я адчуў упэўненасць у сваіх сілах. Затым цікавымі ў харавых адносінах былі для мяне пастаноўкі «Хаваншчыны» М. Мусаргскага, «Лаэнгрына» Р. Вагнера, «Джардана Бруна» С. Картэса, опер Ю. Семянякі. Я лічу, што многія яго творы, у тым ліку і апошні—«Новая зямля», — цікавыя і добра гучаць. Ну і, безумоўна, самая складаная работа для нас была «Карміна Бурана» К. Орфа. Нам давялося зусім мяняць вакальную, пеўчую спецыфіку. Музыка гэта, я лічу, проста геніяльная. Настолькі па форме, па ўнутраным змесце, па меладычнай мове, па гармоніі арганічная, шчырая і прафесійная! Увесь час дзіўлюся: колькі ні рэпеціруеш гэты спектакль— заўсёды знаходзяцца нейкія новыя фарбы, новыя адценні, якія раней не заўважаў! І ў мяне заўсёды шмат турбот за гэты спектакль: яго вельмі цяжка захаваць у сумяшчэнні з бягучым оперным рэпертуарам. Вось, скажам, учора мы спявалі «Вайну і мір» С. Пракоф'ева, дзе патрабуецца надзвычай напружанае харавое гучанне, а наступным вечарам такі тонкі твор, як «Карміна Бурана». А часу на перападрыхтоўку няма, мы выклікаем артыстаў за гадзіну да спектакля і рэпеціруем. Гэтага мала, «Карміна Бурана» вымагае дэталёвай апрацоўкі гучання асобных груп, узнаўлення харавога ансамбля, асабліва ўнутранага напаўнення.

**— А што ў вас цяпер у рабоце, што ў планах?**

— Апошняя наша гатовая работа — «Вайна і мір» С. Пракоф'ева. Спектакль для нас, хору, вельмі складаны па музычнай мове, сцэнічна складаны. Калі, напрыклад, у спектаклі «Карміна Бурана» наш хор быў падзелены на дзве групы, аддаленыя адна ад адной на 20 метраў, дык тут мы спяваем наогул у тыле залы, у ложы. Мы адмежаваныя ад аркестра, не чуем яго, у такіх умовах утрымаць суладдзе з усім оперным ансамблем досыць цяжка.

Цяпер працуем над операй «Яўгеній Анегін» П. Чайкоўскага, ужо ідуць мізансцэнічныя рэпетыцыі. Твор вядомы, традыцыйны, тут кожную мелодыю і школьнік ведае. Самае галоўнае, каб спектакль атрымаўся без штампаў, каб удалося знайсці свежыя фарбы... Пра планы гаварыць не магу: яны яшчэ не зацверджаны ў тэатры, а планы хору непасрэдна залежаць ад планаў усяго калектыву.

**— Аляксей Пятровіч, размова наша засяродзілася на праблемах вашага хору. Гэта натуральна; работа ў тэатры—асноўнае ў вашым жыцці. Але вы, я ведаю, займаецеся яшчэ і педагагічнай работай як дацэнт кансерваторыі, пішаце кнігі—«Тэхніка харавога дырыжыравання» і «У дапамогу дырыжору хору» даўно выдадзены. Якія планы ў вас у гэтай галіне?**

— Педагагічнай работай я займаюся больш за 20 гадоў. Лічу, тут я патрэбен. Бо педагогу, які сам працуе з хорам, лягчэй перадаць сваім вучням практычныя навыкі, чым таму педагогу, які не мае практыкі і працуе са студэнтамі ў класе пад раяль. І студэнтаў сваіх я далучаю да практычнай работы з хорам, бяру на свае рэпетыцыі. Дзве мае колішнія выпускніцы цяпер хормайстры у нашым хоры — Галіна Пятроўна Луцэвіч і Ніна Іосіфаўна Ламановіч.

Што датычыць маіх кніг— думаю пра іх перавыданне, бо назапашаны новы вялікі выканаўчы і педагагічны матэрыял. Хачу напісаць яшчэ нататкі ці ўспаміны — кнігу пра сустрэчы з выдатнымі майстрамі харавой справы, прынамсі, з Авенірам Васільевічам Міхайлавым, метад якога добра ведаю, па запаветах якога імкнуся працаваць. Хочацца, каб гэта не прапала, хочацца перадаць эстафету прафесійных ведаў моладзі. Так што спраў яшчэ шмат.

**— Дзякую, Аляксей Пятровіч, за гутарку. Поспехаў вам у вашай нялёгкай і патрэбнай працы.**

Гутарку вяла
Людміла МАКАРАНКА.

## ПРЭМ'ЕРЫ



Сцэна са спектакля «Жудасныя бацькі».

**На малой сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ідзе спектакль «Жудасныя бацькі» па п'есе Ж. Както ў рэжысуры Н. Піскаровай. Мастацкі кіраўнік пастаноўкі — народны артыст СССР В. Тарасаў. У спектаклі заняты заслужаная артыстка БССР Г. Талкачова, артысты А. Гарцуеў, А. Сідарава, М. Кірычэнка, Н. Піскарова.**

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.



У. Куляшоў (Эфраім Кэбат) і Л. Цімохава (Абі Патнэм) у спектаклі «Любоў пад вязамі».

**У Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа рэжысёр Д. Дзіджыонас ажыццявіў пастаноўку драмы Ю. О'Ніла «Любоў пад вязамі» (пераклад з англійскай мовы зроблены В. Сёмухам). Сцэнограф спектакля — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ю. Тур, пастаноўшчык танцаў— Л. Барадулька.**

**Ролі выконваюць народны артыст рэспублікі У. Куляшоў, артысты Л. Трушко, В. Дашкевіч, В. Цвяткоў, А. Лабанок, Ю. Кулік, Л. Цімохава і іншыя.**

Фота С. КОХАНА.

# ФІЛЬМ АСУДЖАЕ П'ЯНСТВА

**У Мінску праходзяць грамадскія прагляды дакументальнага фільма «Інтэрнат ты наш», у якім паказаны тыя трагічныя вынікі, да якіх прыводзіць алкагалізм. Аўтары стужкі рэжысёр Д. Міхлееў і пісьменнік В. Гігевіч вядуць прынцыповую, публіцыстычна завостраную гаворку аб неабходнасці зрабіць усё магчымае для таго, каб дзяцей не напаткаў лёс тых, хто вымушаны выхоўвацца ў Радашковіцкай школе-інтэрнаце.**

**Адна з сустрэч са стваральнікамі фільма адбылася ў кінатэатры «Кастрычнік». Цікавая гаворка вялася і ў Інстытуце павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры.**

**Г. ВАСЮК.**

## ПОШУКІ ЗНАХОДКІ

# Наш зямляк Кандрат Лейка

Паважаныя таварышы! Я кіраўнік школьнага літаратурнага музея пры Слонімскай СШ № 7. Узяўся за працу шчыра, заахвоціў вучняў сваіх. Назбіралі мы нямала матэрыялаў пра пісьменнікаў Слонімшчыны. Пашанцавала нам з матэрыяламі пра Кандрата Лейку.

Да гэтага часу нідзе не ўказвалася, з якога і да якога года жыў пісьменнік, не публікавалася яго фатаграфія. Усюды гаварылася, што няма звестак. Сёння яны ёсць. Знойдзеныя намі матэрыялы праляжалі звыш 60-ці гадоў. Хай мой ліст дапаможа людзям даведацца пра нашага земляка, бо ён гэтага заслужыў.

Нарадзіўся Кандрат Фёдаравіч Лейка 17 верасня 1860 года ў вёсцы Збочна Слонімскага павета ў беднай сялянскай сям'і. Змалку давялося працаваць, хадзіць босаму па халоднай расе за статкам. У выніку захварэў рэўматызмам, усё жыццё балелі ногі.

Вучыўся спачатку ў Азярыніцкім вучылішчы, быў старанным і працавітым. Таму настаўнік паклапаціўся, каб яго, лепшага вучня, накіравалі ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю вучыцца за казённы кошт.

Пасля заканчэння ў 1879 годзе семінарыі пяць гадоў настаўнічаў у Косаве. Тут пачаў пісаць вершы па-беларуску. Некаторыя рукапісы вершаў датуюцца 1883 годам. Зноў пачалі



балець ногі. Доктар прапанаваў змяніць клімат на больш цёплы і сухі. І Кандрат Лейка ў 1884 годзе пераязджае на Харкаўшчыну, дзе і пражыў большую частку свайго жыцця, працуючы настаўнікам народнага вучылішча, інспектарам Харкаўскага вучылішча сляпых дзяцей, а затым загадчыкам вучэбнага аддзела ў павятовым земстве.

Друкаваў свае творы ў газеце «Наша Ніва», пачынаючы з 1911 года.

Янка Купала ў 1914 годзе прапанаваў Кандрату Лейку выдаць зборнік твораў. Пісьменнік з радасцю прыняў прапанову і рыхтаваў да друку зборнік пад назвай «Засеўкі», уключыўшы ў яго дзевяць празаічных твораў і адзін верш. Але першая сусветная вайна не дазволіла здзейсніць гэту задуму.

Зноў пагоршылася здароўе. У лютым 1918 года Кандрат Лейка быў паралізаваны. Бездапаможнага пісьменніка яго пляменнікі перавезлі на Ровеншчыну да брата Івана. Тут і прайшлі апошнія гады жыцця Кандрата Лейкі.

Хворы пісьменнік вельмі пакутаваў ад болю, ад разлукі з сынам, аднак не пераставаў пісаць, падтрымліваў сувязі з выдавецтвамі, перапісваўся з патрэбнымі людзьмі. Пад канец свайго жыцця ён паслаў у Вільню ў Беларускае навуковае таварыства восем сшыткаў сваіх твораў.

Сшыткі да гэтага часу не знойдзены. Але знойдзены некаторыя неапублікаваныя яго творы. Гэта вершы, байкі, казкі, апавяданні на бытавыя, маральныя, сацыяльныя тэмы.

Памяць пра Кандрата Лейку, пісьменніка і педагога, захавалася ў народзе, аб чым і сведчаць успаміны жыхара вёскі Збочна Івана Рыгоравіча Журовіча і сваячкі пісьменніка Аляксандры Антонаўны Лейка.

**Мікалай СІДАРОВІЧ.**
г. Слонім.

**ВІНШУЕМ**

# Раману ТАРМОЛУ — 50

Сёння праўленне СП БССР віншуе з юбілеем паэта Рамана Тармолу:

**«Дарагі Раман Якаўлевіч!**

**Горача вітаем Вас, таленавітага беларускага паэта, у дзень Вашага 50-годдзя!**

**Скончыўшы гісторыка-філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага, Вы працавалі старшым рэдактарам, а потым загадчыкам літаратурна-мастацкага аддзела Беларускага тэлебачання. У 1977 годзе перайшлі на працу на кінастудыю «Беларусьфільм», дзе з'яўляліся членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі мастацкіх фільмаў. Загадвалі Вы галоўнай рэдакцыяй літаратурна-драматычных праграм, а зараз з'яўляецеся тэлекаментатарам Беларускага тэлебачання.**

**З вершамі выступілі Вы ў друку яшчэ ў студэнцкія гады. І першымі публікацыямі заявілі**



**пра сябе як пра таленавітага, арыгінальнага паэта. Вашы вершы вылучаліся свежасцю паэтычнага мыслення, своеасаблівасцю мастацка-вобразнага ўспрымання свету, пошукам формы.**

**Першы зборнік Вашай паэзіі «Асколкі і росы» выйшаў у 1964 годзе і быў прыхільна сустрэты крытыкай і чытачамі. Затым выйшлі наступныя кнігі: «Поўня», «Абнаўленне», «Міранка», «Побач», «Павага», «Вобразы вечара».**

**Лепшыя Вашы вершы і паэмы склалі кнігу «Зямное — зямному», якая была выдадзена выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 1979 годзе. Ведаюць Вас і нашы маленькія чытачы, якім Вы напісалі кніжку вершаваных казак «Каго баяцца ў лесе».**

**Ад усяго сэрца віншуючы Вас з юбілеем, жадаем Вам, дарагі Раман Якаўлевіч, моцнага здароўя, асабістага шчасця і вялікага паэтычнага плёну».**

Калектыў штотыднёвіка далучаецца да гэтых цёплых слоў.

# У ДОБРЫ ЧАС!

Тое было гадоў дзесяць назад у час літаратурнай сустрэчы Рамана Тармолы на адным з прадпрыемстваў Міністэрства лёгкай прамысловасці БССР у Гомелі. Помню, гаспадыні прадпрыемства пільна слухалі выступленне паэта, а збоку ад іх віселі як напаказ толькі што выробленыя шматлікія квяцістыя набіўныя хусцінкі, якія пахлі нават свежымі фарбамі. Гэта вельмі ўразіла Рамана Якаўлевіча. Узрушаны, ён пасля прызнаўся, што памяць тут жа перанесла яго ў далёкія гады дзяцінства, ва ўтульны шумлівы бацькоўскі дом, да мацярынскіх вытокаў — у мястэчка Мір Карэліцкага раёна.

Тут і ўвабраў ён сваёй чулай душой гукі і фарбы роднага краю. Нездарма ж, калі пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага стаў працаваць на Беларускім тэлебачанні, Раман Якаўлевіч доўгі час вёў перадачу «Сузор'е», у якой расказваў пра народных умельцаў: івянецкіх ганчароў, неглюбскіх ткачых, жлобінскіх інкрустатараў і многіх іншых таленавітых майстроў і майстрых. І ў сваю творчасць паэт перанёс іх цярплівасць і засяроджанасць, шчырасць пачуццяў, глыбіню чалавечых лёсаў, нястомнасць сэрца.

Яшчэ на пачатку творчага шляху Р. Тармолы вядомы савецкі рускі паэт М. Ісакоўскі адзначыў жывую народную аснову яго паэзіі, непадробнасць лірычнага голасу, грамадзянскую смеласць. Было гэта ў 1964 годзе, калі ў Маскву на IV Усесаюзную нараду маладых пісьменнікаў зляцеліся многія таленавітыя паэты і празаікі, сярод якіх быў і Р. Тармола.

Варта адзначыць, што ўжо ў 1967 годзе выйшаў трэці па ліку зборнік вершаў Р. Тармолы з сімвалічнай назвай — «Абнаўленне». Прыслухаемся ж да сказанага паэтам больш як дваццаць гадоў назад, але такога надзённага і цяпер. «Век дваццаты пракладвае новыя трасы Па зямлі і па небе — да зорак нямых, І бядуе наш век, што да гэтага часу Найцяжэйшая траса — да сэрцаў людскіх».

Прыхільна былі сустрэты чытачамі і наступныя паэтычныя кнігі Р. Тармолы для дарослых і дзяцей. Неўзабаве ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ўбачыць свет новы зборнік яго паэзіі «Толькі б дагаварыць...»

Знаёмства з новай кнігай — наперадзе. А сёння Раман Якаўлевіч пагадзіўся адказаць на некалькі нашых пытанняў. Я пацікавіўся, якога чалавека напярэдадні свайго пяцідзесяцігоддзя ён найчасцей прыгадвае, і пачуў у адказ наступнае.

— Я не буду арыгінальным у сваім адказе, але і не думаю, што калі-небудзь гэты адказ назавуць традыцыйным. Прыгадваю штодня родную маці. За яе прыклад чалавечнасці і матчынай любові не толькі да роднага сына.

— Якіх людзей вы найбольш цэніце?

— Мне па сэрцу больш за ўсё людзі сумленныя, самаахвярныя і самакрытычныя.

— Як вы адносіцеся да сацыяльных, эканамічных і творчых перамен у нашай краіне?

— Як і большасць людзей, прымаю іх усім сэрцам.

— Што б вы хацелі пажадаць самому сабе на будучыню?

— Відаць, тое, што часцей за ўсё жадаюць нам сябры.

— Здароўя?

— Вядома, здароўя. І калі не маладосці наогул, такое проста немагчыма, дык хаця б творчай маладосці.

— Вам, Раман Якаўлевіч, пяцьдзесят. Дык як тут не задаць пятага пытання. Па адным пытанні на дзесяць год...

— Сапраўды, так атрымліваецца...

— Ваша самая вялікая мара, нават мэта, на сённяшні дзень?

— Мір на зямлі. Гэтае жаданне, відаць, у нашых генах. Яно перадаецца людзям, як спадчына. Мне нават здаецца, што мястэчка з назвай Мір, дзе я нарадзіўся, не выпадкова з'явілася на шматпакутнай беларускай зямлі.

У добры ж час, новых поспехаў табе, Раман Якаўлевіч!

**Уладзімір ДЗЮБА.**

# Генадзю ШУПЕНЬКУ — 50

6 красавіка — 50 год пісьменніку Генадзю Шупеньку. У віншавальным адрасе Саюза пісьменнікаў БССР гаворыцца:

**«Дарагі Генадзь Серафімавіч!**

**Віншуем Вас, нашага таварыша па пяру, крытыка і літаратуразнаўцу, з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння.**

**Вы належыце да таго пакалення, якое ў дзяцінстве адчула на сабе ўсе нягоды і жахі, што прынесла вайна. Нягледзячы на тое, што Вы цяжка захварэлі, неадольнае жаданне вучыцца, працаваць перамагло. У 1965 годзе Вы скончылі Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Пасля вучыліся ў аспірантуры пры кафедры беларускай літаратуры гэтага універсітэта. Працавалі старшым навуковым супрацоўнікам навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». Цяпер**



**Вы загадваеце рэдакцыяй серыйных выданняў у гэтым выдавецтве.**

**У друку выступаеце з 1969 года. Вы праявілі сябе кваліфікаваным, патрабавальным і прынцыповым крытыкам. Галоўная сфера Вашай творчасці — сучасная беларуская проза, якую Вы даследуеце перш за ўсё з пункту гледжання праблем пісьменніцкага майстэрства. Мы ведаем і цэнім Вашы артыкулы пра творчасць Міхася Лынькова, Івана Мележа, Янкі Брыля, Яна Скрыгана, Алены Васілевіч, Паўла Місько, Алеся Жука, пра прозу маладых. На Вашым творчым рахунку кніга крытычных нарысаў, літаратурных партрэтаў і артыкулаў «Цеплыня чалавечнасці», а таксама пераклад аповесці венгерскага пісьменніка Ц. Дзеры «Мілы ба-пэр».**

**Жадаем Вам, дарагі Генадзь Серафімавіч, добрага здароўя, шчасця, новых творчых здзяйсненняў».**

«Літаратура і мастацтва» таксама віншуе юбіляра і жадае яму далейшых поспехаў.

# ЧАЛАВЕЧНА І ПРЫНЦЫПОВА

Чутка пра набліжэнне юбілею Генадзя Шупенькі заспела мяне знянацку. Неяк не верылася, што гэтаму па-юнацку непасрэднаму ў выяўленні сваіх пачуццяў чалавеку, які нібы назнарок паводзіць сябе не «салідна», не адпаведна свайму ўзросту і пасадзе (працуе загадчыкам серыйных перавыданняў у выдавецтве «Мастацкая літаратура»), неўзабаве стукне пяцьдзесят. З усімі — пачаткоўцамі і літаратурнымі маэстрамі, начальнікамі і падначаленымі — гаворыць адпаведна свайму характару, з аднолькавай доляй пачцівасці сыпле словамі, пaглядваючы на суразмоўцу часам скептычна, часам неяк па-петушынаму задзірыста, часам замаркочана, а найбольш весела. Можна толькі пазайздросціць і падзівіцца, што ён, дажыўшы да паважаных гадоў, здолеў захаваць у сабе маладую душэўную няўрымслівасць, уменне гневацца і радавацца, спачуваць і засмучацца...

Між тым на долю Генадзя выпалі нялёгкія жыццёвыя выпрабаванні, якія маглі калі не спустошыць, то вымаразіць і ягоную душу, зрабіць яе жорсткай, абыякавай да гора і радасці іншага чалавека. Серафім Шупенька — бацька Генадзя — не ўсцярогся ад бандыцкай кулі, якая напаткала яго на пасадзе старшыні калгаса ў 1954 годзе. На руках у маці засталося сямёра дзяцей, адзін з якіх — наш сённяшні юбіляр. У 1955 годзе Генадзь паступае ў БДУ імя У. І. Леніна, але канчае яго толькі праз дзесяць гадоў. Не таму, вядома, што здольнасцей бракавала — дзесяцігодку закончыў з залатым медалём, — а па прычынах ад уласнай волі і розуму незалежных...

Па-належнаму аддацца вучобе не здолеў і ў аспірантуры (1965—1969) — назаляла, адрывала, выбівала і з творчага настрою, і з жыццёвай раўнавагі хвароба.

...З удзячнасцю ўспамінаюцца шчырыя спагадныя людзі, якія ў той нялёгкі, нават трагічны для маладога чалавека час падалі руку дапамогі: Максім Танк, Іван Мележ, Юліян Пшыркоў, Алег Лойка, Вера Палтаран, Вячаслаў Рагойша, Янка Саламевіч.

Увага вядомых літаратараў не выпадковая: з 1969 года імя Генадзя Шупенькі з большай ці меншай рэгулярнасцю з'яўляецца на старонках рэспубліканскага, а зрэдзь часу і ўсесаюзнага друку.

Не буду пералічаць, што ім напісана і выдадзена за гэты час — да крытыкі варта было б далучыць і пераклады. Справа, зрэшты, не ў колькасці абнародаванага пісьменнікам, а ў якасці зробленага, у цэласнасці погляду на свет, у прынцыповасці літаратурнай пазіцыі, ва ўнутранай асветленасці створанага святлом праўды, чалавечнасці, прынцыповасці і эстэтычнай патрабавальнасці.

У якасці прыкладу назаву артыкул Г. Шупенькі ў трэцім нумары часопіса «Беларусь», у якім разглядаецца кніжка Янкі Брыля «Сёння і памяць».

Крытык тут здолеў настроіцца на хвалю душэўнай прасветленасці, мудрага спасціжэння сэнсу жыцця, уласцівых пісьменніку. Ёсць тут і паленіка — тактоўная, але і прынцыповая адначасова, — з тымі крытыкамі, якія, на думку Шупенькі, бачаць сённяшнюю творчасць Брыля не такой, якой яна з'яўляецца на самой справе. З харошым душэўным тактам і маральным далікацтвам сказаў крытык і пра тое, што яму ў кнізе не спадабалася, у чым ён бачыць як след не рэалізаваныя магчымасці пісьменніка. У гэтым, мяркую, нічога няма дрэннага, такі падыход, як на маё разуменне, павінен быць нормай літаратурнага жыцця, нормай паводзін крытыкі; чым вышэйшы талент, тым і большыя патрабаванні да яго.

Генадзь Шупенька — крытык са сваім адметным голасам, са сваёй ідэйна і эстэтычна выверанай пазіцыяй у літаратуры.

**Яўген ЛЕЦКА.**

# БЕЛАРУСКАЯ ПАЭЗІЯ НА МОВЕ СЯБРОЎ

**Упершыню ў Дэлі на хіндзі выйшаў зборнік твораў вядомых сучасных беларускіх паэтаў: М. Танка, П. Панчанкі, Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, С. Гаўрусёва, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, Я. Сіпакова, Г. Бураўкіна, А. Грачанікава, Д. Бічэль-Загнетавай. Аўтар прадмовы — У. Няфёдаў. Пераклаў вершы індыйскі паэт, які атрымаў прызнанне як актыўны прапагандыст савецкай літаратуры, лаўрэат прэміі Фонду імя Дж. Нэру, крытык Вар'ям Сінгх.**

**Кніга прыгожа выдадзена. Яе аб'ём 152 старонкі. Аўтарскія падборкі вершаў размешчаны перакладчыкам па прынятым у Індыі ўзроставым прынцыпе. Анталогія — вынік дынамічнага савецка-індыйскага культурнага супрацоўніцтва.**

**В. Сінгх — прафесар Цэнтра рускіх даследаванняў універсітэта імя Дж. Нэру ў Дэлі. У 1984 г. гэты вядучы**




**універсітэт Індыі быў узнагароджаны высокааўтарытэтнай прэміяй Фонду імя Дж. Нэру за стварэнне буйнейшага ў краіне Цэнтра рускіх даследаванняў, дзе выкладаюцца руская мова і літаратура, гісторыя СССР, рыхтуюцца навуковыя кадры. Прэмія ўручаецца за ўклад у развіццё і ўмацаванне савецка-індыйскай дружбы.**

**В. Сінгх — характэрны прадстаўнік атрада індыйскіх русістаў, якія зведалі дабратворны ўплыў савецкай вышэйшай школы. Ён паспяхова чытае курсы гісторыі рускай літаратуры пачатку XX стагоддзя і савецкай літаратуры. Індыйскі русіст актыўна спасцігае інтэрнацыянальную сутнасць савецкай паэзіі. Ён плённа працуе над анталагічнай серыяй «Паэты Савецкага Саюза». У адну з кніг серыі ўвайшлі пераклады з Б. Ахмадулінай, В. Белшавіцы, П. Боцу, А. Вергеліса, А. Вазнясенскага, А. Дзяменцьева, М. Траата. В. Сінгху належаць першыя на хіндзі кнігі перакладаў К. Хетагурава, А. Блока, адзначаныя ўвагай прадстаўнікоў прагрэсіўнай індыйскай культурнай грамадскасці. Том дакастрычніцкіх твораў У. Маякоўскага ў перакладзе В. Сінгха атрымаў станоўчую ацэнку выдатнага савецкага індолага, члена-карэспандэнта АН СССР Е. Чэлышава. Апошняя работа В. Сінгха, якая была цёпла сустрэта савецкай навуковай грамадскасцю, — пераклад «Слова пра паход Ігаравы».**

**В. Сінгх у дарозе, перад ім адкрываюцца новыя далягляды літаратурнай работы, якая служыць справе савецка-індыйскай дружбы.**

**В. ВАСІЛЬЕЎ.**

## ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

**У рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў адбыўся творчы вечар лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Валерыя Раеўскага.**

**Пра дзейнасць галоўнага рэжысёра Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы гаварылі пісьменнікі А. Дудараў, Г. Колас і І. Чыгрынаў, кампазітар С. Картэс і акцёр-купалавец Я. Крыжаноўскі.**

**Былі паказаны ўрыўкі са спектакляў «Трыбунал» і «Радавыя», пастаноўку якіх на першай беларускай сцэне ажыццявіў В. Раеўскі.**

**П. КАШТАНАЎ.**

**Юрась СВІРКА**



## Зямля чакае першага штуршка...

Зямля чакае першага штуршка,
Ды не таго, каб знікла ўсё жывое,
А веснята, каб звонам ручайка
Азвалася дыханне трапяткое
Дзіцяці, васілька і жаўрука.

І каласка — асновы ўсіх асноў:
Без хлеба нельга жыць,
Як і без міру.
І без дзіцячых мілых галасоў
Зямля,
Як тлен і як маўчанне жвіру.

Штуршок вясны! Як непадобны ён
На той, якому нашы ўсе праклёны,
Бо ён жыццё пускае пад адхон,
Праходзіць смерчам па зямлі зялёнай.

Зямля наліта сокам веснавым,
Карэнне грэе
дабратою маці.
Жаданне жыць
у тым штуршку зямным
Ад каласка, травінкі — да дзіцяці!

## Суседзі

Тады, гадоў з дзесяць назад,
Калі дакапалі калодзеж,
Стаяў ён з суседам Валодзем,
Дзе пеніўся квеценню сад.

Начыннае сабрана ў грудок —
Лапата, вяроўка, вядзерца...
І так, як спрадвеку вядзецца,
З палёгкай пусцілі дымок.

Вясна бушавала ў садах,
Бялеліся яблыні, слівы...
Курылі ля студні маўкліва,
Пакуль не набегла вада.

Дасталі вядзерца вады,
Хвалілі: «Якая вадзіца!
Паціць — як на свет нарадзіцца,
Адчуеш, што зноў малады».

Лагодзіла квецень вясны.
Глядзелі ў калодзеж глыбокі.
Адтуль пазіралі, здалёку,
Нібыта са здымку, яны.

Не стала суседа — памёр.
Зусім апусцела сяліба.
Усохла спрадвечная ліпа.
Зарос падарожнікам двор.

Рыпіць журавель праз гады,
Не муціць калодзежа вока.
Не чутна Валодзевых крокаў,
Ніколі не прыйдзе сюды...

Сінее вясной далягляд.
Стары ўспамінае былое.
Рыпіць каля хаты калодзеж
І пеніцца квеценню сад.

●

Чаму ім выпаў лёс такі?
Пакуль што ім не ўсё вядома.
Хоць ведаюць, што ёсць бацькі,
Ды бачаць іх не часта дома.

Сіроты, пры бацьках жывых,
Нібы бяды не адчуваюць.
Усё знаходзіцца для іх.
Бяскрыўдна ў садзіках гуляюць.

Але не пазайздросціш ім:
Жыццё не пачалося з казкі.
Як не хапае ім, малым,
Бацькоўскіх рук, бацькоўскай ласкі.

І як пакрыўджана глядзяць,
Калі малыя крыкнуць: «Тата!»
І пабягуць, каб сустракаць,
Развёўшы крылы-ручаняты.

Пазней іх маці забяруць,
Дадуць гасцінцаў, альбо цацку
І так размову павядуць,
Каб не спыталіся пра бацьку.

## Калісьці думаў я...

Калісьці думаў я, што сад жывы,
Няхай што гаварыць ён і не ўмее,
Але не гне ніколі галавы
І верыць у спагаду дабрадзея.

Калі маланка любіць сад сляпіць,
Калі малым ад грому страшнавата,
Спрабую ў хаце дзверы адчыніць
І як свайго пазваць: «Заходзь у хату!»

Пасля дажджу заходзіў я у сад
І па сцяжынцы перамытай крочыў
І адчуваў, нібы жывы пагляд
Ад яблыкаў — як здзіўленыя вочы!

Ад буры ён нікуды не ўцякаў
І атрасаў завялыя ападкі.
Яго здаўна, нібы халасцяка,
Абкладвалі зняважлівым падаткам.

Сцярпеў ён глум не ласкавых гадоў.
Падсечаны, зрастаўся з агародам.
І завязь ўбярог ад халадоў —
Наследніцу сваіх пладоў і роду.

## У пуні перад касавіцай

Засталося мурагу нямнога.
Ціша залагодзіла душу.
Стомлены нялёгкаю дарогай,
Я на сене леташнім ляжу.

Салавей мяне да рэчкі кліча,
Ехаў я сюды не для забаў.
А травінка мне шчаку казыча:
Будзіць, каб расу я не праспаў.

Зоркі пазіраюць праз драніцы.
І не далятаюць да зямлі.
Спаць ды спаць і лепшым снам
прысніцца.
Мусіць, сны найлепшыя прайшлі.

Зорыцца сяйво дарогі Млечнай,
Адышло гадоў, не злічыш — рацы.
Чуйна спіцца на зямлі спрадвечнай,
Дзе бацькі ўжо непрабудна спяць.

## Лясное возера летняй ноччу

Адбіліся зоркі ў вадзе, і відно,
Як іх размяшчае затока.
Здаецца, іх хтосьці насыпаў на дно,
Іскрацца ў глыбінях далёкіх.

А возера цёплае. Можна купаць
Дзяцей, і не будзе дакору.
Днём сонца нагрэла азёрную гладзь,
А ноччу, спадыспаду — зоры.

Чароўнае возера вабіць сюды,
Так хочацца ім падзівіцца.
Нячутна і лес падышоў да вады,
Не можа назад адступіцца.

І зорнае неба застыла на дне,
І цягнуцца сосны да ўзгорка.
Адна з іх, смялейшая, верыцца мне,—
Кранула вяршалінай зорку.

●

А на рацэ пакуль што цішыня.
След ад лыжні, як ад драцянкі-пугі.
А як напор руччоў вясной суняць?
І лёд ажно сінее ад натугі.

Сігнал падасць на золку крыгаход.
Суцішыцца прастора над ракою.
І зоркі, што зімой умёрзлі ў лёд,
Спадыспаду ўзарвуць яго вясною.

●

Ён уславіў у песні вясну, і шпакоўню,
І бярозу, што першы прытулак дала,
І пра тую дарогу, напэўна, успомніў,
Што здалёку пад гэтае сонца вяла.

Падвышаецца неба, святлеюць аблокі,
І ўжо холад не зможа ўтрымацца ніяк,
Хоць яшчэ у канавах з паўночнага боку
Снег залежыўся — цвёрды зярністы
крупчак.

Яшчэ ўранку марозік спрабуе шчыпацца.
І разоры зацягнуты тонкім лядком,
Ды ў галінцы бярозы (намацваюць
пальцы) —
Сок рытмічна пульсуе — штуршок
за штуршком.

І не грэюць яшчэ ні зямля, ні прамені,
І адкуль цеплыня тая ранняй вясной.
Шпак як быццам застыў на рагатай
антэне
У чаканні пяпраўкі да песні сваёй.

●

Тры дні на лузе косім. Тры браты.
І вечар сустракаем тут і росы.
Абкошаны лажбінкі і кусты.
Сушыла сонца тоўстыя пакосы.

Павысмяглі Бярозы берагі.
Стамлёныя вярталіся дахаты...
Пасунулася нанач за стагі
І сонца — як чацвёрты памагаты.

## Дзед Тумаш

Спытаў у дзеда Тумаша:
— Адкуль ідзеш ты?
— З кірмаша.

— А што купіў на кірмашы?
— Пра гэта, сынку, не кажы.

— А ўсё ж ткі, што купіў, дзядок?
— Свае гады ды вось... кіёк.

— А зараз ты ідзеш куды?
— Туды іду, сынок, туды... —
І паказаў кійком пагост. —
Тут блізка, як ідзеш наўпрост.

Пара і мне ісці дамоў.
Там Наста спіць паміж крыжоў.
І мушу я табе сказаць,
Адной нявесела ляжаць.

Былі, былі ў мяне сыны,
Ды не вярнуліся з вайны...
А ты, не помню, чый сынок,
Тутэйшы будзеш, ці здалёк?

— Тутэйшы, з вашых Галяшоў...

Пайшоў-пашкрэбаў па пяску
І штосьці гаварыў кійку.

●

Я паверыў лясному шпіталю,
Бо з жывою прыродай дружу.
Каб мурашкі смялей налягалі,
Ля мурашніка ціха ляжу.

Рэзка пахне даспелай крушынай.
Дзяцел лечыць старую сасну.
Я люблю гэты тлум мурашыны
І лясную люблю цішыню.

Мурашынае войска не страшыць.
Жыць хачу я высновай такой,
Каб не поўзаць на ўзроўні мурашак,
Не згінацца, як дрэвы, дугой.

# СЦВЯРДЖЭННЕ НОВАГА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).

сілы. Наогул, задача з задач— сацыяльнае, кажучы па-руску, «обустройство» вёскі, стварэнне інфраструктуры, у якую ўваходзяць, акрамя ўсяго іншага, і дамы культуры, і дарогі, і лазні...

**— Відаць, і заробак не на апошнім месцы...**

— І добры заробак таксама мае не малую прыцягальную сілу.

**— Вось тут хочацца пагаварыць пра гаспадарчы разлік у сельскагаспадарчай вытворчасці, пра сямейны падрад. Гэтае пытанне таксама знайшло адлюстраванне ў дакументах з'езда. Між тым, далёка не ўсюды гаспадарчы разлік прабіў сабе дарогу.**

— У дакладзе М. С. Гарбачова пра гэта сказана так: «Сапраўдны гаспадарчы разлік, залежнасць даходаў прадпрыемстваў ад канчатковых вынікаў павінны стаць нормай для ўсіх звенняў аграпрамысловага комплексу, і перш за ўсё калгасаў і саўгасаў». Так што задача ясная. Перш за ўсё, на маю думку, неабходна пазбавіцца ад фармалізму ў гэтай справе. А то, бывае, калгас ці саўгас рапартуе аб укараненні гаспадарчага разліку, а прыедзеш у гаспадарку, аказваецца, што той падрад — суцэльная фікцыя. Галоўнае, каб самі людзі былі зацікаўлены ў гаспадарчым разліку, каб чалавек цвёрда ведаў — як папрацуе, так і атрымае: у звяне, брыгадзе, ды і ў цэлым па гаспадарцы.

**— А сямейны падрад?**

— Я думаю, што гэта таксама прагрэсіўная форма арганізацыі працы. У калгасе «Радзіма» Астравецкага раёна муж з жонкай Глаўдзель даглядаюць 500 галоў буйной рагатай жывёлы і зарабляюць у месяц па 500 рублёў. І на здароўе, як кажуць.

Сямейны і індывідуальны падрады шырока ўжываюцца, напрыклад, у калгасах «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна, імя Сільніцкага Полацкага раёна, «Перамога» Баранавіцкага раёна і г. д.

**— Апошнія гады шмат увагі надаецца і развіццю падсобнай гаспадаркі вяскоўцаў. Гэта зразумела. Людзі з гэтых гаспадарак кормяцца самі, кормяць і немалую колькасць насельніцтва бульбай, гароднінай, мясам і малаком.**

— Вядома ж, дзяржава зацікаўлена, каб у асабістым карыстанні калгасніка ці рабочага саўгаса былі і кароўка, і цялё, і свінні. У «Асноўных напрамках...» прадугледжана дапамога асабістым падсобным гаспадаркам грамадзян шляхам выдзялення сенакосаў і пашы, продажу кармоў, насення, угнаенняў, маладняку жывёлы і птушкі.

Але, разам з тым, мне здаецца, нам трэба думаць і пра тое, каб паступова, вядома, са згоды хлебаробаў, ператвараць падсобныя гаспадаркі ў своеасаблівыя цэхі грамадскай вытворчасці. Такія цэхі вельмі распаўсюджаны, напрыклад, у Венгрыі. Як правіла, памер прысядзібнага ўчастка ў нас складае 0,4—0,5 гектара. Чаму б гаспадару не ўзяць у калгасе падрад на вырошчванне на частцы свайго ўчастка, скажам, караняплодаў або якой іншай культуры? Гэта ж і быў бы той самы сямейны падрад.

**— А як вы, Ягор Фёдаравіч, ставіцеся наогул да падсобных промыслаў у калгасах?**

— Наогул, станоўча. Зімой, калі ў вёсцы пануе пэўнае зацішша і паляводы не вельмі занятыя, падсобныя промыслы акурат да месца. Напрыклад, у калгасе «Чырвоны Кастрычнік» Стаўбцоўскага раёна шыюць сукенкі для лялек. Есць калгасы, дзе робяць мэблю, ткуць посцілкі, вырабляюць рэчы з пластмасы і поліэтылену.

Але, вядома, было б лепш, каб гэты падсобны промысел меў прамое дачыненне да сельскагаспадарчай вытворчасці. Вы, мабыць, ведаеце, што ў многіх гаспадарках рэспублікі ёсць свае невялікія кансервавыя заводы. Гэта выдатная справа, і яе мы будзем развіваць.

**— Але ж, відаць, многае тут залежыць і ад кіраўніка гаспадаркі?..**

— Сапраўды, не выпадкова ў Беларусі і старшыню калгаса часта называюць галавой. Якая галава, такая і... Адным словам, здаецца, зразумела. Я вось нядаўна пабыў на сходзе ў калгасе «Расія» Дзяржынскага раёна, дзе старшынюе Цімафей Канстанцінавіч Шэкін. Дальбог, парадаваўся за калгасніка, што яны маюць такога старшыню. Я маю на ўвазе павагу, з якой хлебаробы да яго ставяцца. Ідуць да старшыні прасіць парады, дапамогі, усіх ён уважліва выслухае, для кожнага знойдзе важкае слова. Гэта яшчэ адна грань увагі да чалавечага фактару, пра які мы гаварылі.

**— Кожны год дзесяткі тысяч гараджан амаль усіх прафесій мабілізоўваюцца на палявыя работы. Эфектыўнасць гэтай дапамогі, на жаль, нізкая. Па-першае, таму, што ў многіх гаспадарках вельмі дрэнна арганізавана праца шэфаў. Бывае, яны сядзяць паўдня без усякай справы, па-другое, шэфы аніяк не зацікаўлены ні маральна, ні матэрыяльна працаваць якасна. Ці чакаюцца ва ўсім гэтым нейкія зрухі?**

— Думаю, што будуць. Ды і зараз я ведаю шмат гаспадарак, дзе праца шэфаў арганізавана як след. А іх матэрыяльную зацікаўленасць сапраўды трэба падняць, выкарыстоўваючы той жа падрад.

Мне падабаецца, як арганізавана шэфская дапамога мінскімі гарадскімі раёнамі. Кожны год працоўныя тут едуць у свае гаспадаркі, і дапамога іх вельмі эфектыўная, ды і зарабляюць шэфы ў вёсцы нямала.

**— І апошняе да вас пытанне, Ягор Фёдаравіч. Якія рубяжы трэба будзе адолець сельскай гаспадарцы рэспублікі ў дванаццатай пяцігодцы?**

— Рубяжы гэтыя вызначаны ў «Асноўных напрамках...» Нагадаю іх: да 1990 года павялічыць сярэднегадавы аб'ём валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі на 12—14 працэнтаў. Вытворчасць збожжа давесці да 8—8,2 мільёна тон, бульбы не менш як 13 мільёнаў тон, мяса ва ўбойнай вазе — 1,2—1,3 мільёна, малака — да 7,1—7,3 мільёна тон, яек — да 3,4 3,5 мільярда штук.

Як бачыце, лічбы сур'ёзныя, тым больш, калі ўлічыць, што ў адзінаццатай пяцігодцы вытворчасць збожжа склала толькі 89 працэнтаў ад запланаванага, бульбы і мяса — 92, малака — 95 працэнтаў. Пяцігадовы план продажу дзяржаве бульбы недавыкананы на 69 тысяч тон, мяса — на 390 тысяч, малака — на 64 тысячы тон.

Трэба не толькі пераадолець адставанне, але і зрабіць рэзкі скачок наперад. Ці рэальна гэта? Так, рэальна. У нас ёсць сотні гаспадарак, дзе атрымліваюць па 30 цэнтнераў збожжа і 200—250 бульбы, надойваюць ад каровы па 3,5—4 тысячы кілаграмаў малака — гэта значыць, яны ўжо выйшлі на рубяжы, якія стаяць перад рэспублікай у 1990 годзе. Задача аграпрамысловага комплексу рэспублікі — замацаваць пазітыўныя тэндэнцыі і, абапіраючыся на дасягнутае, забяспечыць высокія тэмпы прыросту прадукцыі. Патрабуецца актыўная, энергічная, напружаная праца ўсіх нашых звенняў. Мы гэтую адказнасць добра ўсведамляем.

**— Дзякуй, Ягор Фёдаравіч, за цікавую, змястоўную гутарку.**

**Гутарку вёў М. ЗАМСКІ.**

**ГЭТА-ЦІКАВА**

# ЯК ПЕРАПЛЫСЦІ... ДНЕПР?

**Такое нечаканае, нават, на першы погляд, недарэчнае пытанне задаў мне чытач пасля адной з літаратурных сустрэч.**

### Год 1985. Верасень

Прызнаюся шчыра, гэтае пытанне захапіла мяне знянацку. Каму як ні жыхару старажытнага Рагачова, што стаіць на беразе ракі, якую ў далёкім мінулым услаўлялі яшчэ нашы продкі, а сёння ў вершах і песнях услаўляюць іхнія нашчадкі, не навучыцца плаваць? Таму, мабыць, і паглядзеў на незнаёмца падазрона: пэўна, няўдала пажартаваў чалавек ці проста хацеў някрыўдна накпіць, бо на сустрэчы той я расказваў пра свае марскія вандраванні ў розныя порты і акіяны, хоць і заўважыў, што хачу напісаць што-небудзь і пра футбалістаў, пра іхняе таксама вандроўнае жыццё. Вось тады, пасля гэтых слоў, і спыніў мяне на калідоры невысокі светлавалосы мужчына.

Аказалася, Васіль Андрэевіч Жынаў — я спецыяльна занатаваў у блакнот ягонае прозвішча — не жартаваў, калі задаваў сваё пытанне. Высветлілася, што ён захапляецца не толькі літаратурай, але яшчэ і многа гадоў запар застаецца шчырым і верным прыхільнікам мінскіх дынамаўцаў. І калі гаварыў пра Днепр, дык меў на ўвазе зусім не раку, а футбольную каманду вышэйшай лігі з аднайменнай назвай, якую мінчане не могуць «пераплысці» ўжо колькі сезонаў.

Чытаў ён і мае артыкулы пра гульню дынамаўцаў, заўважыўшы аднак, што «вера ў каманду — гэта, вядома, добра, але ж і крытыка хлопцам не пашкодзіць». Давялося сказаць Васілю Андрэевічу, што хоць прагноз у спорце рэч і не вельмі ўдзячная, але я па натуры аптыміст, бо і цяпер веру, што на канцы сезона дынамаўцы будуць з узнагародамі, а раней, пажартаваў, не знайшлі надзейнага плыта, каб пераправіць на другі бераг адразу ўсю каманду...

Надышоў канец лістапада з ягонымі моцнымі маразамі і, як павялося ўжо, рэжысёры ўсесаюзнага чэмпіяната «запхнулі» скураны мяч пад высокія дахі спартыўных залаў, дзе цёпла і прыемна гледачам, але няўтульна футбалістам. (Неяк дынамаўцы прызнаваліся, што ў зале цяжка зразумець, ці то на трэніроўку выйшлі, ці то на гульню).

Глядзеў па тэлевізары апошнюю сустрэчу нашых землякоў, якія даволі ўпэўнена прайгралі ленінградскаму «Зеніту», і бачыў на полі неблагіх салістаў, але не бачыў ансамбля. А пасля фінальнага свістка зноў, як і раней, перад дынамаўцамі разліўся шырокі «Днепр», а там, на другім беразе, стаяў п'едэстал гонару... Чамусьці ўспомніў прыхільніка дынамаўцаў з Рагачова і падумаў, што ў маім жартаўлівым экспромце наконт плыта была і доля праўды.

**У рэшце рэшт, за што мы любім футбол, што жадаем убачыць у ім, знайсці, чаму хвалюемся і перажываем, калі на цэнтр поля выносяць чорна-белы мяч? На гэтае пытанне, мне здаецца, вельмі трапна адказаў балельшчык з вялікім стажам, народны артыст РСФСР Аляксандр Калягін: «Футбол — гэта цэлы свет, дзе прэзідэнты і каралі, касманаўты і артысты, рабочыя і служачыя, усе на дзевяноста мінут роўныя перад гульнёй. Ён, нібы пароль, як эсперанта, змятае бар'еры недаверу, чапурыстасці, адкрывае душы людзей і дзверы дамоў. А, значыцца, гэта — частка нашага жыцця».**

**Так, сапраўды гэта частка жыцця вельмі многіх людзей. Футбол дорыць людзям мноства вострых, нават стрэсавых адчуванняў: ад надзеі і расчаравання да пякуча-салодкай радасці, калі кожны чалавек, нават незнаёмы, выклікае ў душы замілаванасць, на нейкі час быццам становіцца тваім сваяком, бо радасць перамогі і горыч няўдачы на ўсіх адна.**

**Ёсць і яшчэ акалічнасць, якая вабіць да сябе ў гэтай іскрамётнай гульні: магчымасць разам з маладымі хлопцамі, што вядуць гарачую спрэчку на зялёным дыване стадыёна, вярнуцца ў юнацтва, у той ужо няблізкі свет, які з гадамі хаваецца ад кожнага з нас за жыццёвымі клопатамі і імжой узросту. Вось чаму, калі пасля паражэння мінчан, мой сусед па трыбуне ў роспачы хапаецца за галаву і шчыра гаворыць, што больш ніколі ягонай нагі не будзе на стадыёне, я яму не веру. Проста не магу паверыць, бо ведаю, разумею, што жыве ў ім, б'ецца надзея, як не згасла ў сэрцы і маладосць.**

А схапіцца за галаву ў мінулым сезоне падстаў хапала. Калі да п'едэстала гонару, да сярэбраных ці бронзавых медалёў заставалася зрабіць толькі некалькі крокаў, нашы землякі-дынамаўцы пайшлі раптам на «ўсесаюзны рэкорд». Нуль ачкоў у апошніх трох турах і дзевяць галоў у свае вароты. Такой катастрофы, здаецца, беларускі футбол не перажываў нават у самыя цяжкія гадзіны. А тут такі град мячоў у вароты каманды з трывалай не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі рэпутацыяй. Каманды, для якой у час турнэ па ЗША мясцовы імпрэсарыо прыдумаў яркую рэкламу: «Дынама» (Мінск) — «Дынама» (Масква) — 7:0!..»

Даруем амерыканцам іхнюю залішнюю схільнасць да сенсацый, да яркіх прыгожых этыкетак, але ж такую бліскучую перамогу дынамаўцы Мінска некалі сапраўды запісалі на свой рахунак. Было гэта таксама ў лістападзе, але восемдзесят другога года, калі наша каманда ўпершыню за сваю гісторыю стала чэмпіёнам краіны. Для гэтага, як і ў мінулым сезоне, трэба было зрабіць усяго некалькі крокаў: выйграць у маскоўскіх аднаклубнікаў і ў яшчэ больш грозных спартакаўцаў. Перамагчы ў гасцях, пераадольваючы гарачую падтрымку балельшчыкаў, для якіх свая каманда ніколі не стане чужой. І дынамаўцы паехалі на «апошні бой», і выйгралі, і забілі ў вароты сапернікаў за дзве гульні адзінаццаць галоў. Такой выніковасці я нешта таксама не прыгадаю. Сваімі адмысловымі дзеяннямі на полі, наступальнай віртуознай гульнёй яны паставілі пераможны, па-сапраўднаму чэмпіёнскі клічнік, які ўжо ніхто не мог перарабіць на пытальнік.

Я наўмысна ўспомніў той чэмпіёнскі сезон, бо многія балельшчыкі — свядома ці не — чамусьці з яго пачынаюць адлік часу ў жыцці каманды. Але давайце вернемся на хвалі памяці гэтак гадоў на дзесяць назад. Што было тады, якую мы бачылі каманду? Калі браць па сённяшніх мерках, дык вялікага футбола не было, як і творчага калектыву. Існавала каманда, пра якую некалі заслужаны майстар спорту Канстанцін Іванавіч Бескаў, чалавек з добрым пачуццём гумару сказаў: «Дынамаўцы? На мой погляд, соты плыт у вялікім футбольным караване...»

Сказана хоць трохі і крыўдна, але ж справядліва. Чыімі толькі нагамі кіраўнікі беларускага футбола не імкнуліся ўдала прабегчы дыстанцыю чэмпіяната? Далібог, не толькі на руках, але і разам з нагамі, пальцаў не хопіць. Ды і трэнеры спыняліся ў камандзе, нібы транзітныя пасажыры. А сярод іх былі і вельмі заслужаныя, адзначаныя многімі ганаровымі званнямі і спартыўнымі рэгаліямі. Прыехалі і паехалі: хто сам зразумеў, што не зможа з'яднаць у адзін калектыў «лебедзя, рака і шчупака», а каго давялося і папрасіць. Вось тады за «дырыжорскі пульт» устаў Эдуард Васільевіч Малафееў, чалавек, ад якога разыходзіліся, хоць і нервовыя, але такія, што даходзілі да самага сэрца, біятокі. Больш за дзесяць гадоў ён абараняў спартыўны гонар нашай рэспублікі, не шкадаваў на полі ні сябе, ні іншых, і, мабыць, сам не заўважыў, як прарос каранямі ў беларускую зямлю. Вось чаму, калі яму, аднаму з самых маладых трэнераў краіны, даверылі ўзначаліць мінскае «Дынама», каманду, якой ён аддаў лепшыя гады ў футболе, Малафееў успрыняў гэта назначэнне не як першую прыступку ў сваёй трэнерскай кар'еры, а як экзамен на чалавечую сталасць. «Прыспеў час,— як ён любіў паўтараць, — вяртаць пазыку былых апладысментаў...».

Менавіта ў той трывожна-шчаслівы час і была зроблена стаўка на мясцовых хлопцаў. Незалежна ад таго, за якую каманду выступаў спартсмен— за калектыў фізкультуры ці другой лігі — кожнаму была дадзена магчымасць паказаць, на што ён здатны, былі шырока адчынены дзверы ў галоўную каманду рэспублікі. Што з гэтага эксперыменту атрымалася, балельшчыкі добра помняць.

Аказалася, што беларуская зямля не такая і бедная на футбольныя таленты, а калі за ёй яшчэ і добра, па-гаспадарску даглядаць, дык «урадлівасць» яе можна значна павялічыць. Спачатку гнуткімі каласкамі, а потым наліліся, увайшлі ў сілу Сяргей Алейнікаў, Георгій Кандрацьеў, Сяргей Гоцманаў...

Але вось даручылі Малафееву ўзначаліць зборную каманду краіны, гульня якой на той час выглядала калі і не архаічнай, дык відавочна бяззубай і бесхарактарнай. Ведаю, як нялёгка прымаў рашэнне Малафееў, бо сам прызнаваўся, што многага яшчэ не паспеў зрабіць, што мінскае «Дынама», якое ён хацеў бачыць, існавала яшчэ толькі ў марах. А часу, каб з мары зрабіць яву, не было. Супакойвала толькі адно: застаецца каманда, у якой наперадзе вялікія перспектывы.

Я далёкі ад думкі, што новае кіраўніцтва менш сумленна адносіцца да сваёй справы. Ды і ведаючы Веніяміна Арзамасцава, старшага трэнера мінчан, чалавека глыбока інтэлігентнага, чулага да болю і радасці другіх, грэшна такое сцвярджаць. Усе беды, якія падпільноўвалі нашу каманду ў апошнія два гады (хоць ці можна назваць бядой мінулагодняе чацвёртае месца, якое дае права выступаць у розыгрышу Кубка УЕФА), знаходзяцца ў прамой сувязі з псіхалагічным станам дынамаўцаў. Гульня мінчан нібы ілюструе вядомую аксіёму: згубіць заўсёды лягчэй, чым знайсці. Так, і гэта бачна адразу, каманда стала больш упэўненай у

**З ПОШТЫ «ЛіМА»**

# ТРЫ ГАДЫ АБЯЦАННЯЎ

У канцы 1985 года я пабываў каля рэштак касцёла ў вёсцы Плябань пад Маладзечнам. Гэты помнік архітэктуры знаходзіцца пад дзяржаўнай аховай. Трэба сказаць, што даведацца пра гэта можна толькі ў спецыяльных органах аховы помнікаў гісторыі і культуры: на самім будынку ніякай дошкі з адпаведным запісам я не бачыў. Кампетэнтныя людзі казалі мне, што ахоўная дошка была, ды збілі яе хуліганы.

12 лістапада 1982 года ў «ЛіМе» быў змешчаны матэрыял пад назвай «Альпіністы штурмуюць помнік». (У ім ішла гаворка пра гэты самы помнік архітэктуры і гісторыі XIX стагоддзя). Сёння ў поўнай меры да касцёла стасуецца такая назва — як і раней. І праз тры гады будынак працягвае выконваць ролю «скальнага стадыёна». У гаворцы са спартсменамі высветлілася: сярод іх ёсць і тыя, каго тры гады назад «ганялі салідныя дзядзькі». Спартсменаў абвінавачвалі ў варварскім стаўленні да будынка, якому наканавана стаць музеем. Для такога функцыянальнага выкарыстання былога касцёла ёсць, дарэчы, усе падставы. У лісце А. Чысцякова, дасланым у штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», пісалася: «...а ў час паўстання 1863 г. у яго скляпах паўстанцы зрабілі склад зброі. Побач на могільніку пахаваны ўдзельнікі паўстання, якія загінулі ў няроўным баі з карнымі войскамі каля маёнтка Свечкі». Трэба сказаць, што ў гэтым касцёле, па тагачаснай традыцыі, іх тайна адпявалі. У магіле на старых плябанскіх могілках спачылі выдатныя людзі. Юльян Бакшанскі пачаў рэвалюцыйную дзейнасць яшчэ на пачатку 40-ых гг., калі вучыўся ў Віленскай гімназіі. Пасля вяртання з Разанскай губерні, куды быў сасланы царскім урадам, у 1847 годзе зрабіў спробу падняць паўстанне смаргонскіх сялян, за што быў асуджаны на 12 гадоў катаргі. У 1863 годзе арганізаваў і ўзначаліў атрад паўстанцаў і ў сутычцы з урадавымі войскамі загінуў. Пра другіх можна казаць, відаць, не менш. А колькі імёнаў яшчэ невядома! Дык чаму б не стварыць тут музей, які ўмоўна можна назваць музеем рэвалюцыйнага руху на Беларусі? Тым больш, што Карл Маркс ахарактарызаваў паўстанне, якое пачалося ў студзені 1863 года, як «шырокае адкрыццё» эры рэвалюцый у Еўропе.

Тры гады назад якраз і ішла гаворка аб пераўтварэнні былога касцёла пад музей, які мог бы стаць філіялам Мінскага абласнога краязнаўчага музея. Тады ж Мінскі аблвыканком паведаміў, што ва ўпраўленні культуры «распрацоўваецца перспектыўны план рамонту, рэстаўрацыі і выкарыстання помнікаў архітэктуры на 1981—1985 гг., дзе будуць улічаны ўсе нявыкарыстаныя помнікі архітэктуры вобласці, **у тым ліку касцёл вёскі Плябань».** За тры гады стан помніка, зразумела, сам па сабе не палепшыўся. І мелі рацыю «альпіністы», калі абураліся адносінамі да сваёй справы тых, каму «па штату» належыць займацца пытаннямі аховы і рэстаўрацыі пабудоў, падобных касцёлу ў Плябані: ніякіх станоўчых зрухаў з моманту падзей трохгадовай даўнасці; нават не з'явілася ахоўная дошка, якая б сведчыла, што будынак некаму патрэбны. Станоўчае вырашэнне пытання з плябанскім касцёлам дазволіла б стварыць яшчэ адзін культурны цэнтр, як гэта сталася з Купалаўскім запаведнікам у Вязынцы, паркам Максіма Багдановіча ў Ракуцёўшчыне, архітэктурна-археалагічным комплексам у Заслаўі, Музеем беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, якія з гонарам нясуць сваю выхаваўча-асветніцкую ролю, збіраючы і штодзённа, і, яшчэ больш, у святочныя дні года нямала людзей, якія цікавяцца культурай народа.

У дачыненні да альпінізму на Беларусі трэба было б таксама прыняць нейкае канкрэтнае рашэнне. Відавочна, калі існуе такі від спорту і ёсць яго прыхільнікі ў рэспубліцы, то ім неабходны нейкія трэніровачныя базы. З-за адсутнасці натуральных умоў для трэніровак кожная з секцый уласнымі сіламі шукае выйсце са становішча. Вядомыя факты, калі падобныя трэніроўкі праводзіліся на мурах Мірскага замка, на раўбіцкім касцёле, на млыне ў Лошыцы, на царкве, што знаходзіцца на левым беразе Сажа каля Гомеля. Няма гарантыі, што гэты пералік поўны, бо да кожнага ж з помнікаў архітэктуры не паставіш вартаўніка. Дарэчы сказаць, тыя спартсмены, з кім давялося сутыкнуцца ў Плябані, адносяцца да секцыі горнага турызму. Калі альпіністы курыруюцца Рэспубліканскім камітэтам па фізкультуры і спорце, то хто ж апякае горных турыстаў? Гэтага мне самому высветліць не ўдалося. Але той ці іншы апякун мусіць паруціцца аб стварэнні належных трэніровачных умоў сваім падапечным. Тым больш, што і альпінізм, і горны турызм звязаныя з пэўнай рызыкай для жыцця. Пры вырашэнні гэтага пытання, відаць, адпадзе патрэба розным секцыям «самапасам» шукаць сабе «горныя стадыёны».

Трэба пракантраляваць вырашэнне пытання з былым касцёлам у вёсцы Плябань.

**І. ЧАРНЯЎСКІ,**
**начальнік аддзела археалагічных даследаванняў Беларускага спецыялізаванага навукова-рэстаўрацыйнага вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя».**



Футбольны слалам Сергея Алейнікава. Фота А. БАСАВА.

сваіх сілах, значна павысілася і тэхнічная падрыхтоўка, але ў той жа час адчуваеш, як не стае мінчанам таго ўнутранага яркага агеньчыка, які заўсёды гарэў у іхніх грудзях і ад яго, гэтага нябачнага агеньчыка, запальваліся, гарэлі ўсе дзевяноста мінут, сэрцы балельшчыкаў.

Таму і атрымліваецца, што мы бачым на полі дзве розныя каманды. Адна элегантная, нават падкрэслена артыстычная, упэўненая ў сваёй тэхнічнай перавазе, часам блiскучая ў імправізацыі, разыграе свой спектакль у цэнтры футбольнага дывана, другая — у штрафной пляцоўцы ці на падыходах да яе — выглядае разгубленай, няўпэўненай, нібы двоечнік на экзамене. Адкуль жа такія метамарфозы? Чаму замест усё ж такі прыемнага эпітэта «чэмпіёны па галявых момантах», ужо можна пачуць «каманда, якая не бачыць чужых варот...»

Безумоўна, у калектыве дынамаўцаў выраслі добрыя майстры і аб гэтым яскрава сведчыць тое, што многія з іх уключаны ў розныя зборныя краіны. Аднак, многае сёння насцярожвае.

Як бы вы, напрыклад, паставіліся да такога факта, што рэжысёр аднаго з вядучых тэатраў нашай рэспублікі за цэлы год не знайшоў часу зазірнуць у тэатральна-мастацкі інстытут — паглядзець спектаклі, якія паставілі маладыя артысты? Скажаце, што такога не можа быць, і, канечне, не памыліцеся. Сапраўды — неверагодная сітуацыя.

А што ў футболе? Валерый Пятровіч Чараваты, адзін з кіраўнікоў вядомай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы нумар пяць, якая дала пуцёўку многім сённяшнім дынамаўцам не толькі ў каманду майстроў, але і ў зборную краіны, з трывогай і болем расказваў мне, што за апошні час ён амаль не бачыў трэнераў «Дынама» не толькі на трэніроўках, але нават і на афіцыйных гульнях на прыз «Крыштальны мяч».

Ці не ад гэтага недагляду, недальнабачнасці цяпер у камандзе амаль не існуе канкурэнцыі, якая заўсёды стымулюе спартсменаў? І таму не сакрэт, што пакуль не будзе здаровай канкурэнцыі за права выйсці на суд гледачоў, цяжка разлічваць не толькі на чэмпіёнскае званне, але і на стабільнасць выступленняў. Вось менавіта гэтую акалічнасць і высвятліла «лістападаўская катастрофа» дынамаўцаў у мінулым годзе. Таму я і не вельмі здзівіўся, калі ўбачыў у заявачным спіску на сёлетні чэмпіянат прозвішча былога масcoўскага тарпедаўца Дазморава. Не сумняваюся, што ён здольны футбаліст, можа прынесці карысць камандзе, але, як некалі гаварыў Твардоўскі, «і ўсё ж, і ўсё ж, і ўсё ж...»

## 1986 год. Сакавік

Дык як усё ж такі «пераплысці «Днепр», ды і не толькі яго? На гэтае пытанне, мне здаецца, адказалі самі дынамаўцы сваёй гульнёй з бакінскім «Нафтчы». Надвор'е перашкодзіла мінчанам прымаць азербайджанскіх футбалістаў на сваім стадыёне і яны выбралі Брэст, горад, у якім некалі рабіў першыя крокі на трэнерскай сцяжынцы іх былы настаўнік. Не ведаю, бачыў Малафееў тую гульню ці не (галы, вядома, прааналізаваў у вячэрнім «Футбольным аглядзе»), але ж, мяркую, ён парадаваўся і за тых, хто рыхтуецца паехаць пад яго началам у далёкую Мексіку, і за тых, хто застанецца абараняць спартыўны гонар «Дынама» ў чэмпіянаце.

Другі тайм матча яскрава паказаў, якімі багатымі патэнцыяльнымі магчымасцямі валодае наша каманда. Быццам успомніўшы, што гэта іхняя прэм'ера перад брэсцкімі гледачамі, якія толькі на экранах тэлевізараў бачаць вялікі футбол, мінчане ўспыхнулі няроўным, але яркім полымем, і тады аказалася, што абарона гасцей, якая напачатку здавалася гранітнай сцяной, не такая ўжо і непераадольная перад няўтрымным жаданнем перамагчы. А трэці гол на апошніх секундах яшчэ больш узмацніў гэтае адчуванне.

Тады і падумалася: будзе для дынамаўцаў кожны матч прэм'ерай, — будзе і вялікі футбол.

●

Пачаўся красавік. І зноў мінчане прыпаднеслі «сюрпрыз». Два паражэнні запар... Ну што тут скажаш? Пачакаем.

**Алесь КРЫГА.**

# Сілан ГУСЕЎ



31 сакавіка 1986 г. на 89-м годзе жыцця пасля працяглай хваробы памёр пісьменнік, член КПСС з 1924 года, персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння Сілан (Сіла Нічыпаравіч) Гусеў.

Нарадзіўся Сілан Гусеў 14 жніўня 1897 года ў в. Калясянка Чавускага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Быў парабкам у памешчыка, з 1913 года працаваў на суконнай фабрыцы ў Пецярбурзе. За распаўсюджанне рэвалюцыйных пракламацый у 1914 годзе высланы з горада. Працаваў на пабудове чыгункі, служыў на Балтыйскім флоце.

У пачатку кастрычніка 1917 года залічаны на крэйсер «Аўрора». З атрадам рэвалюцыйных матросаў штурмаваў Зімні Палац. Служыў у Чырвонай гвардыі і Чырвонай Арміі, а таксама на Чарнаморскім флоце. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне і ў барацьбе з інтэрвентамі. Быў паранены.

З 1921 да 1930 года працаваў на партыйнай і савецкай рабоце ў Беларусі. У 1933 годзе ў Мінску скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі. Пасля — рэдактар літаратурнага альманаха «Атака», рэдактар радыёкамітэта, дырэктар Дома творчасці, кансультант у кабінеце маладога аўтара Саюза пісьменнікаў БССР, дырэктар Літфонду БССР.

У гады Вялікай Айчыннай вайны служыў у Савецкай Арміі. У пасляваенны час працаваў вучоным сакратаром Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, ва ўстановах культуры, друку Беларусі.

Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, ордэнамі Айчыннай вайны I і II ступені і медалямі.

Першае апавяданне Сілана Гусева было надрукавана ў 1933 годзе. На яго творчым рахунку — зборнік апавяданняў «За жыццё» і аповесць «Шлях юнака». У сваіх творах пісьменнік расказваў пра рэвалюцыю, людзей вёскі, іх барацьбу за новае сацыялістычнае жыццё.

Светлы вобраз шчырага чалавека, пісьменніка-камуніста Сілана Гусева назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**
**МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР**

**Саюз пісьменнікаў БССР з глыбокім жалем паведамляе, што на 89-м годзе жыцця памёр беларускі пісьменнік, удзельнік Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войн, член КПСС з 1924 года ГУСЕЎ Сілан Нічыпаравіч і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў Літаратурнага музея Якуба Коласа смуткуе з прычыны смерці былога супрацоўніка ГУСЕВА Сілы Нічыпаравіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# БІБЛІЯТЭКА САВЕЦКАГА РАМАНА

**У Дзяржкамвыдзе СССР распрацавана новая міжвыдавецкая кніжная серыя «Бібліятэка савецкага рамана» ў 70-ці тамах, выпуск якой ажыццявіцца ў перыяд з 1987 па 1989 год выдавецтвамі краіны.**

**Бібліятэку склалі лепшыя творы М. Горкага, М. Шолахава, К. Сіманава, А. Талстога, Ф. Абрамава, Ч. Айтматава, В. Астаф'ева, Ю. Бондарава, Г. Маркава, А. Іванова і іншых выдатных прадстаўнікоў савецкай шматнацыянальнай літаратуры.**

**Беларуская літаратура прадстаўлена раманамі І. Мележа «Людзі на балоце» і І. Шамякіна «Вазьму твой боль», якія выйдуць у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1987 годзе, а таксама аповесцю В. Быкава «Знак бяды», што рыхтуецца да выпуску ў выдавецтве «Советский писатель».**

**В. ВАЛЫНСКІ.**

# ВІЦЕБСК — ГОРАД МУЗЕЯЎ?

Не магу не адгукнуцца на артыкул «Зберагаць, аднаўляць, скарыстоўваць», які з'явіўся ў рубрыцы «Помнікі роднага краю». Сапраўды, у гэтай справе ў нас ёсць яшчэ шмат набалелых праблем, якія, безумоўна, даўно ўжо час вырашыць. Не трэба, мне здаецца, тлумачыць, якую вялікую ролю ў выхаванні савецкіх людзей могуць і павінны адыгрываць помнікі нашага дойлідства.

У артыкуле Віцебск адзначаўся з нялепшага боку, а гэта ж адзін са старэйшых гарадоў Беларусі, які адыграў значную ролю ў яе гісторыі, які меў выдатныя помнікі архітэктуры. На жаль, многія з іх страчаны, у тым ліку і ў нядаўні час. Нельга сказаць, што ў горадзе зусім нічога не робіцца па захаванні помнікаў архітэктуры, праводзіцца, хоць і вельмі марудна, рэканструкцыя старога цэнтра горада. Добрыя і сапраўды кваліфікаваныя рэстаўрацыйныя работы праводзяцца зараз у будынку былой ратушы. Але даўно чакаюць аднаўлення Благавешчанская царква XII ст. (а такіх жа помнікаў на Беларусі адзінкі!), касцёл Базіліянскага кляштара, касцёл св. Варвары, царква на вуліцы Леніна (насупраць будынка абласной бібліятэкі). Ніякіх канкрэтных планаў па рэстаўрацыі гэтых помнікаў няма. У той жа час у горадзе шмат будуюць (і плануюць будаваць) новых культурна-асветных устаноў. Стала вядома, напрыклад, што зала камернай музыкі, якая сапраўды даўно патрэбна гораду, будзе размешчана ў адным з памяшканняў новай гасцініцы. Хто будзе спрачацца, што помнік старажытнай архітэктуры для гэтай мэты падыходзіць намнога лепш?

Не можа старажытны Віцебск пахваліцца і сваімі музеямі. Па сутнасці, іх толькі два — краязнаўчы і музей М. Ф. Шмырова. Ствараецца, хоць і не вельмі шпаркімі тэмпамі, музей старажытнага Віцебска. Для горада з больш чым 1000-гадовай гісторыяй і 350 тыс. насельніцтва, згадзіцеся, гэта не шмат, асабліва калі параўнаць з суседнім Смаленскам або літоўскім горадам Каўнасам, з якімі Віцебск спаборнічае. У Смаленску і Каўнасе існуюць дзесяткі музеяў.

Узнімалася пытанне аб стварэнні ў нас мастацкага музея, бо віцебская школа жывапісу вядома не толькі ў Беларусі, асобныя яе прадстаўнікі сталі сусветна вядомымі мастакамі. З такой прапановай выступіў Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя С. М. Кірава. Узнікае, перш за ўсё, пытанне аб памяшканні. Але ж больш добрага рашэння, чым прыстасаванне для гэтай мэты аднаго са старажытных гарадскіх будынкаў, знайсці нельга. Тым больш, што многія работы маглі б зрабіць студэнты і выкладчыкі нашага інстытута, ды і іншыя ВНУ не адмовілі б у дапамозе.

Зроблены першыя крокі па стварэнні літаратурнага музея Віцебшчыны, але работы яшчэ вельмі шмат, патрабуецца і афіцыйная падтрымка, і кваліфікаваная дапамога. А музей сапраўды мог бы быць выдатны — дзесяткі, калі не сотні сыноў і дачок віцебскай зямлі пакінулі свой след, часам вельмі значны, і ў беларускай, і ў рускай, і ў польскай літаратуры. Шмат пісьменнікаў іншых народаў тым ці іншым чынам былі звязаны з Віцебшчынай.

Хацелася б звярнуцца да пісьменнікаў-віцябчан з просьбай падтрымаць нашыя намаганні. З задавальненнем сустрэліся б з вамі ў нашым музеі, вельмі б дапамаглі нам вашы парады і экспазіцыйныя матэрыялы.

Трэба адзначыць і той факт, што прапаганда лепшых помнікаў беларускага дойлідства таксама павінна быць лепшай. Чаму б не выдаць набор паштовак «Архітэктурныя помнікі Беларусі»? Упэўнены, яны б мелі попыт. Адлюстраванні помнікаў мінулага маглі б упрыгожыць календары — як вялікія, так і маленькія. Ды і добры фотаальбом, накшталт вядомага «Памяць зямлі беларускай», не ляжаў бы доўга на паліцах кнігарань. Настаў час і для таго, каб выдаць альбом «Гарадскі пейзаж Беларусі на карцінах мастакоў XVI—XIX стагоддзяў».

У заключэнне хочацца сказаць, што пытанні, узнятыя ў артыкуле «Зберагаць, аднаўляць, скарыстоўваць», вельмі надзённыя, на іх, несумненна, адклікнуцца многія чытачы «ЛіМа», усе, хто не абыякавы да лёсу помнікаў нашай культуры.

**С. ЯКАЎЛЕЎ,**
**выкладчык кафедры рускай мовы і літаратуры Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава.**

### НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

# «Залаты ключык» Алены Лось

...Ліфт узняў мяне на дзевяты паверх аднаго з сучасных жылых дамоў, што па вуліцы Сурганава. Менавіта тут і знаходзіцца гэтая творчая майстэрня — залітае промнямі сонца прасторнае памяшканне для паўсядзённай працы мастака-графіка. Здавалася б, няма патрэбы засяроджваць увагу на інтэр'еры рабочага кабінета. І ўсё ж першае ўражанне ад рэчаў, што жывуць побач з творцай, шмат што могуць сказаць пра гаспадара, непрыкметна праявіць тую прыцішаную атмасферу духоўнасці, якая пануе вакол ягоных думак, схільнасцей, памкненняў і якая ў чымсьці раскрывае характар чалавека, тлумачыць адносіны яго да жыцця.

Пра што ж расказалі рэчы ў гэтай майстэрні? Вунь тая безліч букетаў засушаных палявых кветак, што стаяць на светлых драўляных паліцах, нягучна апавядаюць пра тое, як любіць Алена Георгіеўна паблукаць па сцежках роднага краю і як хоча, каб кавалачак гэтай вытанчанай прыгажосці быў пастаянна перад вачамі. А унікальныя калекцыі чорнаглянцаванай керамікі, разьбы па дрэве, глінянай цацкі нібы сведчаць: мастачка глыбока шануе і захапляецца тым, што стагоддзямі перадавалі з пакалення ў пакаленне рукі народных майстроў, іх фантазія, густ і самабытны талент.

Кнігі... Іх у майстэрні мноства. Гэта зусім зразумела: мастацтва кніжнай графікі — галоўная справа жыцця Алены Лось.

Мы сядзім за шырокім рабочым сталом гаспадыні майстэрні. Наша гутарка — пра апошнія выданні кніг для дзяцей, якія яна аформіла, пра тое, над чым мяркуе працаваць надалей.

Ведаю, што А. Лось за трыццацігадовы шлях сваёй творчай дзейнасці праілюстравала каля сотні літаратурных выданняў, што сёння, бадай, не знойдзеш сярод маленькіх чытачоў рэспублікі таго, хто б не трымаў у руках кніжкі гэтага майстра, не разглядаў уважліва маляўнічыя «карцінкі» на яе старонках.

Вось і я з цікаўнасцю гартаю цудоўна выдадзены зборнік невялікіх навел пад назвай «Дзесяць дзён у Барку», які выдавецтва «Юнацтва» выпусціла ў свет для «дашкалят». Такая кніжка не можа не здзіўляць! Кожная ілюстрацыя ў ёй, як маленькае самастойнае жывапіснае палатно са сваім сюжэтам, вобразамі, кампазіцыяй. Мне падалося, што Алена Лось лёгка і проста вырашыла тут сваю творчую задачу, што ёй не давялося назапашваць эскізы, пакутаваць над белым аркушам паперы: малюнкі нібы сатканы з жыццесцвярджальных колераў і адценняў, прасякнуты імгненнасцю задумы.

— Ці так гэта, Алена Георгіеўна? — пытаюся ў мастачкі. — Здаецца, што «Дзесяць дзён...» зроблены, як кажуць, на адным дыханні. Да таго ж вельмі зацікавіла і тое, што кніжка цалкам належыць вашай творчай фантазіі: аўтарам тэксту таксама з'яўляецеся вы. Як нарадзіліся гэтыя апавяданні? Ці ёсць сапраўды такі Барок на зямлі?

Алена Георгіеўна ўсміхнулася і пасунула кніжку бліжэй да сябе:

— Так, гэта менавіта той шчаслівы выпадак, калі адразу было ясна, што маляваць... Пяць гадоў запар я ездзіла ў вёску Млынок, што стаіць на беразе Прыпяці ў Жыткавіцкім раёне. Палюбіла гэтыя мясціны, дзе шмат каштоўнага матэрыялу назапасіла для творчай працы. Тыя мае жыццёвыя і мастакоўскія назіранні, як бачыце, спатрэбіліся для «Дзесяці дзён у Барку»... Памятаю, мы з сынам выправіліся ў Млынок дажджлівай парою. Рэчка ў той час так разлілася, што стала падобнай да вялікага возера, а вёска — нібы маленькі астравок у ім. Паўсюль — вада. Але жыццё вясковае ні на хвіліну не заціхае, віруе сабе, і ўсё больш на рачулцы: тут кабеты і бялізну мыюць, і жбаны, а дзятва, здаецца, і наогул з вады не вылазіць, плёскаецца побач з качкамі, гусямі. А наўкол такая незвычайная прыгажосць, што не стрымалася: вырашыла расказаць пра гэта не толькі фарбамі, але і словамі...

— Ну, а навелка «Цудоўныя кветкі цёткі Алены»? На ілюстрацыях такія дзівосныя, з непаўторнымі карункамі тканыя посцілкі, сурвэткі, ручнікі. Адкуль гэта?

— Неяк мы завіталі ў хату мясцовага каваля. Я ахнула, калі ўбачыла тыя рэчы! Высветлілася, што ўсё стварыла кавалёва жонка — выдатная вясковая майстрыха. Мне засталося занатаваць гэтыя ўзоры ў сваім рабочым альбоме. Вось так інтэр'ер кавалёвай хаты з яго начыннем, вядома, крыху стылізаваны, перабраўся на старонкі кнігі. Гэтаксама, як і сабака Босы, старая каза Малюта з вёскі Млынок апынуліся ў маім Барку...

У той дзень у майстэрні Алены Лось давялося пераглядзець шмат выданняў, праілюстраваных гэтым таленавітым майстрам кніжнай графікі. І зноў пераконваешся: яе стыль сапраўды непаўторны. І гэта не трывіяльны эпітэт. Мастачка ніколі не рабіла свае ілюстрацыі ні пад народны лубок, ні пад дзіцячы малюнак, ні пад «дарослую» карціну. Яна проста ўмее чытаць тэкст, звернуты да дзіцяці, умее зусім па-дзіцячы захапіцца ім, уявіць казку або прымаўку так самабытна, ярка, нібы адкрываючы свет прыроды наноў, здзіўляючыся ягонай шматфарбнасці, рытмам пастаянна, з дня ў дзень. Навучыцца гэтаму, відаць, не магчыма. Такая шчаслівая якасць уласціва толькі натуры, надзеленай фантазіяй.

— Мо таму так пяшчотна ставіцеся да казкі? — зноў звяртаюся да А. Лось. — Вам давялося «апрануць» у мастацкую вопратку дзесяткі узораў гэтага жанру народнай творчасці...

Алена Георгіеўна паклала перада мной вялікія лісты-эскізы, на якіх пасяліліся казачныя героі. Варыянтаў малюнкаў столькі, што хапіла б не на адно выданне. Вось рабочыя накіды да «Беларускіх народных казак»: тут усё больш вобразы лясных жыхароў — мядзведзя, лісяня, зайчаня... А гэта эскізы ў чырвона-вохрыстых танах — да «Залатой яблынькі», вось і яна сама, прыгажуня-яблынька з налітымі пладамі, якую хлопчыкі і дзяўчынкі ўжо бачылі на кніжнай вокладцы...

Узнёсла-рамантычны Іван Світаннік паўстае перад вачамі ў дзесятках каляровых накідаў, у кнігу ж увайшлі толькі нямногія. Ляціць-імчыць з ліста яшчэ адзін папулярны герой, якога ўсе мы ведаем і любім з дзяцінства. Гэта — славуты «Канёк-Гарбунок»...

— Наўрад ці сустрэнеш чалавека, які б не любіў казку, — нібы падхоплівае мае думкі Алена Георгіеўна. — Вось чаму на мастака тут кладзецца асаблівая адказнасць. У малюнку, выкананым да дзіцячага выдання, павінен быць свой чарадзейны «залаты ключык», які адчыніць дзверы ў таямніцу казкі, што бярэ нас у палон з маленства адвечным супрацьборствам дабра і зла...

— Відаць, «залаты ключык» вы падбіраеце да кожнай сваёй кніжкі, над якой працуеце?

— Як жа без яго абысціся?! Але паўтарацца нельга. Прыгадаю нядаўнюю сваю работу. Гэта серыя з трох кніжак пад назвай «Светлячок». Адрасавана яна дзецям рознага ўзросту. Тут сабраны класічныя творы рускіх і беларускіх пісьменнікаў, казкі, прымаўкі, лічылкі, якія выдаюцца на дзвюх мовах. Асабіста я працавала над другой па ліку кніжкай — для дзяцей ад пяці да сямі год. Яна тэматычна разнастайная: тут і сучаснасць, і Вялікая Айчынная вайна, і казкі. Усяго зрабіла канчаткова каля трыццаці палосных ілюстрацый, не лічачы разнастайных заставак на палях...

Пакуль гаспадыня майстэрні хавае ў папку рабочыя эскізы, я думаю пра тое, што ўбачыла. Не толькі наўмыснасці, але нават знешняй «сочиненности» не сустрэнеш у ілюстрацыях мастачкі. Яна проста не здольная быць у чымсьці няшчырай, яе разец, аловак або пэндзаль ідуць толькі за жывым непасрэдным назіраннем. «Вось так мы жывём, — нібы гавораць героі яе твораў, — такія ў нас песні, легенды, паданні, такія дрэвы, лес асенняй парой, такія цудоўныя людзі!» Вось чаму мастацтва яе па сваім духу блізкае народнай творчасці. І ўменне адлюстраваць слова пісьменніка праз нацыянальнае — адметная рыса кніжнага графіка Алены Лось.

— Як працуеце над вясковай тэмай? — звяртаюся да яе. — Па ўсім відаць, што яна блізкая вашаму мастакоўскаму светапогляду.

— Нельга адлюстраваць жыццё вёскі, калі яго не ведаеш. Мастак не адбудзецца без падарожжаў па родным краі, страціць шмат істотнага. Вось чаму так часта выпраўляюся ў вандроўкі па Беларусі. Асабліва люблю палескія краявіды, сваю вёску Ружаны, дзе правяла дзяцінства. У гэтых мясцінах і сёння захаваліся самабытныя рамёствы, унікальныя народныя касцюмы, гаспадарчыя прылады, старадаўнія лубкі, вырабы з саломкі, лёну... Калі, напрыклад, працавала над «Летам у серванце» Міколы Янчанкі, дык успомніла, як матуля завязвала гарлачыкі з малаком лісцем папараткіка, і адлюстравала потым гэта на адной з маленькіх заставак. І цяпер, калі ўбачу ў вёсцы штосьці прыкметнае, толькі ёй уласцівае, адразу раблю ў альбоме накід. Пагадзіцеся, ну як, напрыклад, можна выдумаць такі вось сервант або чырвоную з белым камоду і блакітныя сцены? Летась у вёсцы Дарашэвічы я «падгледзела» такі незвычайны інтэр'ер у бабульчынай хаце. Дарэчы, я шмат фатаграфую, але ніводны здымак не можа так перадаць дэталі, як малюнак...



— Ваша задача — «ажывіць» зрокава літаратурны твор. Што найбольш важнае, на вашу думку, у гэтым працэсе?

— Не быць банальна дакладным. Ілюстрацыя, калі яна ўсяго толькі адпавядае тэксту, проста ідзе за ім, добрай ніколі не атрымаецца. Але разам з тым трэба ведаць тэкст, як кажуць, ад «а» да «я». Вось, напрыклад, «Габрынька і Габрусь» паэтэсы Дануты Бічэль-Загнетавай. Макет да гэтай кніжкі рабіла дзесяткі разоў, ды і сам тэкст чытала неаднойчы. Ну, як ты намалюеш на застаўцы пасля верша чарніцы, калі тут гаворка ідзе пра суніцы? Паўтараю, літаратурны твор трэба ведаць дасканала, але «расквечваць» яго фарбамі, вобразамі толькі тады, калі зжывешся з ім, па-мастацку пераасэнсуеш...

Гутарку нашу перапыніў тэлефонны званок. Пакуль Алена Георгіеўна размаўляе, я перагортваю старонкі кніжкі «Крылаты цэх» пісьменніка Валянціна Лукшы. Будзьце дабрэйшымі да лесу і ракі, да птушкі на галінцы і красачкі ў лузе, да ўсяго, што стварыла прырода зямная для нас, людзей, — нібы заклікае мастачка сваімі ілюстрацыямі. Гэтая дабрата, шчырасць чалавечых пачуццяў — і ў «Вясне» Канстанцыі Буйло, «Загадках» Н. Гілевіча, словам, ва ўсім, да чаго дакранаюцца рукі графіка. Можна толькі падзівіцца яе здольнасці ў вышэйшай ступені ярка і вобразна выплеснуць на паперу эмацыянальны напал літаратурнага твора.

— Колькі кніжак за год выходзіць з вашай творчай лабараторыі? — пацікавілася я.

— Адна-дзве. Цяпер вось зноў узялася за казку, якая называецца «Разумная дачка», прапанавала яе выдавецтву «Юнацтва». Мяркую зрабіць яе буйным серыйным фарматам. Хочацца, каб гэтая кніжка пра дзяўчынку-сямігодку атрымалася не толькі прыгожай, але і пазнавальнай. Буду зноў пісаць ілюстрацыі тэмперай, якая дае больш яркі каларыт. Тады малюнкі атрымаюцца сакавітымі...

— Ну, а бывае, калі работа, як гаворыцца, «не ідзе»? Чым тады займаецеся?

Алена Георгіеўна засмяялася і паказала на палічку, дзе выстраіліся драўляныя лялькі:

— Тады выпальваю па дрэве. Бачыце, гэта звычайныя прылады працы любой гаспадыні — рознага памеру таўкачыкі. Я іх ператвараю ў казачных прыгажунь. Вунь адна з іх — Шамаханская царэўна. Калі ж сур'ёзна, дык еду на прыроду, пішу алеем, акварэллю...

...Некалькі гадзін сустрэчы ў майстэрні хутка праляцелі. Я развітваюся з гаспадыняй, шчыра гавару ёй словы ўдзячнасці, захаплення. Але яна, відаць, больш прыдзірліва вымярае вартасці сваіх твораў, чым самы дасціпны крытык мастацтва. І ў адказ мне прагучала: «Няўжо так спадабалася?» Я разумею: гэта не жаночае какецтва. Гэта — душэўны стан творцы, які заўсёды сумняваецца, адчувае незадаволенасць сабой і шукае, шукае зноў...

Л. КРУШЫНСКАЯ.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 05649 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела тэатра і выяўленчага мастацтва — 33-21-53, аддзела музыкі і кіно — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і машынапіснага бюро — 33-44-04, фоталабараторыі — 33-24-62, выдавецтва — 23-52-85, бухгалтэрыі — 23-77-65, карэктарскай — 32-20-64.

Рэдакцыя прымае і разглядае апавяданні, нарысы, артыкулы — да 12 старонак, рэцэнзіі, інтэрв'ю, карэспандэнцыі, нататкі — да 6 старонак, вершаваныя творы — не больш як 150 радкоў. Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы ў двух экземплярах.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.